Што недзе дзынкае
над падаллю
жоўтая муха
І кроў сасе ў пячорах нежывога сэрца.
Яму казаў Развой: — Здаецца,
Ў нас пра цябе была гаворка ўчора...

— Вы думалі, што кожны мае ў сэрцы
Даўнія, для жоўтых мух, пячоры?
Казаў Развой: — Я знаю, ты другіх дарог,
Тады як мы — дарог старэчых...
Але...

...Прыйшоў Гандляр.
Яны сядзелі ўтрох.
І так казаў з іх трэці:
— Мне здаецца... Я чуў,
Вы чалавек разумны, добры, чулы?

Ю н а к

Так, у мяне лірычнае сэрца,
Ўсё тое праўда,—
напэўна, пра мяне вы чулі
Яшчэ, што я вам спачуваю?

Г а н д л я р

Калі яшчэ не чулі, дык пачулі...

Ю н а к

Вы чалавек разумны.
Пра вас далёка чуваць,
Вы славіце паэтаў на кожнай вуліцы!

Г а н д л я р

Вы хочаце?.. Адно толькі ваша слова,
І будуць вам славу крычаць мае хлапчукі.

Ю н а к маўчыць.

Развой

Скажыце яму, на якіх умовах...

Гандляр *(да Юнака).*

А пасля — права вашай рукі?

Юнак *(усміхаецца).*

А пасля — поціск маёй рукі.

Гандляр *(п'е).*

Я хачу, каб вы напісалі хроніку маіх продкаў:
Няхай яны праліваюць за рэвалюцыю кроў,
Няхай яны ворагамі не робяцца ніколі...

Юнак

Накідаць кволы тургенеўскі пейзаж,
Паставіць на могілкі
некалькі кляноў і бярозак
з восені савецкай,—
І няхай у сэрцы вашых продкаў
шуміць чарнаморскі пляж
І вечары гулянак свецкіх?

Гандляр *(п'е).*

Таксама і могілкі трэба дагледзець,
Няхай бярозкі
вартуюць
кроўныя пакаленні...

Юнак

Няхай сыплюцца
кружочкі золата і медзі
На іх галовы
з родзічавае кішэні...
Вы хочаце, каб я напісаў
хроніку вашых продкаў?

Гандляр *(п'е).*

Каб яны праліvалі за рэвалюцыю кроў
І елі з катаржацкае місы
полудзень нішчымны,
Каб яны цягалі
па горах сібірскіх пароды...

Юнак

Але спачатку я павінен ведаць прычыны,
Якія вас прымусілі
згадаць
пра хроніку продкаў...

Гандляр *(п е).*

Хіба вы не бачыце самі,
Як падыходзяць другія часы?..
Хіба не прыйдзе апошні дзень маёй крамы,
Калі кожны лічыць, што я чужы?
Хоць бы сягонняшняе здарэнне,
Калі беспрацоўныя нават
пачалі мяне
лаяць і карыць...

Юнак

Якраз дараслі вашыя карэнні
Да той глыбіні,
калі іх трэба падрыць.

Гандляр

Да глыбіні, калі іх трэба падрыць?

Юнак

Калі іх трэба вырваць нават,
Голымі, без жаднае акрасы.

Гандляр

Хто вам дазволіць вырваць нават?

Юнак *(усміхаецца).*

Хто? Класавая нянавісць...

Гандляр

Што ж вы без мяне будзеце рабіць?

Юнак

Усё, што не можам рабіць з вамі разам.

Гандляр

Дак вы напішыце пра час калішні,
Трохі бярозак... і болей... чырвонага колеру,
Напішыце,
што ўсе мы з-пад царовай шыбеніцы
выйшлі!

Юнак

Што вы, жартуеце?
*(Устае.)*
Ніколі.

Гандляр *(устае).*

Пішыце хроніку продкаў. Пішыце болей,
І ваша слава будзе створана маімі рукамі,
Пішыце, з якім
(за продкаў)
болем,
З якой любоўю
(да рэвалюцыі)
крычу я ў краме:

«Паспрабуйце заморскіх він,
І будуць вашыя шчокі, як ружы!»

Ю н а к *(кпліва).*
«Чычыкаў адчыняе магазін,
Будзе прадаваць гогалеўскія душы!»

Гандляр хоча ўсміхнуцца, але не можа.

У вашых продкаў сталёвая на могілках
агарожа
Вам трэба іх апрануць у чырвоны колер?
Я гэтага вам не напішу.
Чуеце?
Ніколі.
Памятаеце, як палацы гарэлі?
Вы тады не мелі права нікога карыць...
І цяпер
якраз дараслі
вашы і Худавы карэнні
Да той глыбіні,
калі іх трэба падрыць.

*(Развітваецца.)*

Мне некалі быць з вамі
ў люстравым дыме,
Роўны лік налічылі гадзіннікі,
І мне трэба ехаць цягніком на радзіму,
У тыя мясціны,
дзе некалі
маці радзіла.

Ідзе.

Г а н д л я р *(на вуха Развою).*

Ты яго не слухай...
Яны нам нічога не зробяць...

Развой

А можа, яны так, як некалі ў час вайсковы?

Гандляр

Ты не зважай на гэтыя дробязі.
Галоўнае, што ў мяне
ёсць таварыш Худ,
адзін вясковец...
Ты ж памятаеш,
як мы ў семнаццатым
іх стрэлі?..

Развой

Але ж цяпер не такі час.

Гандляр

І той з іх адчуе,
што такое глухія стрэлы,
Хто будзе больш ад усіх крычаць.

Развой

Але яны нас знішчаць эканамічна!

Гандляр

І гэта будзе прадугледжана намі.
Я толькі смяяцца з іх буду,
Калі яны будуць хадзіць
голыя,
толькі пры адным
чырвоным банце.

Развой

Але ж яны будуць будаваць...
Яны будуюць!

Гандляр

Яны не будуць будаваць...
Я сплаўлю іх валюту
у кантрабандзе.

Развой

Але ж яны ведаюць,
Што ты іх вораг люты!

Гандляр

А ты лірычным словам іх сэрцы крані...
У мяне будзе праз тыдзень
кантрабанды
на тысячу рублёў валюты,
І ты атрымаеш замежнае паліто
і гарнітур.

Развой

Вядома, я гэтае буду мець...

Гандляр

І ты напішаш пра кроўныя пакаленні.
Чакай... Хто гэта сказаў:
«Сыплюцца кружочкі
золата і медзі
На іх галовы з родзічавае кішэні»?
У гэты час
мяжу пераходзілі
два кантрабандысты,
І адзін з іх быў забіты;
Гэта быў той,
каго Мікола запрашаў на дыспут:

Госць Гандляра,
брат Худа
і ўдзельнік у паўстанні
Стракапытава.
А калі яго цела на заставу ўзялі,
У кішэні быў знойдзены
пагранічнікам чырвоным
Рукою Гандляра напісаны ліст,
Кольт...
і дзвесце савецкіх чырвонцаў.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Праблема душы і рацыі

### РАЗДЗЕЛ I

**Дзейныя асобы:**

Бухгалтар калгаса — Ж ы г н е р.
Мае гаспадарку.
Слыве за культурнага чалавека.
Да яго прыехаў у адпачынак
яго сын — І н ж ы н е р.
Яго дачка А ў г і н к а — загадчыца аптэкі.
Я к у б о в і ч — сакратар ячэйкі КСМ,
старшыня калгаса
і Аўгінкін муж.

Б о н д а р
Б а р г у т а — члены праўлення калгаса,
Жыгнеравы сябры.

Калгаснік камсамолец А л е с ь К а л у ж н ы.
З о т а л ь
А г у т } — камсамольцы-трактарысты.
Ю н а к

Дзея адбываецца на яго радзіме,
У хаце Жыгнера, у выхадны дзень.

У хаце Ж ы г н е р з д а ч к о й і с ы н а м .

Ж ы г н е р

У бухгалтара горырознай працы,
*(дэкламуе)*
А бухгалтар больш зоры сочыць,—
Адгэтуль у бухгалтара
праблема душы і рацыі...

А ў г і н к а

Яго думаюць паслаць лячыцца ў Сочы.

І н ж ы н е р

І такое можа стацца,
Гуляючы з агнём,
папаліш рукі,
а не толькі пагрэеш.
Ёсць яшчэ праблема...

Ж ы г н е р

Ліквідацыі кулацтва?

І н ж ы н е р

А мне здаецца...

Ж ы г н е р

І ў нас такі «грэх»...
*(Дэкламуе.)*
Нягледзячы на маю праблему
душы і рацыі,
Калі рукі пішуць лічбы,
а вочы зоры сочаць...
Ты чуеш?
За лепшую працу
Калгас мяне пасылае лячыцца ў Сочы...
У кожнага свой сродак...
І от я першы пайшоў да іх,

Я першы забраўся ў калгасны асяродак,
Спачуваючы... працуючы...
*(на вуха сыну)*
і ў праўленне ўцягваючы сваіх.

Інжынер

Так...

Жыгнер

Бачачы, што трактар добры арганізатар...

Інжынер

Ты, вядома, ужыў сродак другі?..

Жыгнер

Я тлумачыў Якубовічу,
што не сягоння, дык заўтра
Трактар заменяць электрычныя плугі.

Аўгінка

І муж казаў, што ты чалавек вялікі,
і начальнік,
І арганізатар неблагі...

Жыгнер

А як вынік, сёлета трактары маўчалі.

Інжынер

А працавалі?

Жыгнер

Конныя плугі.
Знаеш... Галоўнае ў гэтым — сродак,
Ёсць яшчэ добры сродак — гарэлка.

Інжынер

Іх трэба падкапаць так...

Ж ы г н е р

З сяродку.

І н ж ы н е р

Але ўсё ж ткі, як гэты самы?..

Ж ы г н е р

Наш «грэх»?

*(Гучна.)*

А ты, Аўгінка, набярыся мужнасці.
Ненадоўга... На нейкі час
Ты павінна так ставіцца да Калужнага,
Быццам ты да яго нешта маеш.

А ў г і н к а

Але ж я кахаю мужа!

Ж ы г н е р

Я кажу: ненадоўга... На нейкі час.

А ў г і н к а

Навошта гэта?

Ж ы г н е р

Мне трэба...

А ў г і н к а

Ты ўсё ад мяне ў сакрэце трымаеш.

Ж ы г н е р *(дэкламуе).*

Аб зоры вочы не застрэміш,—
Бухгалтару мрояцца ў зорах грацыі,
А рукам цесна на папяровай плошчы —
Гэта ёсць праблема душы і рацыі...

Інжынер

Можа, мы пройдземся да пошты?

Выходзяць.

Аўгінка

Заўсёды ў майго бацькі такая грубасць.
Ён мне наказвае строга
Яго слухацца, бо іначай ён загубіць
Майго мужа,
а сам пойдзе ў астрог.
Але я яму не дам
падступіцца і блізка.
Я яму не дазволю
над маім каханнем
глуміцца надта,
Я тады сама атручу яго,
Як некалі Луіза
Атруціла свайго Фердынанда...
І тады ніхто не залечыць майго адвечнага болю[1].

Уваходзіць Якубовіч.

А, гэта ты, мой ясны сокал!

Якубовіч

Я табе даўно кажу, што не лётаю высока.

[1] Гэта не аўтарава памылка,
а Аўгінчыны словы,
Яна чытала Шылераву драму
і да сэрца
прымала блізка,
Таму яна пераблытала
падзеі эпізоду асноўнага.
У сапраўднасці ж
Фердынандам была атручана Луіза.

А я даўно знаю,
што пад тваімі крыламі
мне лётаць не нізка…

Паўза.

Я нікому не дам
падступіцца да цябе і блізка.

Якубовіч адчыняе на вуліцу акно.

Які сягоння дзень, проста сонца адно!
Колькі ў гэтым лісці бярозкі экзотыкі,
Тут пачынаецца паэзія чэрвеньскай лужыны!
*(Глядзіць па вуліцу.)*

А унь ідзе Калужны, Агут і Зоталь!

Якубовіч

Хадзеце сюды!
Агут, Зоталь, Калужны!

Яны падыходзяць.
Аўгінка ляпае пальцамі аб шыбу.

Куды гэта вы?

Зоталь

На рыбу!

Якубовіч

А навошта вам гэтыя рыдлёўкі?

Агут

А гэта, братка…

Зоталь

Капаць зямлю…

К а л у ж н ы *(паказвае па зямлю).*

Там далёка
Адкапаем срэбра, медзі, жалеза...

А г у т

Ці, прасцей кажучы...

З о т а л ь

Думаем адкапаць фасфарыты!

К а л у ж н ы

Мы ў самы глыб залезем,
Не можа быць, каб не адкапалі фасфарыты.

А г у т *(да Якубовіча).*

Ты думаеш, у нас толькі...

З о т а л ь

Балоты ды жабы?

А г у т

У нас будуць фасфарыты...

З о т а л ь

Не можа не быць!

К а л у ж н ы

А ты, таварыш Якубовіч,
Не быў у новым лесе?

Я к у б о в і ч

Н е !

К а л у ж н ы *(жартаўліва).*

Ты толькі з Жыгнерам
контррэвалюцыю разводзіш?

А г у т

Які тамака шум стаіць уверсе!

З о т а л ь

Вось дзе
Вынікі!..

А г у т *(да Зоталя).*

Памятаеш, як мы карчы карчавалі,
Палілі на вогнішчы старыя галіны...

З о т а л ь

Там у кожным дрэўцы
праца наша чуваць,
А цяпер гэта...

А г у т

Шум стаіць уверсе...

З о т а л ь

Скарб краіны!

К а л у ж н ы

Ідзём, хлопцы!

А г у т

Бывай, Якубовіч!

З о т а л ь

Нам ужо час!

А ў г і н к а

Пачакайце, Калужны,
у мяне справа да вас

Выходзіць.

Я к у б о в і ч *(глядзіць у акно).*

Пайшлі капаць фасфарыты і вудзіць...
Да іх падышоў Юнак...
Ён нясе вуды.
Так. Усе яны тут гаварылі,
быццам я ім чужы.

Дзверы адчыняюцца, уваходзіць Ж ы г н е р.

Ж ы г н е р

А вось і я.
Паважаны таварыш,
Вам сягоння ліст...
Сядайце...

Я к у б о в і ч

Што ж, давайце марыць.

Ж ы г н е р *(усміхаецца).*

Пра зоры?

Я к у б о в і ч

Марыць пра ўсё тое, што на зямлі...

Ж ы г н е р

Марыць пра ўсё тое, што на зямлі!

Я к у б о в і ч

Мне хочацца думаць, як некалі...

Ж ы г н е р

Мы арганізоўвалі калгас?

Я к у б о в і ч

Як ён адразу ўзрос,
Калі трактар пераканаў нашага чалавека,

І той упэўнена казаў:
«Схапіў маю палоску і панёс!»
У гэтым трактары ўся сіла,
уся маладосць...

Ж ы г н е р

Я не разумею цябе...
Ты азіраешся назад.
Паказалі мы ім гэты трактар, і досыць.
А цяпер яго трэба прадаць,—
Трэба глядзець уперад, у Заўтра...

Я к у б о в і ч

Ты кажаш, прыйдзе іншая радасць,
Прыйдзе лепшы арганізатар, другі?

Ж ы г н е р

Так, я кажу пра электрычныя плугі!

Я к у б о в і ч

А цяпер хлопцы пайшлі капаць
Фасфарыты...

Ж ы г н е р

Як, фасфарыты?

Я к у б о в і ч

Вельмі проста.
Хлопцы заняліся вынаходніцкай
вялікай працай...

Ж ы г н е р

Кінь ты,
тут толькі
вольнае паветра,
гарэлка, сяброўства.

Ведаю я гэту зямлю, тут з вякоў
Нічога не было, акрамя журавін, ды купін,
Ды балота, што расцягнулася вакол...
Гэтую зямлю задарма прадасі і купіш.

Паўза.

Хто гэта пайшоў капаць, Калужны?

Я к у б о в і ч

Юнак, Зоталь, Агут, Калужны.

Ж ы г н е р

У мяне да цябе сакрэт, дружа...

Я к у б о в і ч

Ну?

Ж ы г н е р

Я заўважаю, што Аўгінка можа табе здрадзіць.

Я к у б о в і ч

Яна... Якая кажа мне:
«Сокал мой, мая радасць!»

Ж ы г н е р

Я заўважаў, яна з Калужным,
Калі цябе няма, гуляе часта...

Я к у б о в і ч

Як?

*(Рве ліст.)*

І сягоння яна сказала:
«Пачакайце, у мяне справа да вас!»

*(Чытае ліст.)*

«Трэба паслаць камсамольца
на працу ў Данбас!»

І сягоння яна сказала:
«Пачакайце, у мяне справа да вас!»
Камсамолец Калужны мабілізуецца
на працу ў Данбас!
Чуеце! Камсамолец Калужны едзе
ў шахты на Украіну!

Ж ы г н е р

Правільна.

*(Дэкламуе.)*

Каб сэрца не застрэміла калючка!
Мне за цябе было крыўдна, балюча...
Я ж цябе люблю, як роднага сына!

Якубовіч ідзе да акна,
Ляпае пальцамі аб шыбу.

Ж ы г н е р *(дэкламуе).*

Каб сэрца не застрэміла калючка!

Уваходзіць А ў г і н к а .

Я к у б о в і ч

Якая ў цябе справа была да Калужнага?

А ў г і н к а

Я прасіла яго...
Каб ён прынёс...
Нам рыбы...

Я к у б о в і ч

А?

Вечар. За сталом сядзяць п ' я н ы я г о с ц і .
А ў г і н к а чытае ля грубы.

Ж ы г н е р *(ціха да сына).*

Ты Калужнага ў шахце затопіш?

І н ж ы н е р

Так...

Ж ы г н е р

Ты яго загубіш?

І н ж ы н е р

Так.

Ж ы г н е р

Каб мы яго не бачылі болей...

І н ж ы н е р

Так.

Ж ы г н е р

За нашага калгаснага арганізатара
Якубовіча!

Усе

За нашага калгаснага арганізатара
Якубовіча!

Я к у б о в і ч *(да Аўгінкі).*

Што ты чытаеш, мая радасць?

Б а р г у т а *(да Бондара).*

Скажы мне, у чыёй я хаце?

А ў г і н к а

Чытаю драму «Каханне і здрада»!

Якубовіч

А?

Баргута

Скажы мне, у чыёй я хаце?

Якубовіч

За вялікага чалавека Жыгнера!

Баргута

Старшыня, дай слова!
Слова дайце!

Якубовіч

За вялікага чалавека Жыгнера!

Усе

За вялікага чалавека Жыгнера!

Бондар

Падымаю келіх за нашага Інжынера!

Жыгнер

Каторы заўтра ад'язджае!

Бондар

Падымаю келіх за ад'езд Інжынера!

Усе

Падымаем келіхі за ад'езд Інжынера!

Баргута

Старшыня, слова!
Слова дайце!

Жыгнер

Слова мае член праўлення Баргута!

Дзверы адчыняюцца, уваходзяць
Калужны, Юнак, Зоталь, Агут.

Калужны *(дае Аўгінцы шчупака).*

Засмаж гэтага апартуніста!

Баргута

Павінен адзначыць... перш-наперш...

Агут

Хлопцы, тут не ўсё чыста!

Якубовіч *(хістаючыся, падыходзіць).*

т. Калужнага камсамольская арганізацыя
наша
Пасылае...

*(Падае паперку.)*

Прачытаеш! Вось яна, адносіна...
... А, гэта вы, таварышы трактарысты?
Павінен адзначыць адносна
Таго, што нашыя трактары пойдуць у продаж
І вам давядзецца пасвіць кароў...

Зоталь

Таварыш, контррэвалюцыю гародзіш!

Якубовіч

Цяпер стаіць праблема Жыгнера,
праблема электрычных плугоў!

Калужны

Таварыш Якубовіч, хістаешся з нечага?

З о т а л ь *(ціха).*

Таварышы, я даўно кажу,
Што ў нас кулацкае засілле.

Ю н а к (*ціха).*

Хлопцы, трэба паехаць у раён па следчага.

Яны выходзяць...
У хаце п'яная гаворка...
А ў вокнах —
кавалкі вечара сіняга.

Раніцою,
калі раса панавала ў сусвеце,
Адышоў ад станцыі цягнік перагружаны.
І тое, як за вагонам гоніцца вецер,
Слухалі разам Інжынер
і камсамолец Калужны.

І н ж ы н е р

Вось вы едзеце
і, можа, больш
не пабачыце ніколі,
Як над радзімай
рассыпаецца
дожджык дробны,
Як пасуцца мірныя рыжыя коні...

К а л у ж н ы

Таварыш,
нам яно ўсюды будзе добра.

І н ж ы н е р

Будзе насміхацца ваш вораг люты,
Што выпала выгнаннем ваша кара.

К а л у ж н ы

Я хацеў зрабіць у калгасе рэвалюцыю
І твайго бацьку
ўзяць за карак.

І н ж ы н е р

Цяпер вы не ўгледзіце тыя дробязі,
Як пасуцца на радзіме рыжыя коні...

К а л у ж н ы

А калі б я ведаў,
Што без мяне гэтага не зробяць,
Я не паехаў бы сягоння
ніколі.

## РАЗДЗЕЛ II

Вуліца на сяле. З правага боку кааператыў, з левага — вясковая хата, у якой змяшчаецца праўленне калгаса. Каля расчыненага акна сядзіць бухгалтар калгаса Ж ы г н е р. Побач з ім сядзяць Я к у б о в і ч і к а л г а с н ы я б р ы г а д з і р ы . Паміж кааператывам і праўленнем калгаса, каля вярбы, стаяць калгасныя плугі і два трактары. Тут жа, каля абружованай ранішнім сонцам вярбы, збіраюцца к а л г а с н і к і на працу.

С н ы т к а

Нешта заседзеліся нашы брыгадзіры!

Ч ы р к а

А табе вялікі клопат?

Л а б а н о к

Як каму, а мне клопат. Зямля чакае!

Дзядок

Яно праўда, Лабанок, як не засееш,
Не будзе тады ні нашага,
ні пчалінага клопату.

Чырка

А ты маўчы лепей. Табе ўсяго
Каліва якое трэба, каб прычакаць да смерці.

Дзядок

А ты, Чырка, жаўтароты верабей,
Цыц! Я яшчэ з тваім дзедам
У адной лазні мыўся. Не тое,
Каб мы з ім былі прыяцелі,
Не любіў я твайго дзеда —
Дужа ён падобны быў да цябе:
Чыркае, чыркае, а сілы мала...
І язык у яго быў на твой падобны,
І меў твой дзед здатнасць, як і ты, на грэх.

Чырка

Ты гэта так на Чырку?
Ты знаеш, хто такі Чырка!
Чырка бандыта Чырвонца біў!

*(Глядзіць па ўсіх.)*

Біў.

Лабанок *(да дзеда).*

Ты знаеш, хто такі Чырка?
Гэта ж вялікі, слаўны ваяка:
Ён спалохаўся куста на дарозе,
Ён на вёску прыбег спацеўшы,
Ён ад куста ўцякаць бег?

Усе

Бег!

Рогат.

Чырка *(да Лабанка).*

Пачакай! Калі ты такі разумны,
Скажы мне, што такое трактар?

Л а б а н о к *(паказвае па трактар).*

Калі ў цябе галава слабая, дык зірні!

Ч ы р к а

Не, ты не тое... Ты не тое кажаш...

С н ы т к а

А што такое трактар?

Ч ы р к а

Гэта тое ж самае, што і саха!

Д з я д о к

Хлусіць, не слухайце яго, хлусіць!

Ч ы р к а

Таварыш Бондар, хлушу я ці не?

Б о н д а р

Не! Для нас цяпер трактар тое ж, што і саха.

Ч ы р к а *(глядзіць па Лабанка).*

Ага! Чырка не хлусіць!

С н ы т к а

Як гэта, як саха?

Л а б а н о к

Як гэта?

Чырка

А так...
Цяпер у нас будуць электрычныя плугі.

І -ы к а л г а с н і к

Што гэта за электрычныя плугі?

Ч ы р к а

Не сягоння, дык заўтра ў нас будуць
электрычныя плугі!

2-і к а л г а с н і к

Што гэта за электрычныя плугі?

Ч ы р к а

Прыйдуць яны на зямлю, як слаўныя ваякі,
І будуць глядзець на азёры залатым вокам!
А ты будзеш сядзець у хаце
І круціць толькі...
*(Да Бондара.)*
І будзеш круціць...

Б о н д а р

Штэпсель...

Ч ы р к а

Правільна!
І будзеш круціць толькі штэпсель,
А яны самі, як слаўныя ваякі,
Будуць пракладаць роўныя барозны
Ды залатым вокам углядацца на бярозы...

С н ы т к а

Ты кажаш, толькі круціць штэпсель?

Ч ы р к а

Так… Толькі круціць штэпсель!

Л а б а н о к

І будзеш сядзець у сваёй хаце?

Ч ы р к а

І будзеш сядзець ў сваёй хаце!

Д з я д о к

Э!.. Дык гэта, выходзіць, лепш за трактар?

Ч ы р к а

Я ж кажу, лепш за трактар.

Д з я д о к

А скажы, якое ў іх вока?

Ч ы р к а

Ціхае такое… Не зглазіць…

Д з я д о к

Смутнае такое, бычынае?

Ч ы р к а

Смутнае такое, бычынае…

Д з я д о к

Адкуль яны прыйдуць, з-за мор’я?

Ч ы р к а

У нашай краіне іх вырабляюць!

Д з я д о к

І ў трактара вока смутнае, бычынае,
Ён як зірне ўначы на сосны,

Дык быццам абсее зорамі...
Тады мне здаецца,
ён кропелькі суму майго носіць...

Ч ы р к а

А новае вока ціхае... Не зглазіць.

Д з я д о к

Ты кажаш, ціхае такое, не зглазіць?

Ч ы р к а

Ціхае... Не зглазіць... Бычынае!

Д з я д о к

А чаму іх да нас не прывозяць?

Ч ы р к а

А я дужа ведаю, чаму...
*(Паказвае на трактар.)*
От жа стаіць у нас гэтая ламака!

Д з я д о к

Няпраўда,
гэтая машына прыйшлася мне па сэрцу.

Ч ы р к а

Табе па сэрцу, а мне не...
Кожны дзень
мне трэба хадзіць за конным плугам,
Тады, калі ў краіне
ёсць электрычныя плугі.

С н ы т к а

А ты напраўду кажаш, што ёсць?..

Ч ы р к а

Толькі нам іх прыслаць не хочуць.

Дзядок

А ты нас не ўводзіш у грэх?

Чырка

Паверце на слова,
на сэрца,
не ўводжу!

1 -ы калгаснік

А ты сам іх бачыў?

Лабанок

Дзе яму...

Чырка

А можа, бачыў!..

Лабанок

А калі бачыў, раскажы.

Снытка

Раскажы, Чырка!

Чырка

От мне грошы трэба...
*(Паказвае па праўленне.)*
А яны не даюць,
толькі гоняць ды гоняць,
Працуй, Чырка, на карысць дзяржаве,
А грошы потым, а электрычныя плугі потым.

Снытка

Правільна... Чаму не даюць грошы?

Калгаснікі

Правільна... Патрабуй, Чырка, грошы!

Ч ы р к а

Таварыш Бондар, мы патрабуем грошы!

К а л г а с н і к і

Правільна.
Хоць колькі!
Авансам!

Б о н д а р

Дык вы прасіце ў Жыгнера!

К а л г а с н і к і

Чырка, прасі ў Жыгнера.

С н ы т к а

Якубовіч можа не даць!

Ч ы р к а

А мы яму скажам,
што на працу не пойдзем!

Д з я д о к

Так нельга...

1-ы к а л г а с н і к

А нам грошы трэба!

2-і к а л г а с н і к

Трэба!..

Ч ы р к а *(крычыць да Жыгнера).*

Жыгнер, нам грошы трэба!

К а л г а с н і к і

Нам трэба грошы!

Ж ы г н е р *(у акно).*

Прасіце ў Якубовіча!

Я к у б о в і ч *(у акно).*

На працу трэба ісці!

І -ы к а л г а с н і к

Не дасі грошы, не пойдзем на працу!

Я к у б о в і ч

Увечары атрымаеце!

Ч ы р к а

Давай нам зараз! Не пойдзем!

К а л г а с н і к і

Не пойдзем!

Ч ы р к а

Выпісвай нам электрычныя плугі!

І-ы к а л г а с н і к

Гэй, Якубовіч!
Выпісвай нам электрычныя плугі! [1]

Ж ы г н е р *(да Якубовіча).*

Трэба ім выдаць!

Я к у б о в і ч

Няможна.

[1] Нязначныя выкрыкі перарастаюць часамі
Ў значныя — яны выкарыстоўваюцца Жыгнерам.
Як — пра тое чытайце самі.
Аўтара прасілі лішняга не казаць наперад.

Ж ы г н е р

Мы ім павінны выдаць грошы,
А тады яны пойдуць працаваць!
Чуеш,
яны крычаць пра электрычныя плугі!

Ч ы р к а

Давай грошы! Паломім трактары!

1-ы к а л г а с н і к

Грошы!

I -ы б р ы г а д з і р

На працу!

2-і б р ы г а д з і р

На працу!

Ж ы г н е р *(да Якубовіча).*

Чуеш, яны хочуць ламаць трактары,
Трэба выдаць ім трохі грошай...

Я к у б о в і ч *(ходзіць па хаце).*

Я не ведаю, што рабіць.
Трэба ім выдаць...
Пачакай, не трэба...

Ч ы р к а

Давай грошы, паламаем трактары!

Ж ы г н е р

Трэба выдаць! Чуеш...

К а л г а с н і к і

Правільна! Грошы!

Я к у б о в і ч

Нічога не паробіш, выдавай!

Ж ы г н е р *(у акно).*

Таварышы калгаснікі,
Заходзьце ў праўленне, заходзьце,
Ваш бухгалтар Жыгнер выдае грошы!

К а л г а с н і к і , каторыя першымі атрымалі грошы, выходзяць з праўлення і на чале з Ч ы р к а м ідуць у кааператыў. На ганку кааператыва зайграў гармонік. Калгаснікі выходзяць з кааператыва на ганак. Чырка і іншыя калгаснікі нясуць у руках паўлітроўкі.

Ч ы р к а

Пі! Гуляем, хлопцы!

3-і к а л г а с н і к

Папрацавалі, досыць!

Ч ы р к а

Мы, як кляновыя жоўтыя лісты,
Адарваў вецер… панёс.

*(П’е.)*

І твары ў нас жоўтыя… як лісты…
Таварышы!
П’ём за электрычныя плугі.

3-і к а л г а с н і к

За электрычныя плугі!

Ч ы р к а

І рукі нашы грубыя —
З абсіверанае кляновае кары…

Да іх ўсё больш і больш далучаецца людзей. Грае гармонік. Некаторыя скачуць.

Л а б а н о к

А ты, Чырка, зноў за гарэлку?..

Ч ы р к а

А як жа, дружа... Не магу!

Л а б а н о к

Правільна, Чырка... Вясёлы ты хлопец!

С н ы т к а

Чырка!
*(Паказвае па паўлітроўку.)*
Бачыш?

Ч ы р к а

Шчаслівы народ, гуляем!

С н ы т к а

Хлопцы, за электрычныя плугі!

Ч ы р к а

Яшчэ раз за электрычныя плугі!
Няхай прыходзяць электрычныя плугі!
Тады мы будзем працаваць!
А цяпер даволі, адпачнём!

3-і к а л г а с н і к

Адпачнём! Даволі!

Да трактараў падыходзяць А г у т і З о т а л ь. Яны бачаць, што ніхто не выйшаў на працу.

З о т а л ь

Таварыш Жыгнер, ты выдаеш грошы?

Ж ы г н е р

Грошы выдаю, Зоталь, грошы!

З о т а л ь

Людзі ідуць піць, а не на працу!

А г у т

Жыгнер, кінь выдаваць грошы!

З о т а л ь

Мы робім прагул!

Ж ы г н е р *(у акно).*

Бачыце, як раскрычаліся,
Вам усё роўна нічога не належыць!

Смех.

А г у т

Таварыш Якубовіч, зямля чакае!

Я к у б о в і ч *(у акно).*

Хлопцы, нічога парабіць не магу!

З о т а л ь

Спыні выдачу!

Я к у б о в і ч

Не маю права!

З о т а л ь

Глядзі, ты дрэнна робіш!

А г у т

Як хочаш, а мы паехалі!

З о т а л ь

Мы папярэджваем цябе!

А г у т і З о т а л ь садзяцца на трактары. Вось яны праязджаюць кааператыў. Першы едзе Зоталь.

З-і к а л г а с н і к

Трактарысты едуць!

4 - ы к а л г а с н і к

Апошнія дні дажываюць!

Ч ы р к а

Гарманіст, грай!

*(Спявае.)*

Сеў з вялікае тугі
Зоталь наш на трактар,
Электрычныя плугі
Яго зменяць заўтра!

Зоталь раптам спыняе трактар.

З о т а л ь *(да Чыркі).*

П’яніца, ты чуеш, зямля чакае!

Ч ы р к а

Я п’яніца! Каб ты праваліўся каменем!

З о т а л ь

Таварышы, зямля чакае...
Яна сёлета з сокам парэчак...
А на парэчках ягадкі,
А на сліўках зялёныя сліўкі,
А над зямлёю цёплыя хадзілі ліўні...

Ч ы р к а

Рукі нашы грубыя, з абсіверанае кары,
Мы хочам адпачыць, гуляць хочам,
Мы п’ём за электрычныя плугі!

З о т а л ь

Не скора яны прыйдуць, электрычныя плугі!

Ч ы р к а

Хлусіш, скора... Заўтра, чуеце, заўтра!

Г а л а с ы

Чуеш, Зоталь!

4 -ы к а л г а с н і к

Хадзі да нас піць!

З о т а л ь

Слухайце мяне... Хлусіць Чырка!
Цэлыя караблі жыта вязе наша дзяржава
У заморскія краіны... Калышацца караблі.
У іх вялікія, цяжкія, чорныя трубы,
Яны крычаць па-акіянску,
самотна, груба...
А назад вязуць яны золата... І тады
У нашых домнах гадуецца метал,
У нашых домнах гадуецца трактарава сталь...
*(Саскаквае з трактара. Заводзіць руль.
Трактар пачынае працаваць.)*
Чуеце! Нашыя домны гадавалі гэтую сталь.
Слухайце мяне... Хлусіць Чырка!
Яшчэ не скора ў нас будуць электрычныя плугі,
Электрычныя плугі будуць трактаравымі сынамі.
Мы будзем працаваць, каб прыйшлі яны...
Вы чуеце!.. Плывуць па акіяну караблі,
У іх вялікія, цяжкія, чорныя трубы,
Яны крычаць па-акіянску, самотна, груба,
У іх трактаравы сум. Яны сумуюць па трактарах,
Так жа, як трактары сумуюць па караблях...

А вораг хоча,
каб гарачыя вятры
зямлю папалілі,
Каб не хадзілі над савецкай зямлёй
цёплыя ліўні...
А калі сонца паліць зямлю,
Тады яшчэ бачу я ў трактаравых вачах
Сум па густых парэчкавых рашчынах,
Сум па цёплых ліўнях...
па караблях.

Д з я д о к *(падыходзіць да трактаравага ліхтара).*

Засвяці, Зоталь, вока трактарава...

З о т а л ь

Адчапіся, Дзядок! Я ім усё хачу сказаць,
Што ведаю...

Д з я д о к

Засвяці, Зоталь... Прашу як сына!

З о т а л ь

Таварышы!
Эх, зблытаў ты мяне, Дзядок! Забыўся!
*(Запальвае ліхтар.)*

Д з я д о к *(да ўсіх).*

Бачыце, вока ў яго самотнае, бычынае...
*(Углядаецца.)*
Я вам кажу,
вока ў яго самотнае, бычынае...

А г у т

Таварышы, трактар мой жыве
з высокімі соснамі,

Да яго цела прыліплі кавалкі смалы!
Ён хоча працаваць.

*(Паварочвае руль.)*

Паехалі, Зоталь!

З о т а л ь

Паехалі! Таварышы, за намі!

Ч ы р к а

Не пайду, я п’ю за электрычныя плугі!

Усё далей і далей адыходзяць трактары. Усе, акрамя Чыркі, глядзяць ім услед. Яны знікаюць за ўзгоркам.

Д з я д о к

Снытка!
А вока ў яго самотнае, бычынае?!

С н ы т к а

Эх, расстроіў ты, Дзядок, Сныткава сэрца!
*(Разбівае паўлітроўку аб слуп.)*
Не магу, таварышы... Сэрца такое...
Пайду!

Ідзе. Яму насустрач бяжыць Ю н а к . Услед за Юнаком, не спяшаючыся, ідзе вялікі натоўп к а л г а с н і к а ў .
Юнак убягае ў краму кааператыва.

Ю н а к

Зараз жа зачыняйце крамы!

І-ы к а а п е р а т а р

Чаму?

Ю н а к

Калгаснікі ідуць па тавары.

2-і кааператар

Трэба зачыніць!

Юнак

Яны не хочуць ісці на працу,
Мы і так спознімся з сяўбой!

2-і кааператар

Ідуць!

І-ы кааператар

Зачыняй, таварыш!

Калі падышоў вялікі натоўп калгаснікаў, кааператары якраз замкнулі апошнюю краму.

1-ы кааператар

Зачынена!

І -ы калгаснік

Чаму? Адчыняй!

2-і кааператар

Крама зачынена!

Юнак

Кааператары ідуць працаваць на поле!

2-і калгаснік

Адчыніце, таварышы, мы самі пойдзем!

І -ы кааператар

Мы ідзём працаваць на поле!

На ганак узбягае Якубовіч,

Якубовіч

На працу!

І-ы брыгадзір

На працу!

Юнак

Хто працаваць, за мною!

Кааператары, брыгадзіры, частка калгаснікаў, Якубовіч, Юнак і Дзядок ідуць да плугоў, куды нядаўна пайшоў Снытка.

Якубовіч

Хто працаваць, за намі!

І-ы калгаснік

Іду!

Ідзе. Вялікі натоўп калгаснікаў, не спяшаючыся, ідзе следам за ім. На ганку застаўся толькі Чырка. Чуваць, як далёка за сялом працуе трактар.

Чырка

Эх, да сеў з вялікае тугі
Чырка наш на трактар,
Электрычныя плугі
Яго зменяць заўтра!
І рукі нашы грубыя, з абсіверанае кары.

Ад праўлення калгаса, паўз кааператыў ідуць Жыгнер, Бондар і Баргута. Чырка кідаецца да іх.

Чырка

Адну... паў... літровачку...

Жыгнер

Адчапіся.

Ч ы р к а *(хапае яго за руку).*

Я... т... табе справу зрабіў?

Ж ы г н е р

Зрабіў!

Штурхае яго, той валіцца ў лужыну.

Ч ы р к а

Гэта так Чырку!.. Чырку...
Каторы прайшоў агні і воды,
І медзяныя трубы,
І электры... чныя... плугі...

**РАЗДЗЕЛ III**

Дзея пачынаецца ў Жыгнеравай хаце ўвечары.

Ж ы г н е р

Вось мы і дачакаліся следчага...

А ў г і н к а *(да мужа).*

Чуеш?
*(Бярэ яго за руку.)*
Гэта ўсё падобна на тое,
як у «Каханні і здрадзе».
Скажы мне ласкавае слова...
Я прадчуваю канец.

Я к у б о в і ч

Адным чалавекам было сэрца маё скрадзена,
І той чалавек думаў, што яно не кранецца.
Але яно яшчэ не зусім выбыла,
Яно перажывае момант запалкі...
І гэта будзе хоць невялікі,
але ўсё ж ткі выбух...

А ў г і н к а

Я прадчуваю, як загіне той Юнак палкі...

Я к у б о в і ч *(да Жыгнера).*

Вам будзе неяк пяліцца
пячорным ракам.
Я ім усё раскажу,
яны яшчэ дадуць мне веры,
Я раскажу, як вы разумееце,
што такое трактар!

Ж ы г н е р

Тады я назаву цябе не чалавекам, а зверам!

Я к у б о в і ч

Я зразумеў усё. Я стаяў над вашым
разбітым карытам,
Над вашым хутарскім кулацкім шчасцем...
Яно мне не трэба,
вы мне яго не пазычайце!
Я пайду разам з хлопцамі капаць фасфарыты,

Ж ы г н е р *(на вуха Аўггнцы).*

Я іду... туды...
сягоння не буду вячэраць.
А табе ў апошні раз наказваю строга:
Не пускай туды мужа...
Бо я яму куляй раструшчу чэрап,
І тады сам пайду ў астрог...
Чуеш? *(Ідзе.)*

Аўгінка стаіць бледная.
Ёй мрояцца зоры ліпеньскага вечара,
Яна шэпча:
— І ніхто тады болю майго не залечыць!

Ідзе Я к у б о в і ч .

А ў г і н к а

Куды ты, куды?

Я к у б о в і ч

Я іду туды, да следчага.

А ў г і н к а *(хапае яго за руку).*

Пачакай,
У цябе перасохла глотка,
Табе трэба выпіць вады!

Я к у б о в і ч

Ну добра, ідзі прынясі вады...

А ў г і н к а

І ты можаш ісці тады...

Ідзе ў сенцы.

Я к у б о в і ч

Няма чаго казаць, радня, свая хата!

Ідзе Аўгінка. Па ценю на сценцы
Можна пабачыць — яна нясе шклянку вады
І згорбілася нізка:
— Яшчэ адно забойства на кулацкім хутары,
— Я атручу яго, як некалі Фердынанда Луіза...
Але яна забылася, што ў шклянку не насыпала атруты...

Аб'ядаемся, жывём... як... *(П'е.)*

А ў г і н к а

Трутні...
Ты адчуваеш, як тваё каханне сціхла,
Ты ведаеш, Фердынанд, што я вар'ятка,
Фердынанд, я цябе атруціла!

І на пеўнікавай назе сярод лесу стаіць
наша хатка...

*(Кідаецца ў дзверы.)*

Людзі, я яго атруціла!

Якубовіч

Аўгінка, Аўгінка!
Куды ты?
Вар'ятка!
Усё мне тут спрацівела...

Дзея адбываецца ў камсамольскім клубе. На сцэне сядзяць з аднаго боку: Жыгнер, Бондар, Баргута; з другога — Юнак, Зоталь, Агут. За сталом сядзіць следчая — Маладосць. У зале — калгаснікі.

Маладосць

Грамадзянін Жыгнер, вы ведалі
пра ліквідацыю кулацтва?

Жыгнер

Спытайце ў кожнага,
Я бухгалтар сумленны,
Акрамя таго, я чалавек мастацтва,
Я вырашаю розныя праблемы —
Мяне апанавалі лірычныя кругі!

Маладосць

Мы ведаем вашу праблему пра
электрычныя плугі,
Вы ўвесь час кажаце так упэўнена!

Чырка

Я забыўся яшчэ сказаць, што ён навучыў
мяне спяваць прыпеўкі!

Жыгнер

Таварыш следчая,

Я першы ў калгасе калгаснік,
Я першы з тых, якія яго ўзгадавалі,
узрасцілі,
У мяне яшчэ ўспаміны тыя не згаслі.
Таварыш следчая, я чалавек сумленны...

Маладосць

Таварыш Юнак, вы сцвярджаеце,
Што Жыгнерава праблема
Вялася яшчэ да таго,
каб вашыя трактары
пайшлі ў продаж?

Агут

А мы, трактарысты, пайшлі пасвіць кароў!

Юнак

Так...
*(Устае.)*
Некалі Гандляр
прапаноўваў мне
напісаць хроніку яго продкаў,
Ён хацеў, каб яны праліваλі за рэвалюцыю кроў,
І елі з катаржацкае місы полудзень нішчымны,
І ў гарах Акатуя ад сцюж калелі.
Гандляр хацеў у чырвоны колер
апрануць свае пакаленні,
Ён хацеў схавацца за продкаў,
У яго для гэтага былі свае прычыны...
А Жыгнер...

Жыгнер

Таварыш следчая,
Я першы ў калгасе калгаснік,
Мы гэты калгас узгадавалі, ўзрасцілі,
У нас яшчэ ўспаміны тыя не згаслі.

А ў г і н к а *(убягае на сцэну).*

Тата, тата, я яго атруціла!

М а л а д о с ц ь

Грамадзянка Жыгнер, каго вы атруцілі?

Ж ы г н е р

Таварыш следчая, не верце ёй надта!

А ў г і н к а

Але вы яго раней атруцілі!
Вы ўсе яго атруцілі — і Бондар, і Баргута!..

Ж ы г н е р

Яна вар'ятка!
Яна начыталася пра Луізу і Фердынанда!

А ў г і н к а

Сэрца яго спустошыла вашая атрута.
Ён казаў, што стаяў над кулацкім
грэшным карытам
Я яго атруціла.
Ён хацеўісці капаць фасфарыты!

Ж ы г н е р

Не верце... Вы бачыце, яна вар'ятка!

А ў г і н к а

Я ім усё раскажу, чуеш, тата?

*(Да следчае.)*

У яго заўсёды такая грубасць,
Ён кожны раз наказвае мне строга
Яго слухацца...

Ж ы г н е р

Не верце ёй!

Аўгінка

Бо іначай ён загубіць
Майго мужа, а сам пойдзе ў астрог.

Жыгнер

Не верце ёй...

Аўгінка

Ён мне казаў сягоння ўвечары,
Каб я не пускала мужа да следчага,
Бі іначай ён меўся раструшчыць яго чэрап!

Жыгнер

Яна вар’ятка! Не верце ёй!

Аўгінка

І я яго не пусціла.
Чуеш, тата, я сама яго атруціла!

Маладосць

Вы кажаце, што бацька пагражаў
забіць вашага мужа?

Аўгінка

І я таксама атруціла мужа!
І цяпер Фердынанд мой такі нядужы...

Маладосць

Хто вам сказаў, што вы атруцілі мужа?

Аўгінка

А Фердынанд цяпер такі нядужы...
Людзі! Што такое слёзы экзотыкі?
Дзе пачынаецца паэзія чэрвеньскай лужыны?

Г а л а с ы

Даволі!
Слова Зоталю!

М а л а д о с ц ь

Што вы маеце сказаць, таварыш Зоталь?

З о т а л ь *(паказвае па зал).*

Мы ўсе падпісаліся,
Каб іх выслаць у Салаўкі.

Ж ы г н е р

Хлусня!
Таварышы калгаснікі!
Хто за тое,
каб вашага бухгалтара Жыгнера
выслаць у Салаўкі?

Усе, акрамя Аўгінкі, падымаюць рукі.

Ю н а к

Грамадзянін Жыгнер,
за вас ніводнае рукі!

Калі ў клубе агні пагасілі,—
Была ноч. Недалёка, за плотам лазовым,
Нядзелі і Зыранкі
вачыма лыпалі па сіні.
У зморaных жызёльчыных вачах
спалі сузор'і.
Чуліся чалавечыя галасы і хуткія крокі...
— Ты праверыш, як мы капаем фасфарыты!
З-за плота высунуліся Зыранкавы рогі,
І даляцеў заклапочаны жывёльчын рык.
Гэта былі крокі Маладосці і Юнака,
Маладосці, што ад густых парэчкавых рашчын...

Першая маладосці адзнака,
Калі на вуснах смага
і вочы расчынены...
Другая адзнака —
у вачах шчырасць будучыні,
У іх агонь вогнішчавы гарыць —
З агнём чырвонымісці яны заручаны...

Маладосць перамагае старое і капае фасфарыты!
Трэцяя адзнака —
гэты агонь свой,
не скрадзены,
І гэта самая важная адзнака...
— Памятаеш, мы разам лавілі бандыта...
— І вогнішчавы агонь
быў нашым
умоўным знакам!
— Мне казалі, ты валацужыў з нечага...
— Калі ў нас бываюць болькі, мы іх лечым.
— Ты бачыў людзей пакалечаных?
— Ія сустрэў цябе, Маладосць,
нашым следчым!

**РАЗДЗЕЛ IV**

Дзень пачынаецца тым,
як зямлю капаюць,
А канчаецца захадавым сонцам,
статкамі
і трубамі бяроставай тугі.
І сягоння капальнікамі
быў знойдзены толькі
Чортаў Палец,

Каторым раны лечаць пастухі [1]
Раніцою сюды прыходзіла Маладосць,
Яна казала пра фасфарыты
і з капальнікамі
капала разам.

Вечар. Капальнікі смажаць сала.
У дубе маўчаць неспакойныя шаршні,
І толькі гудзіць адзін,
катораму абпаліла джала.
Ноч.
І кожны капальнік па-свойму сніць.
Сняцца Юнаку яго валацужныя дарогі,
Усплылі абліччы
Гандляра, Худа і Настаўніка:
Быццам бы нейкі бык
падчапіў іх на рогі

І сам стаіць,
як даўні статуй.
А Зоталю сняцца караблі,
Іхні голас акіянскі... грубы...
Там спявалі матросы
і справы свае рабілі,
І адплывалі трубы.
Якубовічу з нечага сняцца вар'яты,
І гэтыя вар'яты — бухгалтар і яго дачка;
У бухгалтара — праблема душы і рацыі,
Каторую ніяк не ўцяміць Чырка.
І толькі аднаму Агуту
сняцца дубавы галіны;
Сніцца яму —
пад дубам
ляжаць пароды,

[1] Чортаў Палец — гэта нечага продка закамянелая косць,
А назва яго ідзе ад народных казак.

І паўстае перад імі захад
пластамі гліны.
А стары Дзядок згадвае продкаў.

У іх сягоння сон ад стомы,
Ад стомы, што прыйшла з зямлі...
Ноч.
Ішлі з пячораў сомы
І праз шкло вады
на вогнішча
вочы ўзнялі...
А заўтра, толькі сонца блісне,
Знікне стома і іхні сон стары.
Будзе шум стаяць у новым лесе.
І яны на поле павядуць трактары.
А сюды яны яшчэ прыйдуць некалі,
Будзе на высокі бераг
рыба вочы пяліць,
І будзе пяліць
вочы суму шклянога
на чалавека,
Каторы фасфарыты адкапае.

*

На станцыі таварнага цягніка
чакалі трактарысты...
Прайшла навальніца.
Яна з карэннем вырывала дрэвы.
І цяпер на захадзе
ўсплыў
кавалак неба чыстага,
А сонца нізкія сосны грэла.
Перад захадам станцыю Камунары

Скалатнулі два цягнікі —
пасажырскі і таварны,
Яны стаялі, ахутаныя парай,
І пасажыры
першага цягніка
выбягалі на станцыю па вар.
З другога цягніка грузілі тавар,
Каторы сумуе па караблях
і па каторым сумуюць караблі.
І Зоталь пытаў у машыніста: — Таварыш,
Трактары не былі пад дажджом?
— Не былі!
Насупраць,
ля вагона пасажырскага цягніка,
стаяла варта.
Прывялі трох чалавек,
і апошнім узышоў Баргута.
У вокнах вагона былі надзейныя краты,
Праз каторыя Жыгнер глядзеў
на Юнака, Зоталя і Агута,
У тым вагоне было пасажыраў поўна.
У іх не было білетаў,
Але іх везлі не дарам...
Адбілі званкі,
Гэты вагон адыходзіў на поўнач,
І Юнак у акне угледзеў
Худа і Гандляра...
З пасажырскага цягніка нядаўна злез
І цяпер стаяў на ганку станцыі
Настаўнік,
Ён глядзеў,
як цягнік адыходзіў за лес
І там за лесам крыкнуў раз астатні.
У тым вагоне паехалі,
вы ж самі ўгледзелі,

Нашыя
самыя
злосныя ворагі,
Якія ішлі з генераламі
старакапытавымі і каледзінымі
І сягоння ідуць з генераламі каторыя.
Вы памятаеце,
як у семнаццатым
яны нас стрэлі...
Забітых імі
самі
на руках
нясём мы:
Вы ж чулі, як ворагавы глухія стрэлы
Прайшлі
па радках
маёй
паэмы.
А з другога цягніка грузілі тавар,
Каторы сумуе па караблях
і па каторым сумуюць караблі.
І Зоталь пытаў у машыніста: — Таварыш,
Трактары не былі не дагледжаны?
— Не былі!

*

Настаўнік прыехаў на радзіму Міколы,
Ён ішоў па дарозе,
па якой некалі
даўно
Міколу ад станцыі імчалі коні
Да маёнтка Галынскае
ў рабінавую ноч.
Каля дарогі Настаўнік аблюбаваў асіну,
Пад каторай раслі грыбы...

Але ехалі трактарысты,
яны спявалі пра краіну:
— КІМ, бі па руінах,
Мы будуем краіну!
Яны везлі новыя трактары,
і Настаўнік пайшоў у лесавыя глыбы.
А на асіне вісела яго запіска:
«Я не забываў той час ніколі,
Калі Мікола загінуў на маёй радзіме
ад ворагавай раны,
І я прыехаў, каб загінуць
на радзіме Міколы.
Прабачце мне.
Але я на свет радзіўся рана».
Пазней Настаўнік стаяў каля новае асіны,
Якая адлюстроўвалася ў азёрнай плошчы,
Але блізка ад яе
калгаснікі сена касілі,
І пачынаўся вечаровы спеў перапёлчын.
На другі дзень
у пушчы
Настаўнік слухаў зямлю:
Чалавечыя галасы даляталі ледзь.
Ён узлез на высокую асіну
і на шыі завязаў пятлю,
Адштурхнуўся ад дрэва
і такое ўчуў і ўгледзеў:
«Ды на той асіначцы
удавіўся-а-а...»
Дзяўчаты песню спявалі на Сажы,
Пачыналася жніво на Бесядзі,
І тады Настаўніку дужа захацелася жыць.

## РАЗДЗЕЛ V

І Інжынер Калужнага не затапіў у шахце.
Калі пад вадзяныя пласты
быў падкапаны аманал,
У шахту прыбег Калужны...
і крыкнуў:
— Шукайце...
Пад вадзянымі... пластамі... аманал!..
А над зямлёй
не вышклілася
зорка ні адна.
І ў стэпах пастухі
дарэмна
зор шукалі,
Ніхто з іх не сказаў, калі восень прыйдзе,
Бо пад зямлёю
людзі з кайламі
Ўгледзелі тыя зоры ў антрацыце...
А яшчэ ўгледзелі ў вачах Калужнага
Шкляныя зоры з попелам болю...
Ён выратаваў шахту.
Яны яго ўсклалі
на плечы дужыя,
Панеслі і моўчкі паклалі ў больніцы.
У больніцы яго супакойваў лекар
(Тады праступала на вокнах
раса і раніца):
— Не палохайцеся, таварыш,
вы не станеце калекай,
У вас зусім нязначная рана...—
Ён адчыніў акно: — Якое паветра!
Узыходзіла сонца...
— Вы кажаце, я не стану калекай?
— Не клапаціцеся,
мы вашу рану залечым...

Бачыце, у нас сягоння сонца
з свежым ветрам!

К а л у ж н ы

Знаеце, лекар,
быў я тады на чыгунцы,
Таварны цягнік
пыхкаў на закат...
Іду і бачу:
у адным вагоне
ляжаць клункі,
І ў кутку нашыя шахцёры
гуляюць у карты.
Прыслухаўся:

П е р ш ы

Кароль чэрвівы...

Д р у г і

Ты кажаш, шахце гібель?

Т р э ц і

Мы ж заклалі ў меру...
беспраменна затопіць...

П е р ш ы

Кароль чэрвівы...
А шчо в нас сэло Соснывці...

Д р у г і

І грошы нам Інжынер заплаціў чыстаганам...

Т р э ц і

Мы ж споўнілі яго паручэнне...
Шахту затопіць!

П е р ш ы

Шчо казаць, хлопец гарны...
Эх, да поіду я в Конотоп,
Там у мэнэ сэло... грыбы...

Д р у г і

Затопіць шахту... гібель...

П е р ш ы

Шчо в мэнэ сэло Соснывці...

Д р у г і

А ў нас на Магілёўшчыне
вёска Папарaць...
суніцы.

Т р э ц і

Мне абы грошы.
А там няхай хоць і ўсе калеюць.

Тут і пякнула сэрца маё ў калені,
Тут і кінуўся я да шахты,
а сэрца, як порах,
Рвецца на кавалкі: тах-тах-тах!
І па самыя пяты апанаваў мяне сполах...
І сэрца падае, падае...
Ведаеце, часамі сніцца:
Ляціць на зямлю агністая планета,
Вось яна апанавала неба...
ўрываецца ў шыбы, аканіцы...
Тады ў цябе сэрца падае, падае...
Ты адчуваеш — блізіцца канец нашага свету...
Ты стаіш, як статуй,
і вочы твае шкляныя расчынены:
У цябе яшчэ нічога не зроблена.

Ты яшчэ не ведаеш,
што такое дзяўчына,
Ты яшчэ адзін раз
хочаш пабачыць
дожджык земны, дробны...
Загараецца зямля.
А ў цябе смага
да густых парэчкавых рашчын.
У цябе аднолькавы лёс з тымі,
у каторых над галовамі крыжы,
У цябе няма сілы...
але ты хочаш крычаць:
— Хопіць!
Рассыпайся, планета, у дробны попел,
Нашая зямля яшчэ хоча жыць!
Ты прасыпаешся.
Ты бачыш дробны дожджык...
Ты не будзеш спаць,
А сэрца ўсё яшчэ
будзе падаць... падаць...

Калі Калужнага выпісвалі з больніцы,
Лістаносец прынёс тэлеграму.
Быў час вечаровай зары.
«Адкапалі фасфарыты.
Юнак. Зоталь. Агут. Якубовіч».

К а л у ж н ы

Чуеце, лекар, яны адкапалі фасфарыты!

Лекар яго падвёў да акна.
Пачыналіся змрокі,
А ў стэпах
трактары запалілі
новыя сонцы зямлі...

Пераклікаліся цягнікі.
Чуліся шахцёраў
земныя крокі.

Л е к а р *(паказвае рукою на стэпы Украіны).*

Чуеце? Тут пачынаецца Сацыялізм!

А на радзіме Калужнага
пачыналася жніво.
Пахла зямля
коласам,
кменам
і кропам,
А па небе
не плыло
балачыны ніводнай...
І стары Дзядок складаў снапы ў копы.
Праз поле бег ласіны табун,
Ён бег адтуль, дзе лес стары
стаяў самотны.
Пастух, які ўгледзеў іх,
выраніў
берастовую трубу,
А яны беглі,
на сонца выставіўшы
халодныя морды.

А стары Дзядок
збялеў
і крыкнуў: — Лосі!
Ён даўно не бачыў іх
і следам кінуўся бегчы,
Яму гэта дужа ўрачыстым здалося...
Яны беглі ў новы лес,
і маладзейшы
быў з іх першы,

А стары Дзядок
не ўгнаўся за імі,
Спатыкнуўся
і паваліўся тарчма,
а зямля пахла кропам...
І тады заплакаў ён дзяцінымі слязьмі,
Згадваючы дзяцінства
нейкую дробязь.

*1931—1932 гг.*

# АНТОН ШАНДАБЫЛА

*Паэма*

## ПРАЛОГ

У высокіх стагодніх прысадах
Павятовы стаіць гарадок,
Ў ноч на восьмага лістапада
Там гудзе фабрычны гудок.

Рэвалюцыя!
І страляніна
Плошчу, парк асвяціла агнём...
Дыктатура ідзе!
І дзяўчына
Бомбу кінула ў белы дом.

Вокны ў сад адчыняючы, дзверы,
Стрэльбы кідаючы, кулямёт,
Ваяўнічыя афіцэры
І эсэры лезуць праз плот.

Яны спрытна зрываюць пагоны,
Уцякаючы ў глыб начы;
І рабочыя сцяг чырвоны
Падымаюць на каланчы!

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

У Анісіма Шкроба
гонтам крытыя
хаты,
кузня, млын,
і на тры дзесяціны сад,
і стаеннікі коні,
і статак рагаты,
і шырокі, як дзежка,
зад.
Кіраваў ён у воласці пеклам
і раем —
войт дзяржаўнай казны
і царкоўнай
казны,
і медалі насіў за царом
Мікалаем —
старшыня валасны.
Кожны дзень млынары яго,
круцячы жорны,
парабкі, прыгінаючыся
да зямлі,
кавалі, запаліўшы
печы і горны,
пекла працы
клялі...
І за гробам ішла
старшынёва
апека.
І пад крыжам
крычалі яму:
— Не карай!

Перад ім, на каленях укленчыўшы,
пекла
галасіла, кляло
яго дом,
яго рай.
Рай — дзе ходзяць сабакі
і грэшныя душы,
рай — дзе бронзавыя
на куце
абразы,
дываны на падлозе,
плюшы,
залатыя, сярэбраныя
тазы...
Дом — дзе светлыя вокны
і сонца багата,
пад страхою высокай
узор з дзеразы;
дом, куды заязджаюць
у кірмаш і на свята
павятовыя, валасныя тузы.

Медуніцы, Антонаўкі.
Слуцкія бэры.
Пяцісценная лазня. Дубовы
памост...
Кожны год да яго
прыязджалі эсэры
на патайныя сходы
за семдзесят
вёрст.
Разам з сынам
ішлі яны ў сад яго,
Доўга

там сядзелі (высокая ў садзе
трава)...
Зоры падалі ў дрэвы,
маўчала дарога...
І ён слухаў, Анісім, як крычыць
сава,
як калоціцца вечарам
ліст на асіне,
і чакаў, сам не ведаючы
каго...
Пасля сходаў эсэры
спалі
на канюшыне
з парабчанкамі
і лачкамі яго.

3

Летам парабак панскі,
Цімох Загула,
узняў бунт у маёнтку,
як прыйшоў
з вайны...
І ўся воласць вялікая
бачыла,
чула:
змоўклі шкробавы, панскія
кузні, млыны.
Шкроб на шыбкім кані сваім
вечарам хмарным
прыскакаў у павет,
лесам ехаў
адзін.
На другі дзень у воласць
атрад прывёў карны
яго сын —

Нікадзім.
Прывязалі вяроўкай пяньковай
да шула,
хлудам парабка білі,
прымушалі:
— Нясі!
Была страшная смерць
у Цімоха Загулы:
з гадавальнікаў панскіх
глядзелі ласі,
калыхаліся, падалі дрэвы
крывыя,
адвячоркам над пушчамі
плыў маладзік,
беглі следам за ім
панічы маладыя;
біў яго Нікадзім
і крычаў:
— Бальшавік!
Вяла ўперад нянавісць
Цімоха
Загулу.
Ён пранёс сваю ношу
праз увесь
панскі двор,
потым лёг на зямлю
пад дубовае шула:
— Смерць Анісіму Шкробу! —
сказаў
і памёр.
Парабчанка-сястра галасіла
над братам,
калі ў полі труну
засыпалі пяскі...
У асінніку ціхім, пад дубам
гарбатым

пахавалі яго
парабкі.

4

З гарадка павятовага ў досвітак
шэры,
пераехаўшы на Сажы
паром,
праз дажджы і грымоты ўцякаюць
эсэры —
афіцэр Нікадзім
і Ром.
Разам хаты мінаюць,
платы
і гароды,
і царкоўныя коўраты праязджаюць
яны,
афіцэр Нікадзім
адчыняе вароты
у той двор, дзе жыве
старшыня валасны.

5

Пачынаецца ранак, і госці,
як дома,
у Анісіма
адпачываюць цяпер...
Мы ж прыгадваем
біяграфію
Рома:
бацька — панскі аконам,
сын — эсэр.
Два гады ён вучыўся

на землямера;
у жніво і трубіла, і выла
вайна,
і гула пры дарозе
жабрацкая лера
пра германскія мечы
з відна...
І акопы капаючы, і паходныя
ранцы
на салдацкія прымасціўшы
гарбы,
паміралі і рускія,
і германцы
У Галіцыі,
каля вярбы.
Ром жа хабару даў
генеральскаму
чыну,
і пад восеньскім небам
і дрэвам
глухім
генерал яму поспехаў зычыў,
як сыну,
і паехаў герой ваяваць
на чужыну,
у абоз — каптэнармусам палкавым.
А праз тыдзень бацьку яго —
аканома —
забіў панскі стаеннік у полі,
і так
залатым крыжам і царкоўным
іконам
адпяваў яго поп
і дзяк:
«Не вкусивших грешного
плода и злака

в рай прими и врата
открой!»
(Так, як вылечы пранцы
у рыжага дзяка,
у папа —
гемарой!)

6

На стале самавар вые, свішча
ад злосці,
і сядзяць за шырокім дубовым
сталом
у Анісіма Шкроба
шаноўныя госці:
Нікадзім — яго сын —
і Ром.

Ром

Савецкімі воласці будуць,
паветы,
у сталіцах і вёсках —
бальшавікі.

Нікадзім

Парабкі прыбяруцца ў саветы,
мы ж, эсэры...

Шкроб

Дзівакі!
У сяле, што за семдзесят вёрст
ад чыгункі,
дзе пісьменнага чалавека няма,
Нікадзім,
вызначыць сваё права, шляхі
і кірункі

трэба мне, трэба нам
самім.
— Мужыкі! — крыкну я,—
пастухі і аратыя,
мне — саветы належаць,
а вам —
зямля.
Хай жа нівы растуць залатыя,
багатыя
на раллі вашай!..

Р о м

А я?

Н і к а д з і м

Рызыкоўныя, марныя планы!

Ш к р о б

Чаму?

Н і к а д з і м

Пераіжыў ты багата
трывог...

Р о м

Табою ж, Анісім,
закатаваны
бальшавік
Загула Цімох...
Шкроб Анісім, ты слухайся
свайго сына!

Н і к а д з і м

Будзе Ром кіраваць сялом...

Ром

Калі ж зацвіце, зашуміць

канюшына,
ты ў цішы даглядацьмеш
і сад, і дом...

Нікадзім

Сваіх коней, свой статак
рагаты!..

Ром

А ў крыўду не дам —
я ж твой друг
і госць!
Будзеш жыць ты, як дуб:
незалежны, багаты...

Сын

Магутны, шчаслівы!..

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

*

Шандабыла Антон
дзевятнаццатага лістапада
на чыгунцы
з таварнага поезда
злез;
на радзіму прыехаў
ён з Петраграда,
і дарога цяпер
павяла яго
ў лес.

Чулі рэкі і азёры,
чайкі сумныя крычалі,
чулі дрэвы і пячоры,
як Загулу катавалі.

*

Шандабыла акопы прайшоў,
лазарэты
і франты,
і ў яго адрасла
барада...
У паходным ранцы
ляжаць газеты,
тры брашуры Леніна,
хлеб,
вада.

*

Кара — вырасла травою
і наскрозь праходзіць глыбы,
пад глыбокаю вадою
  захавалі яе рыбы.

*

Дрэвы, голыя, цвёрдыя.
У лісты ляж,
паклікай:
будзе рэха дрымотных, суровых
зім...
Ціхім ранкам у лесе,
на дарозе вялікай

Шандабылу сустрэў афіцэр
Нікадзім…

*

Кара — цёмнае карэнне
і падземны гул крыніцы,
кара — яснае гарэнне
перуна і бліскавіцы.

*

Дзяцел дзюбаю
ў сук біў сасновы
са звонам,
Нікадзім з каня злазіў
у дрэвах старых;
пры дарозе пад восеньскім
небам і клёнам
адбылася сустрэча і ростань
У іх.

*

Так, як дождж, як град над гаем,
не праходзіць кара міма,
а ў дарозе насцігае
афіцэра Нікадзіма.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

### 1

Галыншчынай завецца бор,
Там панскі сад і двор,
Палац над кручаю ўгары
І вокнаў трыццаць тры.

Жыве ў ім Ластаўка Макар —
Сын берастовых труб,
Агей Жаўна, і Вальдэмар,
І сірата Якуб.

Нарэшце з хутарскіх сядзіб
Прыбег Даніла Дыб,
Ён кляў свой парабкоўскі лёс,
Звон гаспадарскіх кос.

І ў сем'ях слухалі людскіх,
І ў пушчах чулі, як
У панскія харомы іх
Склікаў Антон-рыбак.

Шабля секла, куля біла —
Не загінуў ён.
Клікаць яго — Шандабыла,
А імя — Антон.

### 2

Плылі яны пад вярбою,
Па вірах плылі,
Ішлі яны далінаю,
Гарою ішлі.

А ўслед вецер апантаны
Вые па шляхох,
Пад якімі пахаваны
Загула Цімох.

Над магілаю Загулы —
Асіннік і бор,
Трубяць трубы, ходзяць гулы
З бугра на бугор.

Самотнаму земляробу,
Сыну рэк і хмар,
Выказаў сваю жалобу
Ластаўка Макар:

— Прыгадаю, як на пана
Рабілі за трох,
Позна клаліся і рана
Трубілі ў барох.

Па гадах ты быў мне сынам,
А ў прыгодах — брат.
Пакланюся ж я асінам,
Што пасталі ў рад.

Самотнаму земляробу,
Сыну труб і хмар,
Выказаў сваю жалобу
Паляк Вальдэмар:

— Трос акопы, ірваў целы
Гарматны набой.
Ачумелы, адзічэлы,
Ты кідаўся ў бой!

Нас вялі адны забойцы
На сусветны бой,

І тады мы ў першай бойцы
Стрэліся з табой.

Бліснулі штыкі, і хмары
Засланілі свет,
І нас разам санітары
Бралі ў лазарэт.

Самотнаму земляробу
На адвечны сон
Выказаў сваю жалобу
І рыбак Антон:

— Цябе нетры прыгарнулі,
А трава і мох
На грудзях тваіх паснулі,
Загула Цімох.

Гэй, ляжы ў труне, памершы
Парабак, змагар,
Калі б жыў ты, быў бы першы
У нас камунар!

І пайшлі яны па моры
Світальнай расы
Аглядаць свае аборы,
Лугі і лясы.

3

На кручах арахоўнік рос
І трос на кручы росы,
Дванаццаць неслі яны кос,
Як бліскавіцы косы.

За лесам панскім лёг бальшак,
Што войнамі быў біты.

Яны глядзелі разам, як
Там урадзіла жыта.

Яны пайшлі пад дужы дуб,
Што раны меў на целе,
Паставілі пад дубам слуп
І доўга ўдаль глядзелі.

Ім землі, пасбішчы відны,—
І ўчулі камунары,
Што косы ў іх цяпер адны,
Шляхі адны і мары.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Калі прыйшоў у воласць брат,
Ром прывітаўся строга:
— Чаго ты ходзіш, як жабрак?
Чаму маўчыш, нябога?

Брат перад братам гнецца ў крук,
Як да зямлі прыкуты,
Здавалася, з вачэй яго
Глядзяць вякі пакуты.

— Быць я хачу багатыром! —
І слухаў брат маўкліва...
— Мець парабка, вялікі дом,
Свой сад, каб жыць шчасліва!..

**2**

Ён сам абраў палетак той.
Гарбаты дуб расце там.
Жыты і травы над ракой,
Што слепяць вочы цветам.
Паставілі на ўзлессі дом
Як след — казённай масці.
Зямлі адрэзаў брату Ром
Ад лепшай панскай часці.
На ўсе дарогі і канцы,
Як толькі кінуць вокам,
Адзначыў межы і капцы
У землю ўбіў глыбока.
Па сёлах, вёсках даў загад,
Што сонца адрачэцца,
Што адрачэцца маткі гад,
Які на гвалт памкнецца.
А брату наказаў: — Жыві
Пад свістам пушчы сумным,
Сярод пакутных нас слыві
Гаспадаром разумным!

3

Тады як скочыў на каня,
Як даў каню пад бокі,—
Да позняй ночы ад паўдня
Гулі ў дарогах скокі.
Дзе знак кідалі капыты,
Раслі ў тым месцы дзівы:
— Касіце панскія жыты
І маладыя нівы!
Як хроп той конь, аж беглі з хат
За ім людскія сем’і:
— Належаць вам ад гэтых дат

Усе лясы і землі!
Як бег той конь, ажно сычы
Знікалі ўноч і слеплі:
— Сам пушчы панскія сячы,
Будуй дамы і грэблі!

4

Калі ж дванаццаць чалавек
Прыйшлі на хутар з гвалтам,
Ён гэта палічыў за здзек
І стаў агнём і гартам.
— Усім я землі раздаю,—
Закон на гэта маю!
Злачынцаў жа, што чыняць гвалт,
Сваёй рукой караю!

Не рып асін, не соснаў звон,
Не пярун трэснуў з хмары,
А біў яго рыбак Антон
Крывым дубцом па твары.

У крэмень дзікі і тугі
Тут завязаўся вузел.
А на гняздзе сваім з тугі
Аж крыкнуў бедны бусел.

5

Расла навала, трэск і стогн,
Гул прагрымеў над Сожам,
Сваім сябрам рыбак Антон
Казаў: — Мы пераможам!
Вар'яцеў бацька яго Сож,
Шалела завіруха,
Маланкі бліскалі, а дождж,
А град сек доўга, глуха.

6

Пасля, магутная калі
Знікала ўдаль грымота,
Яны, суровыя, ішлі
На Чортава балота.
Як дзікія абшары там
Капалі ў тое лета
Яны, апавядае нам
Наступны сказ пра гэта.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

1

Над пустэляю ўгары
Павесілі гонг,
Людзі, птахі і вятры
Хісталі яго.

І ў мядзяны гонг б'ючы
У дождж і ў прыпар,
І карчуючы карчы,
Чуе камунар:

— Тарфянішча абраблю,
Каб гуло, як медзь.
Даглядаючы зямлю,
Буду хлеб
мецць!

2

Загукаў на працу гонг
Бліскучы, крывы...
Звон сякеры, тупат ног
Азваўся з дрыгвы.
Там працуюць ад цямна
Сягоння яны.
Аднаго толькі няма
Агея Жаўны.

Міма багнішча ідзе
І маўчыць Агей...
— Быць бядзе, быць бядзе! —
Б'е ў гонг сухавей.

Пытаецца Дыб тады
Праз гоні і гаць:
— Гэй, Агей! А ты куды?
— Венікі вязаць!

3

А ў тым доме за бугром,
Дзе высокі гай,
Вашыя хаўтуры Ром
Адзначае хай!
Вы ж працуйце да зары,
Ад вашых сякер
Дрэвы скачуць дагары
І якоча звер!

4

Трэці і чацвёрты дзень
Працуюць яны,

Прыблукала ў сосны цень
Агея Жаўны.
Слухае ён скрогат піл
І рыдлёвак звон,
Дзівіцца праз дым і пыл
На балота ён.
Ластаўка Макар тады
На калоду ўзлез:
— Гэй, Агей! А ты куды?
— Па ягады ў лес!

5

У дзікіх соснах за сталом
Васпанства банкетуе,
Гасцей сваіх гарэлкай Ром
І брат яго частуе.
Чырванавокі самавар
Хістаецца, іскрысты;
Агніста-рыжы гаспадар
Нясе яго ўрачыста:
— Крыві табе пазычыў бор
З крыніц сваіх даволі,—
У рошчынах тваіх чабор,
Што рос на нашым полі.
Няхай шалеюць за бугром
Дажджы, маланкі, сцюжы,—
Карысным зеллем і агнём
Грэй, браце, нашы душы!
Пасля ішлі за касагор,
Раўлі аднагалосна,
А сосны чулі іх згавор
І рагаталі злосна.

6

І негаваркі ён быў,
Ром яму калі
На Галыншчыне адбіў
Валоку зямлі.
Як дазналіся яны,
Пайшлі моўчкі ў лог,—
Толькі чуецца з багны
Гул і тупат ног...
Але гонг у трэці раз
Аглох на вадзе,
Міма багнішча якраз
І Агей ідзе.
Загукаў Антон тады,
Стаўшы пад дубы:
— Гэй, Агей! А ты куды?
— У лес па грыбы!

**РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ**

1

Устрывожыў іх
На ранку
Крык і рогат
Невядомы,
Ногі тупалі
Па ганку,
Рукі грукалі
Ў харомы.
І, пачуўшы крыкі,
З печы

Падхапіўся
Дыб Даніла,
Страсянуў тады
За плечы
Ён Антона:
— Шандабыла!
Чуе рогаты
І кпіны
Шандабыла,
А тым часам
Маткі збегліся,
Мужчыны
І глядзелі ў вокны
Разам.
Бачылі — на ўсходзе
Сонца,
Самі білі
Сабе ў грудзі,
Мітусіліся бясконца
Тут і там
Чужыя людзі.
Білі ў засланкі
І вёдры...
Мур высокі,
Камень цвёрды,
З крыўды літы, літы
З громаў!..
— Прэч з харомаў!
— Прэч з харомаў!
— Прэч з харомаў!..
І дзяўчына
Захісталася,
Паблекла...
Кінутая ў дом
Дзічына
Леніна партрэт

Рассекла.
Як бліснулі
Вочы ў Дыба,
Валасы паўсталі
Дыба:
— Рукі маю,
Стрэльбу маю.
Стрэльбу ў рукі:
— Пакараю!
Злосці ў яго, сілы
Столькі,
Што яна яго
Паліла.
Кінуўся да стрэльбы,
Толькі
Не дазволіў Шандабыла.

2

Бярэ ў рукі адмысловы
Кій з бярозавага біла
І гаворыць так суровы
Шандабыла:

— Выбірайцеся ў дарогу,
Набівайце патранташы,
Каб чакалі на трывогу
Стрэльбы нашы!

Там, у грамадзе вялікай,
Забывайце свае болькі,
Не распачынайце дзікай
Бітвы толькі!

Нам спакой і волю бор дасць,
Данясіце ж да сасонак
І жыццё дзяцей, і гордасць
Сваіх жонак!

Каб сыны ў мяхах ваўчыных
Крэпка спалі на світанку,
Вы спявайце, везучы іх,
Калыханку!

Каб ніхто з іх не пабачыў
Слёзы матак, зірк трывожны,
Каб надоўга след тут значыў
Крок наш кожны!

3

— Ёсць! — сказалі камунары
І стаеннікаў запрэглі,
Рэчы ўсклалі на мажары
І загрукалі па грэблі.

4

Ідуць яны ўпрочкі папасам,
Па травах, праз пыл і гром,
І чуюць: з натоўпам разам
Кляне Шандабылу Ром.

— Твой бацька — жабрак
гарбаты,
Вучыў яго кій ды бізун,
Чаго ж ты ў панскія хаты
Лезеш?!
— Гарбун!
— Гарбун!

— Білі й цябе па твары,
Як пасвіў ты панскі табун,
Не хлеб ты збярэш, а пажары
На гэтай зямлі!

— Гарбун!
Хаваючыся за спіны,
З натоўпу
Агей Жаўна
Крычыць яму:
— Троп звярыны —
Табе дарога адна!

Свой позірк адвёўшы суровы,
Ідзе, маўчыць камунар;
Рыкаюць быкі і каровы,
Прывязаныя да мажар.

5

Пятую вярсту
Мінае
Табар іхні
Безгалосы;
Свой да іх інтэрас
Мае
Рог —
Дзівак і дурань
Босы.
Ромавых кароў
Пасе ён
І на трубах грае
Розных...
Бізуном сваім
Трасе ён,
Як ідзе па травах
Росных.

— Бі! — яму крычаць тут
Людзі,
І, ў сабе адчуўшы

Сілу,
Глуха кулаком
У грудзі
Рог ударыў
Шандабылу.
Той ішоў, высокі,
Горды,
І яго шляхі
Гуталі,
А навокал білі
Ў вёдры,
І раўлі, і рагаталі.

6

І Шкроб Анісім пад дубам
Скакаў на майдане ўбаку,
Б'ючы пугаўём і хлудам
Па костках, па рэбрах быку.

Але падхапіў на рогі
Угневаны бык яго
І кінуўся прэч з дарогі,
З людскога пекла свайго.

Так бег ён, магутны, пад хмару,
Каб волю звярыную мецць,
І нёс дарагую ахвяру —
Чужую, крывавую смерць.

Так бег, уцякаў ён з палону,
Каб трапіць самому ў палон,
І скочыў, шалёны, з разгону
Ў глыбокае возера ён.

І людзі доўга, жахліва
Ўглядаліся ў змрок катлавін,

Як бык рагаты маўкліва
На бераг выходзіў адзін.

Стаяў ён над кручаю ў зморы,
Жывых вітаючы з днём,
І вочы яго, як зоры,
Смяротным гарэлі агнём.

7

На вярсце міналі шостай
Камунары лес адны,
Збочыўшы з дарогі простай,
Там спыніліся яны.

Сосны іх сустрэлі шумам
Крон абуджаных сваіх,
Адзінотаю і сумам
Прывітала ўзлессе іх.

І вандроўныя палаткі
Будавалі там яны,
І спявалі ў соснах маткі,
Каб заснулі іх сыны.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

1

Антон спявае на Сажы,
Зноў сэрца яго ў крыўдзе,
Хістаюць хвалі траў нажы,
І вечар цёмны ўкрыў дзень.

Жылі, як будаваўся Ром,
У лесе адгалоскі,
Цяпер сваім «багатыром»
Яго назвалі вёскі.

Праз бор да рэк ідуць быкі
Блукаць у травах росных;
На адвячорках парабкі
У дзікіх скачуць соснах.

А камунар Агей Жаўна
Жыць выбраўся ў гушчары,
Арэ з відна і да відна
Свае ў расе папары.

2

Не вечна месяцу вісець,
Жытам стаяць пад пылам
І спець…
Ён закідае сець
І гулка ў дно б’е білам.
Да хутара плыве Антон,
Шлях па вірах прастуе,
Адпомсціць Рогу едзе ён,
Што ў сасняку начуе.

3

Кіруе човен ён вяслом,
Над ім паўсталі строі;
Яму відаць і троп і дом,
За домам шлях і хвоі.

Стаіць іх разам дужых сто,
Пад імі ў шуме, ў стоме

Спаць чалавек кладзецца, што
За парабка ў тым доме.

Відаць Антону, па расе
Ром-гаспадар ступае,
Ён гнеўна бізуном трасе,
Чутна ў ім сіла злая.

Падбег да парабка: — Маўчы! —
І глушыць кулакамі.
Той, падаючы, за карчы
Чапляецца рукамі.

Калі ж на тропе гаспадар
Прыбіў яго аб хвою,
Страшны, ён кінуўся ў гушчар,
Лес ломячы сабою.

Бег парабак гадзіну, дзве
На галас воўчы,
Па дзеразе, па крапіве,
Што лезла ў вочы.

4

Ёсць ворагі і ёсць сябры,
Ёсць бедны люд, багаты,
І дуб той самы на гары
Сукі прасцёр, гарбаты.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

1

Сонца знікала за стрэхі,
За дрэвы, за панскі сад,
Калі скакаў праз маёнтак
У пыле і ў стоме атрад.

Трымаючыся за лейцы,
Плылі ў вечаровы спакой
Стомленыя продармейцы
Над радаснаю зямлёй.

2

Насустрач ішлі барадатыя,
Прыбраныя ў ручнікі,
Гасцей сустракаць багатыя
І хітрыя мужыкі.

Трымаючы сцяг чырвоны,
— Ура! — крычалі яны
І, нізка б'ючы паклоны,
— Адкуль вы? — пыталі.
— З вайны!

3

І бег ад хаты да хаты,
Гасцей размяшчаючы, Ром,
І іх частавалі дзяўчаты
Святочным тады пірагом.

І мёд быў з пчаліных хатак,
І рыба з вуд рыбака,

І рыжы рагаты статак
З атаў прынёс малака.

4

Глухою паўночнай парою,
Яны ўсе заснулі калі,
Вяскоўцы забралі ў іх зброю,
А коней на хутар вялі.

І ў цемры маўклівай, глыбокай,
Праз гул дарог і праз сон,
Прымчаў сюды з пушчы
далёкай
І ўсё гэта бачыў Антон.

5

У страляніне і ў стоме
Сяло пакідаў продатрад,
Самотна плылі на пароме
Байцы і глядзелі назад.

Там іхняга камісара
Замкнулі ў дубовую клець...
Пярун паліў дрэвы, а хмара
Расла і гарэла, як медзь...

6

Антон сачыў. Спачатку Ром
У дзверы біў старанна,
У камісара пад акном
Пасля хістаўся п’яна.

Пад ім гула зямля, як склеп,
Апоўначы трывожна,
І поўз па травах яго шэпт
Таемна, асцярожна:
— Хавацъ цябе жывога ў дол
Я заўтра загадаю,
Мой брат табе ўжо высек кол
З асінавага гаю!

Ром рагатаў, а камісар
Не адказаў нічога;
І быў спакойны ў вязня твар,
Далёкаю — трывога.

— Праклён табе ад нашых глеб,
Ты край трывожыў мірны:
Камбеды — хлеб, камуны — хлеб,
У склепы лез і ў свірны.—

Ром рагатаў: — Праклён! Праклён! —
А сам знікаў у змроках;
І падымаўся з траў Антон
Услед па яго кроках.

7

Ён доўга адгібаў прабой
І выў ажно ад болю,
А потым вязня за сабой
Вёў камунар на волю.

Казаў яму: — За мной, за мной!
Тут конь ёсць мой і рэчы.
На ім паскачам мы з табой
У камуну, чалавеча!

Там будзеш ты, як друг, як госць,
Там зробіш свае справы!
Вялікія ў нас зоры ёсць!..
Дубы ж гудуць! А травы!..

Працуем дзень, працуем ноч,
І вечары, і ранкі:
Мы дрэва пілім, палім корч,
Капаючы зямлянкі.

Гарыць агнішча, дол дрыжыць,
А ў твар б’е дождж і сцюжа...
Мы ў тых зямлянках будзем жыць,
Як у харомах, дружа!

8

І чуў Антон адказ такі:
— Скачы ж туды, дзе зоры,
Імчы адзін паўз ветракі,
Мінаючы азёры!

Сюды склікай людзей сваіх.
Хавацца ў лесе годзе!
Скажы ім, каб у стрэльбах іх
Былі куркі на ўзводзе!

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

1

На балоце гонг аб дрэва
Нечакана ўдарыў сам,

Захістаўся ўправа, ўлева...
Шандабыла скача там!

У дрыгве і пад карчамі
Пракапана магістраль,
Карнявішчамі, імхамі
Зарасла яна амаль.

Чуе гонг сваё выгнанне,
І плыве з балота звон,
Камунараў на змаганне
І да працы кліча ён!

І гудуць лясы ў пагрозе,
А між дрэў блішчыць агонь,
У прысадах на дарозе
З цемры вырас коннік, конь.

Як віхор магутнай сілы,
Конь імчыць пад ветракі,
У яго на скронях жылы,
Як дубовыя сукі!

Ля вогнішча камунары
Рыхтаваліся ў паход:
Набівалі патранташы,
Стрэльбы ставілі на ўзвод.

Шандабыла ў соснах дзікіх
Прыпыніў каня свайго,
Заіржаў і капытамі
Ў дол ударыў конь яго.

Ён праз кручы і выбоі
І праз вогнішчавы дым
Бег ізноў на шлях: — За мною!
І скакалі ўсе за ім.

2

— Гаспадар! — загукаў Даніла.—
Адчыняй насцеж гумны і склеп,
Жыта сёлета добра ўрадзіла,
Мы прыйшлі малаціць свой хлеб! —
Пачынаецца так
Сказ аб хлебе,
Сказ пра страшную ноч,
Калі
Зоры ярка гарэлі
У небе,
Чалавек паміраў
На зямлі.

Сеўшы ў крэсла за стол дубовы,
На куце маўчаў гаспадар.
— Дзе ключы? — малады і суровы
Запытаўся ў яго камісар.
Ром зірнуў яму ў вочы,
Стаў роўна
І ад злосці затросся,
Як кат;
Потым кінуўся ў дзверы
Раптоўна,
Потым грозна паклікаў ён:
— Брат!..
І маўчалі стагоднія хвоі.
Яны ведалі толькі адно,—
Як у братавым цёмным пакоі

Ў лес адчынена насцеж акно.
Што ў глыб лесу бег брат
І нёс зброю —
Нёс сякеру
Крывавую ён,
Што апошні раз біўся
Аб хвою
Пад акном
Шандабыла Антон.

А вакол яго дрэвы
крывыя
Падымаліся, падалі
Ў ноч,
Калыхаліся травы
чужыя,
А па кручах
бег камень
і корч.

Шандабыла адтуль
Ад паўночы
Аж да самае раніцы
Поўз,
Закрываў яго сумныя
Вочы
Вераснёвы світальны
Мароз.
Нават цяжка мне выказаць
вершам
І як нёс, і як клаў
на парог,
І як выў над Антонам
памершым,
Як над братам, парабак
Рог.

3

Потым там іх піла
Галасіла,
Потым падала ў лесе
Сасна.

Ром сякерай засек
Шандабылу,
І нябожчыку будзе
Труна.

Не прасілі яны
Чужой ласкі —
Самі пільшчыкі,
Цесляры...
Распілоўвалі дрэва
На часткі,
Габлявалі яго
На зары.

4

Як хавалі яны
Шандабылу,
Быў цяжкі і бясконцы
Іх шлях:
Неслі гроб на сабе
Да магілы,
У жалобе быў схілены
Сцяг.

А хавалі яны яго
Ў полі,
Сярод восеньскіх красак
І бур.

У мясцовасці гэтай ніколі
Не было такіх мужных
Хаўтур.

Калі ж труп засыпалі
Зямлёю,
Змоўкла ўзлессе, прыслухаўся
Стэп:
Над магілай апошнім
Боем
Тройчы біла дванаццаць
Стрэльб.

## ЭПІЛОГ

### 1

Быў час між лета і вясны.
Спачатку дрэвы сонца грэла,
А потым білі перуны,
І хата цэлы дзень гарэла.
У хаце жыў Агей Жаўна
І не заспеў быць на пажары,
Ён перад гэтым ад відна
Касіў, араў свае папары.
Калі ён прыскакаў, агнём
Ахоплены былі ўсе сцежкі,
Вакол стаяў і трэск, і гром,
І сыпаліся галавешкі...
Згарэлі ўсе будынкі, сад
І дзве калоды пчол пад клёнам,
А жыта сек за хатай град
І ў сосны біўся ён са звонам.

Раўла стыхія хмар і рэк
І рагатала на ігрышчы,
Яе ахвяра — чалавек
Стаяў адзін на папялішчы.

2

Там, дзе крывавыя сляды,
Там, дзе халодны жвір магілы,
Растуць будынкі і сады
Імя Антона Шандабылы.

3

У камуну дарогай
бясконцай,
што праз рэкі, лясы
ідзе ў свет,
коні быстрыя
скачуць пад сонцам,
госці едуць
на сход,
на банкет.
Першы госць — сакратар райкома
праз палі едзе ўдаль
спакваля,
міма чэрвеньскіх красак,
вядома,
і высокага жыта
каля.
Бачыць: травы, а ў травах —
магіла,
вецер, цені на ёй захістаў.
І тут злазіць з каня
Дыб Даніла
адпачыць сярод жыта
і траў.

І начальнік палітаддзела
едзе ў госці праз лес
на бальшак,
пад ім конь скача ўпэўнена,
смела,
дрэвы ж, кручы нагадваюць,
як
быў ён некалі тут
камісарам.
Гэты лес і троп гэты
якраз,
перадаўшы наказ
камунарам,
мінаў конна і пеша
ў той час.

4

Гараць ярка сцягі
над камунаю,
ёй сягоння пятнаццаць
год.
Старшыня стаіць
за трыбунаю,
і прыехалі госці
на сход.
Урачыстыя будуць
праводзіны
бальшавіцкай вясны
і сяўбы,
у высокае лета
ўваходзіны,
свята працы і
барацьбы!

*1932—1934 гг*

# ЦУДОЎНЫЯ ПЕСНІ

Багацце і разнастайнасць паэтычных тэм характарызуюць творчасць народнага паэта Янкі Купалы. Цяжка было б хоць больш-менш схематычна пераказаць узнікненне гэтых тэм, іх уплывы адна на другую. Гэта варта вялікай крытычнай работы. Тут жа мы можам толькі адзначыць адну з іх, якая бярэ свой пачатак у самых ранніх вершах Купалы і з выключнай сілай прагучала ў вершы «А хто там ідзе?».

Тэма гэта — жаданне беларусаў, сацыяльна і нацыянальна занядбаных, «глухіх і сляпых», людзьмі звацца. І вось, на нашу думку, тэма ч а л а в е ч а й  г о д н а с ц і і з'яўляецца цэнтральнай у творчасці Янкі Купалы, а глыбокае, мастачка праўдзівае, арыгінальнае вырашэнне яе вызначыла песняру пачэснае месца ў шматнацыянальнай сям'і паэтаў Савецкага Саюза.

«Век занядбаныя, век глухія і сляпыя, несучы крыўду сваю напаказ усяму свету, мы хочам звацца людзьмі» — як бы гаварыў паэт. І хіба гэта не пераклікаецца з вядомым выразам геніяльнага

пралетарскага пісьменніка М. Горкага «Чалавек — гэта гучыць горда»? І хіба на пытанне: «а хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?» — нельга было адказаць не «беларусы», а, скажам, украінцы, грузіны, армяне і г. д., і г. д.? Так, лёс прыгнечанага царызмам працоўнага беларускага народа быў агульным з лёсам іншых прыгнечаных нацыянальнасцей, і таму яшчэ ў тыя далёкія часы, вырашаючы тэму чалавечай годнасці, Янка Купала перарос ужо нацыянальныя рамкі, ён стаў усерасійскім паэтам.

Што ж скоўвала сілы народныя, што перашкаджала беларусам, украінцам, рускім «людзьмі звацца»? Адказ просты, але вычарпальны: панаванне памешчыкаў і капіталістаў, царызм. Уся творчасць паэта — пратэст супроць нечалавечага прыгнёту, супроць усяго таго ладу, які скоўваў сілы народа. Вядома, не ўсё так проста і зразумела выглядае ў вершах Янкі Купалы. Там мы знаходзім куды больш складаныя працэсы ўзнікнення і развіцця як гэтай галоўнай тэмы, так і іншых тэм, якія развіваюцца разам з ёю, беручы пачатак з яе, як, напрыклад, тэма радзімы, кахання, вайны і г. д.

Як вытлумачыць складаны і шматгранны працэс развіцця і росту арыгінальнага таленту? Што такое галоўная тэма творчасці і што гэта за пабочныя тэмы? Розных нараджала зямля паэтаў. Аднаго яшчэ з першых дзён юнацтва ўразіла каханне, пакінула ў душы яго, у пачуццях глыбокі след. Як бы далей не ўплывала на яго жыццё, як бы не ўздзейнічала людское асяроддзе, але кожную жывую з’яву, кожны цікавы факт ён абагульняе ў сувязі з новым або перажытым пачуццём кахання. Магчыма, гэта ад аднабаковасці, інтэлектуальнай і сацыяльнай абмежаванасці паэта, але ўсё цікавае для яго ў праявах кахання. Каханне — галоўная

тэма яго творчасці. Узняцца вышэй ён не можа.

А Янка Купала?

Ён сын народа. З першых жа дзён жыццё ўсклала на яго плечы гора і нястачу, крыўду і эксплуатацыю. Вельмі балела ў яго сэрца, калі ён бачыў гора адных і багацце другіх. Ён бачыў разлад між людзьмі:

Адзін накраў — багацце ўмножыў,
Другі згалеў, галей сабакі.

Аслу з напоўненай машною
Леў акаваны лапы ліжа...
Рака затоўчана крывёю,
Удава заводзіць каля крыжа.

*(«Разлад», 1907)*

Гора, лёс працоўнага чалавека, парабка, «льва акаванага» не давалі паэту спакою. Горам чалавечым была да краёў перапоўнена істота паэта. І ўсведамленне таго, што прыгнечаным час ужо «людзьмі звацца», не пакідала паэта ніколі, вызначыла на ўсе гады яго інтэлектуальнае развіццё, зрабіла яго народным паэтам. Таму ўсё іншае, што хвалявала ў жыцці паэта, абагульнялася ў сувязі з гэтай асноўнай паэтычнай думкай, як бы ў дадатак да яе. Узяць хоць бы выдатны цыкл аб каханні «Яна і я». У заключным вершы «Краса свету» паэт вітае прыход вясны:

Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!
Зайгралі рэкі, плечы выраўнаваў бор,
Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча
І падлятае з радасцю аж да зор.

Але паэт заклікае думку ляцець «вышэй, далей», каб яна схапіла песню «з перуновай сталі» і прынесла «волю сільную, як сталь».

Я песняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю,—
Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель.
А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

*(«Яна і я», 1913)*

Такім чынам, шчасце простага сялянскага хлапца і дзяўчыны, злучаных горам, поўнае хвілін ідылічнага замілавання, непаўнацэнна. Паэту патрэбна яшчэ жалезная воля, каб плаціць помстай за бясхлеб'е, за ланцугі бяспраўя, якія скоўвалі жыццё беднага хлапца і дзяўчыны.

Пачуццё нянавісці да старога свету было ў Купалы такім вялікім і невыказным, што яшчэ да сённяшніх дзён паэт не забыўся на змрочныя малюнкі мінулага.

Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Палешукі мы,
А не чалавекі! —

успамінае Янка Купала. У вершах апошніх год Янка Купала не забыўся пра той пракляты свет, які скоўваў, прыгнятаў працоўнага чалавека. Паэт як бы дагаварвае цяпер тое, што некалі не дагаварыў па адрасу праклятага свету эксплуатацыі. Ён пасылае яму праклён і нянавісць, пішучы пра імперыялістычную вайну:

Скрэжат і смерць. А там... бежанцы, бежанцы...
Густа пайшла за магілай магіла.
Хоць бы ўжо ў царскае горла урэзацца,
Хоць бы кроў з панскіх выпусціць жылаў!

Стары свет яшчэ не знішчаў, ён акружае нас і адтуль чуваць паэту, як

Жандарскі конь б’е капытамі,
Пад капытамі жудкай явай —
Людскія толавы пластамі.

Гледзячы на старыя акопы над Дняпром, паэт успрымае іх як раны мінулага на целе дарагой яму зямлі. Ён не забывае, што стары свет збіраецца ісці ў паход на нас. Але ён упэўнена канстатуе:

Плыве Дняпро, плыты плывуць памалу...
— Спакойна спіце вы, акопы, бліндажы:
На іхніх землях, з іхніх генералаў
Знімаць пагоны будзем, шаблі і крыжы.

Хіба толькі гэтымі гнеўнымі словамі на адрас старога свету абмежаваў паэт галоўную тэму сваёй творчасці, тэму чалавечай годнасці? Не. Як сапраўдны народны паэт, Янка Купала раней за ўсіх паэтаў, нават маладых, адчуў радасць народа і змог раней усіх новае ў жыцці народа зрабіць здабыткам паэтычнага слова. Успамінаюцца гады 1933—1934, калі ў нашай паэзіі панавалі агульныя заклікі, апісанне машын. У тыя гады Янка Купала першы пачаў пісаць пра людзей нашага часу, паказваць новыя чалавечыя ўзаемаадносіны, паказваць тых, якія пачалі ўжо людзьмі звацца. Па сутнасці, такія вершы, як «Сыны», «Лён», «Алеся», упісалі новую старонку ў развіццё савецкай паэзіі, наблізілі ўсіх паэтаў Савецкага Саюза да паэтычнага асэнсавання сацыялістычнага жыцця. А здарылася так таму, што ўсімі сваімі папярэднімі думамі і паэтычнымі марамі паэт горача імкнуўся ўбачыць новыя ўзаемаадносіны людзей, аснаваныя на прызнанні чалавечага дастоінства, на радасці і шчасці. Новы сацыялістычны лад паставіў у цэнтры ўвагі працу чалавека, яго карысныя здабыткі. А гэта якраз тое, аб чым марыў Купала, і ўсе пачутыя ім радасці вольнага чалавека ўлілі-

ся ў шчырае і шырокае рэчышча Купалавай паэзіі.

Вершамі апошніх пяці год Янка Купала сцвярджае шчасце людзей. Ён бачыць яго ў сумленнай працы. Колькі сонечнай цеплыні і святла ў вершы «Лён»:

Як на поле, на зямлю
Прыйшла раніца вясны,
Я пасеяла ў раллю
Жмені зёран ільняных.
Неба сеяла цяпло,
Цёплы дождждык церушыў,
Ў думках радасна было,
Беглі песні ад душы.
Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Гэта пачуцці вясковай дзяўчыны: яе любоў да працы, да хлапца. Нішто не перашкаджае яе шчасцю. Як срэбны ручай, звініць яе голас, голас чыстага і разам з тым непасрэднага пачуцця:

Дзе папаўся Міхасёк,
Цалавала на бягу.
Сэрцу лёганька было,
Цэлы свет — вясёлы рай...

Вось верш «Як у госці сын прыехаў...». Ён здаецца нам былінай, эпічным творам, які ствараўся, выношваўся дзесяткамі год, як народная быліна выношваецца стагоддзямі.

Усё проста ў гэтай быліне: чырвонаармеец прыехаў дадому, да маці і простымі, але поўнымі захаплення словамі расказвае ёй аб буднях і святочных днях Чырвонай Арміі:

А музыкі граюць маршы
Ў нечуваным ладзе, складзе,
Граюць маршы і мне такжа,
Бо я такжа на парадзе.

І па-былiннаму велiчна, казачна гучыць рэфрэн верша:

А суседкi каля вокнаў
Як бы ўбачылi праяву:
— Якi чысты, якi стройны,
Якi з твару маладжавы!

І ўяўляецца такi малюнак. Вечар. На вулiцу з акна льецца святло. За сталом сядзiць малады хлапец-чырвонаармеец, каля яго мацi i сябры. Пад вокнамi маладыя суседкi-дзяўчаты. І хочацца самому стаць дзе-небудзь ля гэтых людзей, каб i на цябе веяла ад хаты пахам яшчэ вiльготнага ляснога моху i смалы, уважлiва лавiць кожнае слова простай гаворкi, як нешта значнае i прыгожае. Слухаць i словамi з купалаўскага верша звяртацца да свайго сэрца:

Слухай жа, сэрца,
Песняў i казкаў.

*1940 г*

## ПАЭЗІЯ МАКСІМА ТАНКА

Гэта не крытычны артыкул, а толькі ўсяго першыя ўражанні, раптоўныя думкі, выкліканыя радасным знаёмствам з новым, непаўторным вобразам юнака, створанага паэзіяй Максіма Танка.

Хто ён такі, гэты юнак? Звычайны хлапец з вёскі Заходняй Беларусі, якому рана давялося адчуць сацыяльны і нацыянальны прыгнёт і пра ўсё гэта ярка і арыгінальна расказаць людзям. У мяне могуць спытаць: што свежага і арыгінальнага можна стварыць пасля вершаў Купалы і Коласа, якія так поўна і ярка выказалі сваёй паэзіяй усю крыўду і нядолю народа дваццаць, дваццаць пяць год таму назад у вельмі блізкіх умовах жыцця, ва ўмовах царскай Расіі? Так, умовы жыцця ў царскай Расіі і ў панскай Польшчы былі вельмі блізкія. Але... але ўсё ж такі жыццё ніколі само сябе не паўтарае. Дадзім слова паэту:

Цесна схіліўшыся, месіц старая
З жытняй мякінай ў дзяжы.
— Хоць бы да першых растопаў дажыць! —
Хворы на ложку ўздыхае.

А у кутку абразы цудатворцаў,
Даўка ад дыму сляпых.
Б’е ім паклоны за дождж, за снапы
Ноччу старая да сонца...
Мала змянілася, вёска мая ты!
Болей мо трохі лапцей.
Болей на плечах ў старых і ў дзяцей
Голага цела і латаў...

Сацыяльны і нацыянальны прыгнёт у былой панскай Польшчы, у параўнанні з царскай Расіяй, дайшоў да гіпербалічных памераў. З беззямельнага сялянства Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны зганялі па тры скуры за дзень. Сістэма падаткаў і штрафаў дайшла да таго, што дзяржаве селянін плаціў штрафы за ўсё, нават за тое, што на страсе пуні вырасла сцяблíна тытуню. За чытанне вершаў Коласа ці Купалы беларускі сялянскі хлапец павінен быў адседзець у турме ці зноў-такі плаціць штраф. І атрымалася так, што ўжо не адзінкі, а цэлыя сем'і, цэлыя вёскі ішлі ў турмы. Такая нечуваная нядоля — ужо не проста паўтор сацыяльнага і нацыянальнага гнёту былой царскай Расіі, а нешта большае.

У гэтым першая асаблівасць умоў, у якіх давялося жыць і тварыць маладому сялянскаму паэту Танку. Польскія паны як наймацней заціскалі ярмо сацыяльнага і нацыянальнага ўціску на шыі працоўных яшчэ і таму, што ў панскім сэрцы, побач з нікчэмна-смешным шляхецкім гонарам, вельмі добра ўжываўся страх перад народам, перад немінучым народным паўстаннем. Баяцца ж было чаго! З панскай Польшчай межаваў Савецкі Саюз, у якім народы не зналі ні сацыяльнага, ні нацыянальнага ўціску, а ад прыгнечанага народа «крэсаў усходніх» цяжка было схаваць гэту праўду.

У гэтым другая акалічнасць, якая дадатна адбілася на творчасці Танка, надаўшы ёй свежы арыгінальны тон.

Усё ж такі вялікія цяжкасці паўставалі перад маладым паэтам — не паўтарыць Купалу і Коласа, бо, не сакрэт, вершы іх вывучаліся на памяць прыгнечаным народам і гучалі, як вельмі блізкія, вось-вось напісаныя. І гэтых цяжкасцей Танк не мінуў, першыя яго вершы з цыклу «Чорныя скі-

бы», «Акварэлі» пад вялікім уплывам народных паэтаў.

Чытанне, а тым больш пісанне вершаў на беларускай мове Максіму Танку, як і іншым сялянскім хлапцам яго ўзросту, даравана не было. Давялося трапіць у турму, і... знойдзены новыя арыгінальныя фарбы, смелыя думкі і параўнанні. Сталася так, што само жыццё паклапацілася паказаць паэту свае найбольш тыповыя з'явы, свае непаўторныя людскія слёзы, крыўды і надзеі. Стрэўся юнак у турэмнай камеры з хворым таварышам, шчыра аб усім гаварылі з ім, пасябравалі, аднак... раніцой таварыш памёр. І як маланкай асвяціла юнака-паэта смерць дарагога чалавека. Ён шэпча яму словы, ад якіх вее дзіўнай, мужчынскай чысцінёй юнацкіх пачуццяў. Ён шэпча памёршаму аб тым, што «далёка на Палессі зацвілі сасонкі ціха ў лесе», паэт шэпча памёршаму: «хоць ты і спіш» — але «я не напішу тваім бацькам», бо сорамна ў сэрца лезці з кіпцюрамі. Бо бацькі:

Можа, калі глянуць на гасцінец:
— Сын ці не?

няхай:

У кожным падарожным,
На гасцінцы шэрым,
Паміж жоўтых, чорных, белых каляін
Вечная надзея застаецца ім.

Перажываючы боль за смерць таварыша, паэт усё ж за лепшае лічыць пакінуць людзям надзею — на першы раз, хоць на зварот сына. Потым? Потым паэт кіне ім прамяністыя словы:

Час ужо сцягам разгорнутым шумець
Над гарадамі, над бязмежным полем.
Зрабіць жыццём — агонь, а ззяннем —
нават смерць,
Маланкай азарыўшай полюс.

Не падаць, не ныць — вось той новы, свежы тон, які гучыць у вершах Танка. Нават тады, калі паэт, седзячы ў турме, сумуе па вясне, яго верш па-новаму асэнсоўвае становішча зняволенага. Разам з сумам у вершы чуецца і затоеная злосная іронія на адрас турэмшчыкаў:

Паслухайце, вясна ідзе.
Звініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
Вартуе куст пахучы бэзу.

Цяжка адразу знайсці такія словы, каб растлумачыць красу гэтых радкоў; свежыя яны і таму, што стражнік вартуе не вязняў, не турму, а ўсяго толькі... куст бэзу, і таму, што стражнік ад зняволеных вартуе вясну, якая вабіць, кліча да сябе і гарыць за турэмным акном «мяккім, пахучым, сінім агнём» бэзу, які «на дрот калючы, на муры, як хустку, полымя ускінуў».

Ёсць у Танка верш пра спатканне бацькі з вязнем-сынам. На сумным фоне спаткання, праз абыдзеную размову пра ніву, сенажаць, раптам выбухае глыбока затоеная ў грудзях зняволенага сына вера ў лепшую будучыню, такая ўпэўненасць у свае маладыя сілы, што стары бацька, які нёс свае гора і крыўду да астрожных сцен, замураваўшых яго сына, загараецца (хай сабе на хвілінку!) той жа маладой сілай і надзеяй, разумее сына, верыць, што такія юнакі, як яго сын, скрышаць і астрожныя муры, і тую нядолю, што пануе па сялянскіх хатах. Верш пачынаецца так:

— Ну, што ж, кажы, што ў вас чуваць? —
Пачаў стары пра сенажаць,
Успомніў жыта і авёс...
А вочы... мокрыя ад слёз.

— Нічога, мы та жыць жывём,
Вось ты тут сохнеш за муром...
Я ў торбе сухароў прынёс...—
А вочы... мокрыя ад слёз...

Сын, можа, ад таго, што яго блізка і сурова кранула спачуванне бацькі, і, можа, уяўляючы крыўду і пакуты бацькі большымі за свае, пранікнёна кажа:

— Не плач! Мы вернемся вясной
І ў поле выйдзем грамадой...
...З сяўнёю поўнаю зярнят
Нас выйдзе шмат, як цёмны бор,
На скібы чорныя разор.—
Стары, я бачу, верыць мне
І сам гавора аб вясне,
І неяк відучы падрос,
Хоць вочы... мокрыя ад слёз...

Я не буду тут разбіраць такія вершы Максіма Танка, як, «Дзед і Шчупак», «Песня кулікоў», «З каласамі», «Над Прыпяццю», «Выраі», «А ў полі вярба», толькі зазначу, што ўсе яны маюць у сваёй аснове глыбокае лірычнае пачуццё, юнацкую прагу і любоў да жыцця, аптымізм. Як сталася, што любоў да жыцця, вера ў лепшае, яснасць думкі і пачуцця заваявалі сабе ў паэзіі Танка першае месца, сталі асноўнымі найбольш характэрнымі рысамі яе, надаўшы ёй непаўторную свежасць? З якіх крыніц чэрпаў паэт гэтую любоў — трывалую і ясную? У народа, у жыцця,— можна адказаць, але гэта будзе адказ яшчэ не поўны. А народ, хіба яму жылося вясёла? А жыццё, хіба яно было не змрочнае? Народ цярпеў нечуваныя здзекі, жыццё было цямнейшае за ноч. Больш за ўсё каралі паны простага чалавека тады, калі ён сэрцам хіліўся да краіны сацыялізма, слухаў, прыпаўшы да зямлі, яе песні,

слухаў праз радыё яе словы. Чалавека кідалі ў турму за адну цікавасць да жыцця ў Савецкім Саюзе. Бачачы такі страх паноў перад жыццём, народ верыў у сваю праўду, меў сваю, хай сабе захаваную глыбока, чалавечую гордасць. Вось з якой крыніцы брала паэзія Максіма Танка любоў да жыцця, яснасць і мужную мэтанакіраванасць пачуцця. Тут дарэчы будзе прывесці верш Максіма Танка «Матыль»:

Дзень залаты
    цёплым сонцам заліты.
Лётаў матыль
    сінякрылы над жытам.
Лётаў, як сон,
    над калоссямі нізка.
Як перазвон,
    над малою калыскай.
Слёзы мігцяць
    ад тугі і бяссілля:
Хоча дзіця
    матыліныя крылля.
Маці-жняя
    пацяшае малога:
— Доля твая
    яшчэ спіць на дарогах...
Я вось дажну
    паласу, сіраціна,
І раскажу
    пра палёт матыліцы.
Будзеш і ты,
    сынку, лётаць высока...
Дай зараблю
    вось на хлеб табе, сокал...

Вось яна, мара маці, — бачыць сваіх дзяцей шчаслівымі, якія будуць лётаць высока... як лятаюць там, на ўсходзе. Так і ўяўляецца гарачы летні дзень, шырокае спелае панскае жытняе поле, на ім маці-жняя і калыска з дзіцем... а зусім недалёка, усяго якіх крокаў дзвесце, за пагранічнымі слупа-

мі... такое ж шырокае поле, толькі не панскае, а над ім недзе, на спавітым летняй смугой небасхіле, ляціць савецкі самалёт і вядзе яго дачка шчаслівай маці «дачушка Алеся»:

Самалётавым крыллем
Воблакі калыша.

Ці не слаўныя справы нашых лётчыкаў-сокалаў урываліся ў вобразы Максіма Танка, калі ён гаварыў, што час ужо ззяннем зрабіць — нават смерць, зрабіць яе «маланкай, азарыўшай полюс»?

Яшчэ адзін верш, які сцвярджае гэтую думку. Паэт піша, што «пад дзяругаю вастрожнай» панясе вольныя песні, рассее іх і па дарогах, і ў сэрцах людскіх, і яны зазвіняць каласамі ў сінім полі.

Стальная зрэжа іх машына,
Ў стальныя звонкія цапы
Падасць іх весела дзяўчына...
Сны-песні, зжатыя ў снапы.

Тут мара аб тым, каб на палі Заходняй Беларусі прыйшла сталь, машыны... Тыя самыя машыны, якія на ўсходзе жнуць жыта, а вясёлыя дзяўчаты вяжуць яго ў снапы.

Дыханне нашага жыцця ўвайшло ў паэзію Максіма Танка як усведамленне веры ў выніку барацьбы, як упэўненасць у свае сілы, у сваю чалавечую гордасць, гордасць будучага гаспадара зямлі. Паўтараю, у гэтым яе найбольшая паўнакроўнасць, свежасць і своеасаблівасць.

Юнак-паэт заблукаў на могільнік. Ляжаць там пахаванымі не яго браты, не людзі мазаля, якія ці «на дарогах злажылі галовы», ці ў невядомых курганах. Тут могільнік паноў, што на невядома дзе зарытых касцях бедных людзей будавалі сабе

светлае жыццё і... пасля смерці пакінулі памяць аб сабе на мармуровых плітах:

Гранітныя пліты і мармур бялее —
Не чорных касцей спрацаваных начлег.
Здаецца, на кожным такім маўзалеі
Свой звонкі павесіў бы смех.

І паэт смяецца і над вякамі мінулага панскага панавання, і над цяперашнімі панамі і іх панаваннем. А чаму не смяяцца яму, калі ён ужо адчувае сваю перавагу над імі, ён і разумнейшы за іх, і здальнейшы, і больш любіць жыццё. Хутка адбудзецца замена ролей — не яны, а ён будзе з'яўляцца гаспадаром жыцця. Верш напісан у 1937 годзе, а праз два гады там, дзе пісаліся гэтыя радкі, не засталося і панскіх слядоў.

У дарэвалюцыйных вершах Купала і Колас, характарызуючы прыгнёт і крыўду беларускага народа, пісалі аб магутным жаданні бёларусаў — «людзьмі звацца», а ў вельмі блізкіх умовах прыгнёту і здзекаў сялянскі хлапец з «крэсаў усходніх» заявіў ужо аб сваёй чалавечай перавазе над прадстаўнікамі пануючых класаў.

З болем і жалем бачыць сялянскі хлапец, як ненавісныя яму ўладары жыцця, каб яшчэ тужэй набіць сабе кішэні, бязлітасна рабуюць краіну, высякаюць лясы, пушчы, губяць красу і маладосць:

На захад ідуць цягнікі,—
Лён, жыта, сасна і бяроза...
Гляд;у і гляджу з-пад рукі,
Як моладасць нашу вывозяць.

Гэты жаль і гэты боль жыў у народзе. У восеньскую ноч паэт чуе яго ў словах маці, у словах 100-гадовага дзеда, які, лежачы на дашчаных нарах, «успамінае жыццё, што мінула ўчора»:

І, як памяць сівая далёка ахопе,
Ён гавора з тугой аб гушчарах глыбокіх,
Бы памінкі спраўляе па соснах высокіх,
Па лагох, па ласіных затоптаных тропах...

А моладзь? Моладзь, гонячы на рэчцы ссечаны і звязаны ў плыты лес, загадвае:

Гэй, воды, быстрая рака,
Назад лепш павярні!
На пнёх не марыць аб красе,
Гарыць жывіца ран,
Калі такія ты нясеш
Дары за акіян.

І быццам, зноў звяртаючыся да ракі, яны пагражаюць:

Ўзамен тавар дадзім другі,—
Нямала тысяч тон! —
Вяровак скручаных тугіх,
Стальных сякераў звон!

Хай мне даруе аўтар і чытач: замест радка «стальных сякераў звон!» у кніжцы цэнзура паставіла кропкі... Я ж, не ведаючы арыгінала, аднаўляю гэты радок, і, як мне здаецца, без вялікай памылкі.

З усіх вершаў паўстае вобраз сялянскага хлапца-юнака, разумнага, смелага ў сваіх думках і пачуццях — вобраз самога паэта. Ён то лірычна-задуменны, пазіраючы на адлёт у вырай гусей, ідучы зморанымі па пясчанай дарозе, не забывае паслаць ім кліч «Шчаслівай дарогі!», то з цёплым гумарам расказвае нам гісторыю пра дзеда, якога ашукаў шчупак, не трапіўшы на дзедавы прыманкі — зерні-зоры, то гнеўна-бунтоўны кідае заклік біць паноў і звяртаецца да возера Нарач:

Люблю твае буры, твае навальніцы,—
Ў іх чую, як ў песнях, жыццё
маладое...
І хочацца блізка грудзьмі прытуліцца
Да чорных, ад гневу магучых прыбояў.

Сам паэт песню сваю характарызуе так:

Нашу песню не раз грызлі голад з сухотамі,
Не было нават ранаў калі загаіць.
Станавіліся, ведай, на грудзі
падкутымі ботамі
І чужынец-гандляр, а найгорш —
гэта юды сваі.

Вобраз паэта будзе няпоўны, калі не сказаць, як ставіўся ён да «юдаў сваіх», да буржуазных нацыяналістаў, якія намагаліся адарваць паэта ад народа, ад барацьбы. Паэт гнеўна заявіў ім:

Я не магу вас песняй цешыць
З абмытых бурамі эстрад,
Хоць меў бы пенсію штомесяц
І спакайней я жыў бы шмат.

А так ўжо сёння я не першы,
Прыйшоўшы зморaны дамоў,
Да позняй ночы мыю вершы
Ад вашых пальцаў, ад слядоў.

На гэтым я і скончу свае ўражанні і думкі, выкліканыя паэзіяй Максіма Танка.

Танк — паэт арыгінальны, таленавіты і жыццяздольны. Хочацца пажадаць яму новых, яшчэ большых поспехаў на аснове новага, сацыялістычнага жыцця.

## НЕПАРЫЎНАЯ СУВЯЗЬ З ЖЫЦЦЁМ

Артыкул гэты напісаны на аснове даклада, зробленага мною на рэспубліканскім сходзе беларускіх пісьменнікаў у лютым 1948 года. Скарочаныя справаздачы аб дакладзе надрукаваны былі ў газеце «Літаратура і мастацтва» і ў маскоўскай «Литературной газете». Як выявілася пазней, такая ўвага да беларускай паэзіі тлумачылася не часовым інтарэсам.

Ужо ў 1948 годзе Максіму Танку за кнігу «Каб ведалі» была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР, а ў 1949 годзе за паэму «Рыбакова хата» — Якубу Коласу. Рускія літаратурныя часопісы зацікавіліся творчасцю Валянціна Таўлая і Міколы Засіма. Цыкл «Лукішскія вершы» Таўлая пераклаў Я. Хелемскі, а паэму «Таварыш» — К. Сіманаў. Вершы М. Засіма з'явіліся ў рускім друку ў перакладзе А. Твардоўскага. Такім чынам, паэтычныя здабыткі 1947 года сталі прыкметнай з’явай для ўсесаюзнага чытача. Вось чаму я палічыў магчымым, прытрымліваючыся тэзісаў даклада, які захаваўся ў маім архіве, аднавіць у артыкуле старонкі паэзіі амаль дваццаціпяцігадовай даўнасці. Артыкул мой, як і даклад, не прэтэндуе на тое, каб даць поўнае ўяўленне аб усіх працэсах, што адбываліся тады ў беларускай паэзіі; як у дакладзе, так і ў артыкуле я цікаўлюся галоўным чынам станоўчымі тэндэнцыямі яе руху і цяжкасцямі, што ўзнікалі на першых кроках яе пасляваеннага станаўлення.

Зробленыя ў дакладзе ацэнкі кніг В. Таўлая і М. Засіма я амаль поўнасцю захаваў у артыкуле. Я не пашырыў і не паглыбіў разгляду паэмы Якуба Коласа «Рыбакова хата», бо ў межах агляду здабыткаў аднаго года гэта зрабіць немагчыма. Каб вызначыць месца «Рыбаковай хаты» толькі ў творчасці Я. Коласа, патрэбен асобны артыкул ці, хутчэй, даследаванне, бо, як вядома, напісанню «Рыбаковай хаты» папярэднічалі такія творы, як «Новая зямля» і «Сымон-музыка». А без сувязі з імі любы разгляд новай буйнай рэчы Я. Коласа быў бы абмежаваны і штучна адмежаваны ад агульнай плыні эпічнай творчасці паэта.

Кола пытанняў і тэм, узнятых дакладам, асталося тым жа, але аднаўленне іх у артыкуле не было справай механічнай. Амаль нанова напісаны раздзел аб творчасці Максіма Танка. Яго кніга «Каб ведалі» яшчэ не была тады выдадзена. Аднак я свядома выбраў з яе для разгляду вершы, што памагалі мне ў тлумачэнні тых з'яў і працэсаў тагачаснай паэзіі, якія хоць і былі выяўлены дакладам, але не зусім выразна і пераканаўча раскрываліся ў ім. Станоўчыя тэндэнцыі кнігі таксама падкрэслены мною ў згодзе з сюжэтам даклада, і не таму, што ў ёй усё раўнацэннае. Я зыходзіў з таго, што першачарговая задача крытыкі — зацікавіць чытача творамі, вартымі яго ўвагі. У кожнага паэта ёсць свае сакрэты і тайныя спружыны апасродкаванай сувязі з чытачом. Толькі зразумеўшы іх, крытык зможа разабрацца і ў недахопах і вызначыць ступень іх істотнасці.

Нешта адваротнае гэтаму атрымалася ў свой час у тым месцы майго даклада, дзе я спрабаваў разабрацца ў лірычным вершы Максіма Лужаніна «Васілёк», вытлумачыць змест яго літаратурным паходжаннем. На памылковую сцежку скіравала

мяне тады знешняе падабенства тэмы верша з выказваннем Багдановіча аб мастацтве. Яго сцверджанне «навошта каласы, калі няма васількоў», якое доўгі час выклікала супярэчлівыя тлумачэнні, насцярожыла і мяне. Пераасэнсаваны водгук яго пачуўся мне ў вершы «Васілёк». Я не мог пагадзіцца з думкай, што хоць васілёк марная трава, але паэт не можа выпалаць яе з сэрца. Цяпер, перачытаўшы верш, я зразумеў, усё ў ім значна прасцей, чым здавалася. Гэта я вінаваты ў тым, што падаўся па сцежцы традыцыйных асацыяцый і заблудзіўся ў іх. Проста гэты верш аб іншым. Апынуўшыся ў першыя пасляваенныя дні ў Германіі, паэт сумуе па радзіме: на воблаках, якія ляцяць на ўсход, ён гатоў пісаць лісты да роднай зямлі, шукае ў навакольным тых прыкмет, што маглі б нагадаць аб ёй. Вось ён бачыць жыта, але чужым і пустым здаецца яно яму без васількоў:

Тут кажуць — марная трава
Мой васілёк! Я разумею...
Цябе я з жыта вырываў,
А з сэрца выпалаць не ўмею.

Адсутнасць васількоў у жыце яшчэ больш падкрэсліла шчымлівае пачуццё адзіноты, дарагія ўспаміны аб далёкай радзіме, незабыўныя малюнкі маленства, якія не выпалаць з сэрца. Так не заўважаны як след з першага прачытання факт, што паслужыў штуршком для нараджэння верша, здымае з яго цень літаратурнага паходжання і ставіць усё на сваё месца. Адгэтуль можна зрабіць карысную выснову: крытык не павінен спяшацца з абвінавачваннем вобраза ў стэрэатыпнасці, не высветліўшы ўсе яго функцыі і дэталі біяграфіі паэта.

Мінула чвэртка веку, можна сказаць цэлая эпоха. Аднак мне помніцца яшчэ той сход, якому аба-

вязаны гэты артыкул. Патрабавальная атмасфера сходу вызначалася і нядаўна адсвяткаваным тады трыццацігоддзем Кастрычніка, і ўвагай грамадскасці, і тым асаблівым пачуццём прыўзнятасці, што не скончылася з адгрымеўшымі салютамі Перамогі, а ўсё яшчэ ўспыхвала ў памяці святлом яе ракет, як бы нехаця адыходзячы ў прошласць. Каб не парушыць гэтай атмасферы, я ў артыкуле строга прытрымліваўся і таго рэгламенту, што быў акрэслен на сходзе дакладчыку, і гатовага сюжэта, што ўжо належыць не мне, а таму часу.

1947 год быў годам незвычайным у жыцці савецкага народа. У гэты год, з гістарычнай вышыні трыццацігоддзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, савецкі народ аглядаў свой пройдзены шлях, усведамляў сваю перадавую ролю ў развіцці чалавечага грамадства. На гэтым шляху, які зліў у сабе мільёны людскіх дарог і сцежак, працоўныя нашай краіны дасягнулі значных поспехаў у адбудове сацыялістычных заводаў, гарадоў, калгасаў. Яшчэ больш узрос міжнародны аўтарытэт Савецкага Саюза, у якім народы ўсяго свету ўбачылі надзейную апору міру, сваю абарону ад фашызму і неафашызму.

Усё гэта не магло не адбіцца на развіцці беларускай савецкай літаратуры. У паэтычных творах за 1947 год закраналіся праблемы, што хвалююць савецкага чытача, ставіліся пытанні яго пасляваеннага жыцця і ўладкавання. Да трыццацігоддзя Вялікага Кастрычніка наша паэзія прыйшла не з пустымі рукамі — лепшыя творы нашых паэтаў чыталіся не толькі беларускім чытачом, яны выйшлі на шырокую ўсесаюзную чытацкую арэну. У перакладах на рускую і іншыя мовы народаў Савецкага Саюза друкаваліся ў газетах, часопісах і асобнымі кніжкамі творы Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Пятра Глебкі,

Максіма Лужаніна, Піліпа Пестрака, Аляксея Зарытага, Кастуся Кірэенкі, Анатоля Вялюгіна, Васіля Віткі, Антона Бялевіча, Анатоля Астрэйкі ды інш. Выйшла з друку ў перакладзе на ўкраінскую мову «Анталогія беларускай савецкай паэзіі». Такая ж анталогія была выдадзена ў Ленінградзе ў перакладзе ленінградскіх паэтаў. Рыхтавалася да друку вялікая анталогія беларускай паэзіі, ***у*** Маскве ў Дзяржаўным выдавецтве. Вось кароткі пераклік імён, кніжак, якія сведчылі аб зацікаўленасці да беларускай сучаснай паэзіі з боку братніх літаратур, і ў першую чаргу з боку рускай савецкай літаратуры.

Увага да паэзіі, беларускай асабліва, хутка пачала расці ў гады Айчыннай вайны. Яна можа быць вытлумачана тым вялікім размахам партызанскага руху, які ахапіў тэрыторыю заняволенай ворагам Савецкай Беларусі. Вядома, у гэтай зацікаўленасці «вінаваты» і творы беларускіх паэтаў, іх вершы і паэмы, што не маўчалі ў час, калі грымелі гарматы, а набатным заклікам на смяротны бой з акупантамі гучалі над гарадамі і сёламі. Увага да нашай паэзіі тых гераічных гадоў адпавядала ўвазе чалавецтва да самаахвярнага змагання нашага народа, бо людзі ўсяго свету ведалі, што пад Масквой і Сталінградам, у беларускіх лясах вырашаўся і іх лёс. Паэзія наша аказалася вартай гэтай увагі. Яе высакародны патрыятычны тон у спалучэнні з вобразнай думкай, глыбокай сардэчнасцю і пранікнёнасцю горам народным адпавядалі патрабаванням суровага часу і ўпісалі праўдзівыя старонкі ў яго мастацкі летапіс. Грамадзянскі пафас, даўно ўласцівы беларускай паэзіі, выявіў тады новыя якасці — веру ў перамогу перадавога сацыялістычнага ладу, адказнасць за лёс чалавецтва, за яго заўтрашні дзень, якасць, якая і далей будзе вы-

рашаць развіццё беларускай савецкай паэзіі. Сведчаннем таму былі паэтычныя творы першых пасляваенных год. Не дробныя, вузка асабістыя перажыванні ўласцівы ім. Творчасць паэтаў скіравана на тое, каб энергіяй вобразнага слова натхніць сэрцы людзей, якія дбаюць аб трывалым міры на зямлі, якія аддаюць усе сілы на аднаўленне разбуранага вайною краю.

Савецкі салдат узняў сцяг Перамогі над рэйхстагам. Але на гэтым не скончылася яго франтавое жыццё. Тэрмітам была спалена родная зямля, выпалены сёлы. Былы бліндаж, зямлянка яшчэ служылі яму і яго сям'і напамінам аб непабудаваным доме. Даваеннае жыццё з яго першымі крокамі да ўстойлівага дабрабыту і заможнасці ўсплывала не ўспамінам прошласці, а перспектывай будучыні. Перад вачыма — руіны шматгадовых здабыткаў розуму і рук, але ў глыбіні душы — захаваная святочная ўзнятасць: выратавана жыццё дзяцей, унукаў, праўнукаў. Як зялёная трава з выпаленай зямлі, прарастала ў сэрцы прага працы і неўміручасці. Яшчэ стаяў на папялішчы адзінокі комін, а ўжо хмарка, што праплывала над ім, здавалася першым дымком новага жытла... Аб усім гэтым, знайшоўшы праўдзівы тон, рытм, словы, і павінна была гаварыць пасляваенная паэзія.

І тон, і рытм, як вядома, існуюць не самі па сабе, а для таго, каб памагчы паэту найбольш праўдзіва і эмацыянальна раскрыць змест (думку) паэмы, балады, верша. Значэнне гэтых якасцей формы настолькі важнае, што няўвага да іх, адносіны да іх як да нечага другараднага могуць загубіць самыя смелыя і арыгінальныя задумкі і намеры. А правільна ўзяты тон робіць цуд — вынаходзіць дагэтуль нечуваныя магчымасці рытму, даўно ўжо выпрабаванага паэтамі ўсіх часоў. Успомнім хаця б

«Інтэрнацыянал». Калі мы вымаўляем яго радкі, нам не прыходзіць на думку, што напісаны яны рытмам элегіі Пушкіна «Брожу ли я вдоль улиц шумных». Тут дарэчы сказаць: ідылічнасць, бесклапотнасць, як і элегічнасць тону, менш за ўсё адпавядалі сутнасці нашага пасляваеннага жыцця, новых яго ўмоў, што складаліся ў выніку сусветнагістарычнай перамогі.

На вачах нашага пакалення, як на вачах нашых бацькоў у Кастрычніцкія дні, прарвана новае звяно ў ланцугу імперыялізму: яго ўлады пазбыліся многія краіны Еўропы і Азіі. Гісторыя рухаецца наперад так імкліва, што мы, яе сведкі, не маем магчымасці ў поўнай меры ні адчуць, ні ахапіць думкай таго нядаўняга, што ў момант маланкі робіцца мінулым. Сапраўды, перад, пачаткам Айчыннай вайны Савецкі Саюз быў адзінай сацыялістычнай дзяржавай, востравам, акружаным капіталізмам. А цяпер на варце міру і Кастрычніцкіх заваёў стаіць лагер сацыялізма на чале з нашай дзяржавай. Не паспела скончыцца самая жорсткая і бесчалавечная вайна, як свет ужо ведаў імёны новых падпальшчыкаў вайны, тых, што не жадаюць прызнаць прагрэсіўных змен свету і хацелі б накіраваць плынь гісторыі ў старое рэчышча прыгнёту і каланіялізму, пагражаючы атамнай зброяй, выпрабаванай імі на мірных жыхарах Хірасімы і Нагасакі.

Гэтак, як перад Айчыннай вайной, прадчуваючы яе непазбежнасць, мы не ўяўлялі ні яе сапраўдных памераў, ні вынікаў (здавалася, што яна будзе апошняй), так і ў наш час, верачы ў канчатковую перамогу міру, нам цяжка прадбачыць: калі і ў выніку якіх падзей будуць пахаваны такія з’явы, як вайна. І хоць мы не можам назваць канкрэтнага тэрміну збаўлення ад векавечных няшчасцяў

і бед вайны, мы знаем, што яе магільшчыкам ужо сёння завецца сацыялістычны лад, сутнасцю якога з'яўляюцца мір і братэрства працоўных. Ён пахавае панаванне эксплуатататараў разам з іх злачыннай спадчынай. Такая ўпэўненасць грунтуецца не на прадчуванні, а на навуковым прадбачанні марксісцкай тэорыі. Адкрытыя ёю законы развіцця грамадства ажыццявіліся ў існаванні савецкай дзяржавы і няўхільна пашыраюцца ў пераможным поступе камуністычнага ладу.

Паэтычныя здабыткі сусветнай літаратуры сведчаць аб непарыўнай сувязі іх стваральнікаў з праўдай жыцця, з яго передавымі ідэямі. Жывячыся імі, у «свой суровы век» услаўлялі свабоду Пушкін, Лермантаў, Някрасаў. Да гэтага заклікана жыццём і сучаснае слова паэта. Калі ён хоча стаць праўдзівым летапісцам нашага веку, ён павінен думкамі і пачуццямі быць у непарыўнай сувязі з праўдай, з перадавымі ідэямі, г. зн., у непарыўнай сувязі з камунізмам.

Сувязь гэта памагае мастаку арыентавацца ў падзеях, якімі так насычаны наш дынамічны век, дае магчымасць рабіць надзённым тое, што хвалюе мастака, але што, з прычыны імклівых змен жыцця, за якія сем-восем год адышло ў прошласць. Прыгадаем самы буйны твор 1947 года — паэму Якуба Коласа «Рыбакова хата». Нягледзячы на тое што тэма яе — уз'яднанне беларускага народа ў адзінай савецкай дзяржаве — не надзённая, паэма ўспрымалася чытачом як твор сучасны. Наш народны паэт, пішучы аб жыцці сялян Заходняй Беларусі, улавіў матывы, якія яднаюць жыццё яго герояў з сённяшнім днём. У «Рыбаковай хаце» Колас стварыў вобраз рэвалюцыянера з сялян — Данілы Смыка. Пад уплывам камуністычных ідэй герой Коласа становіцца на актыўны шлях бараць-

бы з панамі. Хай гэта яшчэ не вобраз камуніста, але гэта ўжо рэальныя падступы да стварэння яго.

У чым сіла і апора камуністаў? — пытае паэт. І дае адказ, які з'яўляецца мастацкім і ідэйным вянком усяго твора:

Пытае вецер у раслінак:
— Чаму зіма вас не змагла?
І кажуць тысячы былінак:
— Мы ад зямельнага цяпла!
Пытае холад у крыніцы:
— Чаму цябе я не спыніў?
Яму адказвае вадзіца:
— З зямлі струменіць мой разліў.
Пытае бура старца-дуба:
— Чаму цябе я не зламлю?
І кажа дуб: — Я ўрос ў зямлю,
З зямлёю жыць у дружбе люба.

У сувязі з зямлёю, з працоўным народам сіла камуністаў, у народзе — іх апора. Такі адказ дае нам у гэтых радках Якуб Колас. Нашу сілу і нязломнасць сімвалізуюць і векавы дуб, што ўрос у зямлю, і крынічная вада, што імкнецца з-пад зямлі і якой не страшны холад, і рунь, якую не замарозіць зіма, бо ў гэтай руні жыве цеплыня зямлі, прага жыватворчага зерня. Да гэтае думкі аўтар паэмы прыводзіць чытача пераканаўча, паступова, усей шырокай плынню твора, а таму яна гучыць і як само жыццё і як песня ў гонар векапомных вызваленчых спраў савецкага народа.

Вызваленчай барацьбе Заходняй Беларусі прысвечаны і яшчэ дзве кніжкі, якія выйшлі з друку ў 1947 годзе. Гэта — невялікі зборнік выбраных вершаў і паэм Валянціна Таўлая і зборнік вершаў Міколы Засіма «Ад шчырага сэрца».

Валянціну Таўлаю было пятнаццаць год, калі польскія ўлады кінулі яго ў турму. Першае зняволенне выпала на долю пачынаючага паэта ў 1929 годзе. У панскай Польшчы за рэвалюцыйную

дзейнасць судзілі тады царскімі законамі 1903 года. Пятнаццацігадовы юнак Валянцін Таўлай адказаў на зняволенне гнеўнымі радкамі вершаў, якія можна лічыць пачаткам яго літаратурнай дзейнасці:

І перад вамі на сукне зялёным
Закон, падпісаны яшчэ царом.
Вы судзіце нізрынутым законам:
Яго даўно разбіў народны гром.

Вершы Таўлая чытаюцца як агністы летапіс змагання. Упершыню з вершаў, надрукаваных у кнізе, мы дазнаёмся аб духоўным абліччы паэта. Пры жыцці Валянцін Таўлай паводзіў сябе сціпла, нават зборнік яго паэзіі ўбачыў свет пасля смерці аўтара. Толькі цяпер мы высвятляем, што гэты сціплы і, здавалася б, далёкі ад літаратуры чалавек мае самае блізкае і непасрэднае дачыненне да яе сённяшніх і будучых задач. У яго былі перадавыя, рэвалюцыйныя погляды на прызначэнне і ролю паэзіі. Я дазволю сабе амаль цалкам прывесці яго «Лукішскія вершы»:

Калі наспее ў сэрцы гром
І задрыжаць Лукішкі —
Пішу я вершы не пяром,
Не ў запісную кніжку.
Тут і агрызак алаўка
Недатыкальней табу,
А знойдуць — аднаго чакай:
За ўсё адкажуць скабы!
Але нашто душой крывіць?
Знайсці — не іх рукамі:
Я верш пад ззянне бліскавіц
Запісваю у памяць.

Я сам — і пасядзець магу,
А вершам — часу шкода:
Шумець ім трэба на сцягу

І калыхаць паходы.
Глядзі ў ваўчок як дзень, так ноч —
Не ўбачыш, чорт зіркаты,
Як я заўзята і даўно
Пілую вершам краты.

Прызначэнне паэзіі Таўлай бачыў у актыўным яе ўдзеле ў барацьбе. Ён вершам пілаваў краты, каб даць волю вязням капіталізму. Акрамя мэтанакіраванай думкі і жывога пачуцця, паэт валодаў яшчэ свежым і вострым, назіральным вокам мастака. Ён па-свойму, паэтычна і арыгінальна бачыў многія, здавалася б, ужо старыя і вядомыя рэчы. Колькі, напрыклад, было напісана ў беларускай паэзіі вершаў аб пахіленай набок, зарослай зялёным мохам даўнасці беднай сялянскай хаце. І што можна было сказаць пра яе новага ва ўмовах былой Заходняй Беларусі? Аднак паэт сказаў пра яе сваё непаўторнае слова:

Вёрсты за вёрстамі сцелюцца гладка
Палямі, лугамі, борам.
І вырастае на сцежцы хатка
Пахіленая,
аж сорам.
Лезе на вочы страха-магерка,
І нешта пад сэрцам блага...
Хто ж цябе, хатка, паіў гарэлкай,
Горкай жыццёвай брагай?
Чэрпаў ён, мусіць, вялікім кубкам
З гора бяздоннай крыніцы...
Не паддавайся, мая галубка,
Пніся
не паваліцца.

Вобраз, выпакутаваны дарогамі падпольшчыка-рэвалюцыянера, што абышоў не адзін дзесятак пахіленых горам хацінак, якія адчынялі яму свае дзверы-абдымкі, з сэрца яго пілі светлую веру ў лепшую долю:

Змогуць сыны і паноў і гора,
Выйдуць у бой радамі,
Каб узняліся хацінкі ўгору
Святліцамі,
гарадамі.

Асаблівай увагі заслугоўвае надрукаваная ў кніжцы невялічкая паэма Таўлая — «Таварыш». Яна варта таго, каб на ёй спыніцца і пераказаць змест. Паэма апавядае аб кароткім жыцці і заўчаснай смерці ў турме вязня — палкага рэвалюцыянера. Ён трапіў у турму ў дні, калі ў Іспаніі ішла крывавая барацьба з фашызмам. З гэтай прычыны асабліва востра і балюча перажывае таварыш сваё зняволенне.

Праплывае чорная хмара —
Ён, здаецца б, яе маліў,
Каб пярун у астрог ударыў,
Гэты камень з грудзей зваліў.

Сэрца рэвалюцыянера рвецца за краты, туды, адкуль далятае ў цесныя турэмныя камеры «свежы подых іспанскіх вятроў». Рэвалюцыйная вайна ў Іспаніі адбіваецца і на лёсе зняволеных — іх трымаюць у кіпцюрах жорсткага рэжыму, морацьголадам. За актыўны пратэст супроць бесчалавечных умоў вязня кідаюць у карцэр. З сырога падзямелля таварыш вярнуўся цяжка хворы. Аднак, хоць фізічныя сілы пакідаюць, рэвалюцыйны дух яго нязломны. Мары аб Іспаніі не даюць спакою. Таварышу здаецца, што не сухоты і кашаль сціскаюць яму грудзі, а што гэта на грудзі яго цяжкою гарой налёг мараканец. Уначы, ужо непрытомны, ён выстуквае мовай Морзе пароль партыйнаму сакратару. Ён просіць у яго дазволу паехаць у Іспанію, каб змагацца ў радах Інтэрнацыянальнай брыгады. Сакратар не зразумеў перадсмяротнай просьбы

хворага, непрытомнага камуніста. Ён палічыў яе за сяброўскі жарт.

Усміхнуўся ў вусы адказны:
«Хлопцу жарты наўме — няхай...»
І адстукаў дробна, выразна:
«Не пярэчу. Шчасліва. Бывай».
Жартаваў сакратар не ў пору.
І падумаў зусім не так:
Смерць стаяла з таварышам поруч,
Выбіваючы дзіўны такт...

Дзень займаўся звычайны, астрожны,
Як заўсёды — свісток свістаў.
Першы раз таварышу можна
На праверку і то не ўстаць.
Ні Грабоўскі яму не зважыць
Маткай высушаных сухароў,
Ні турэмны фельчар не скажа:
«Сімулюеш, як бык, здароў».
Спасавалі перад нязломным,
Перад сэрцам, поўным агня.
Ён падаўся з камеры цёмнай
У далёкі паход да дня.

Ён ляжыць на нары халоднай,
Малады — як ніколі раней.
Яго сэрцу ў вятрах паходняй
З Пірэнейскіх скал палымнець.

Вось змест і ідэя гэтай невялічкай паэмы, якую я лічу адным з лепшых твораў, што давялося мне прачытаць у 1947 годзе. Валянцін Таўлай памёр рана, яго сілы падарвалі і зняволенне ў польскіх астрогах, і барацьба з гітлераўскімі акупантамі. Мяркуючы па творах, гэта быў пясняр з палымянай верай у справу, якой прысвяціў свой нядоўгі век. Творы яго ўвайшлі ў лік лепшых узораў беларускай грамадзянскай лірыкі. Мастацкая сіла яго нешматлікай паэтычнай спадчыны не можа быць

аспрэчана часам, бо Валянцін Таўлай як паэт і змагар адчуваў непарыўную сувязь з праўдай нашага стагоддзя і яго перадавымі ідэямі. Сувязь гэта сапраўды непарыўная, з тых, што пераходзіць з аднаго стагоддзя ў другое незабыўнымі каштоўнасцямі, створанымі чалавечым талентам. Хоць паэт і памёр, але сувязь яго з наступнымі пакаленнямі не парвалася. Вершы і паэмы яго жывуць, ім, як пісаў Таўлай, часу шкада, ім трэба шумець на сцягах і калыхаць паходы.

Хочацца сказаць і некалькі добрых слоў аб кнізе вершаў Міколы Засіма — «Ад шчырага сэрца». Нягледзячы на тое што вершы Засіма з боку паэтычнага майстэрства не параўнаць з высокім, спелым майстэрствам паэзіі Таўлая, усё ж яны з’ява яркая і цікавая. Шкада, што творчасць Засіма, і ў прыватнасці яго апошняя кніжка, дагэтуль не знайшла добразычлівай, вартай свайго значэння ацэнкі. Кажуць, Мікола Засім — паэт-самавук, творы яго прымітыўныя ў сваёй форме і маюць цікавасць толькі тую, што напісаны сялянскім хлопцам з былой Заходняй Беларусі, амаль непісьменным. Пашырана і такая думка, нібыта Засім — паэт, які ў пэўнай меры абмежаваў сябе падзеямі вёскі, у якой жыў пры панах, не ўзняўся вышэй бытавых замалёвак. Але ці так гэта?

Жылі-былі ў сяле суседзі,
Змяніліся ўладаю цары,
Адзін пражыў свой век — не згледзеў,
Другі загінуў без пары.
Адзін, як жыў, шукаў зацішку,
Другі змагаўся, колькі мог,
Адведаў Вронкі і Лукішкі
І без пары ў зямельку лёг.
Адзін памёр, дык пахавалі,
Як дзеда-прадзеда, з папом,
А ўсё ж другога шкадавалі
І не забудуць век вяком.

Верш гэты сапраўды аб аднавяскоўцах, але наўрад ці хто стане даводзіць яго няўзнятасць над бытам. Сам паэт, як і той сусед, што «загінуў без пары», не шукаў у жыцці зацішку, а змагаўся з нядоляй і несправядлівасцю. Зведаў ён і панскі бізун і Лукішкі. Жаданне песень, як смага ў спёку, мучыла яго спакучанае сэрца. Ён складаў іх, не дбаючы аб літаратурнай справе і славе, з адзіным намерам самому пазбыцца смагі і напаіць, як крынічнай вадою, надзеямі шчасця і ярасцю барацьбы сэрцы сваіх абяздоленых сяброў і суседзяў. Такім жа настроем прасякнуты і вершы тых дзён, калі паэт партызаніў у беларускіх лясах. Гэты перыяд творчасці Засіма мы ўяўлялі толькі па яркіх радках, якімі ён заклікаў біць акупантаў: «а кулак наш, як жалеза, грудзь шырокая, як печ, дый пад бокам Белавежа — можна ўдарыць, можна ўцеч». Аднак, чытаючы новую кніжку Засіма, бачым, што прыведзеныя радкі — своеасаблівы запеў да цэлага сшытка вершаў, кожны з якіх мае сваю настраёвасць, кароткі сюжэт, выразную думку. Тут і расказ аб партызане, што быў забіты па дарозе ў родную вёску, калі ішоў на спатканне з каханай, тут і папрок дзяўчыны свайму суседу, што ў суровы час адышоў ад барацьбы:

«Люблю, люблю»,— пляцеш штовечар,
Мой мілы хлопча, другі год,
А сам ляжыш, як кот на печы...

Вобразная мова, жывы народны гумар, нечаканы рух думкі ўласцівы і партызанскаму сшытку Засіма. Не зважаючы на пэўную недасканаласць мастацкай формы, яны ўражваюць сваёй непасрэднасцю, непадробленасцю пачуцця:

Вы на сонца не глядзіце —
Не асушыць слёзы.

І не стаўце твар на вецер —
Вецер не паможа.
Ёсць ад слёз ад тых, гаручых,
Адны лекі, людцы,
А растуць яны па пушчах,
Там, дзе з немцам б'юцца.

Ці мае першаступеннае значэнне той факт, што радкі, падобныя гэтым, напісаны сапраўды сялянскім хлопцам, які меў усяго толькі пачатковую адукацыю? Ці зніжае цікавасць да іх такая акалічнасць? Думаецца, што не. Падзеі, у якіх браў Засім актыўны ўдзел, мелі вырашальнае значэнне ў лёсе народа. Пішучы аб звычайных, на першы погляд абыдзеных здарэннях, паэт, можа, у дастатковай меры і не ўсведамляючы гэтага, з прычыны незвычайнасці і неабыдзенасці падзей і здарэнняў, непасрэдна і востра абагульняў з'явы, якія сёння намі ўспрымаюцца як важныя, эпахальныя. І чым далей мы будзем адыходзіць ад дзён гераічнага змагання, якому служылі песні Засіма, тым яскравей будзе выступаць на лепшых з іх не ржа часу, а гарт сталі, які набыты імі ў агні гістарычных баёў.

Найбольш поўна патрэбу размаўляць вершам выказаў сам Мікола Засім, вызначыўшы тым самым і месца свайго слова ў жыцці народа:

Верш каструбаваты,
Як з пянькі пастромка:
Плуг зачэпіш — цягне.
Не пакіне ззаду,
Й на пятлю згадзіцца
Дзе якому гаду.

Каструбаватае, але выразнае слова лепш ад гладкага, але «слізкага, як панскія паркеты». Паэзія заклікана не для таго, каб лашчыць слых, а для дзейнасці: «Пісаць пра волю — гэта мала, без чыну слова — гэта грош». Народжаныя такім усведам-

леннем, хай «каструбаватыя», але вострыя і праўдзівыя засімаўскія радкі маюць большае дачыненне да патрэб нашага часу, чым радкі добра зарыфмаваныя, але пазбаўленыя байцоўскага пафасу. Мне могуць запярэчыць: маўляў, вершы Маякоўскага і дзейсныя і адначасова майстэрскія. Так, пярэчанне слушнае. Тут многае залежыць і ад агульнай культуры паэта, і ад яго здольнасцей. Бясспрэчна, вершы Таўлая маюць большы зарад карыснай дзейнасці, бо яны задавальняюць густ і дасведчанага і не дасведчанага ў паэзіі чытача. Але, аддаючы перавагу вершам Таўлая, мы за тое, каб і створанае Засімам займала адпаведнае, пасвойму пачэснае месца ў анталогіі беларускай грамадзянскай лірыкі. Яе каструбаватасць не грэх, а той збег сацыяльных і гістарычных умоў, які перашкодзіў Засіму выявіць да канца ўсё самабытнае, што было заложана ў яго паэтычнай натуры.

Па-рознаму адбіваецца на творчасці неспрыяльнасць абставін. Калі Засіму яна ўладна дыктавала паспешлівы, амаль дзённікавы, запіс навакольных падзей, дык ад больш патрабавальнага Таўлая вымагала дадатковых намаганняў — паэт не раз дапрацоўваў вершы і паэмы, пачатыя ім у турме, каб задумы яго набылі большую мастацкую і ідэйную дасканаласць.

Аднак не трэба забываць, што спасылка на неспрыяльнасць умоў не абавязковая ў ацэнцы зробленага мастаком. Часцей за ўсё асабістыя нястачы і пакуты, жыццё і гора народнае і высякаюць паэтычную іскру. Толькі ці надоўга? Жыццяздольнасць мастака залежыць ад даўгавечнасці яго парывання, ад індывідуальных асаблівасцей яго чалавечага характару: апанаванай веры ў сваё прызванне, усведамлення абранай ім справы як галоўнай задачы ўсяго жыцця і абавязковасці сва-

ёй работы ў агульнай плыні грамадскага развіцця. Гатоўнасць ісці на творчы подзвіг дзеля высокай мэты і ёсць ужо рыса значнага таленту, як вынік яго ўнутранага свету, багатага на пачуццё і вобразнае мысленне. Інстынкт самазахавання, што ўласцівы як чалавеку, так і абранаму ім прызванню, уладна дыктуе мастаку набыццё патрэбнага культурнага багажу і ўдасканаленне майстэрства як першачарговай умовы сур'ёзнай творчасці. Чым большыя цяжкасці, тым большая прага да пераадолення іх. Як дрэва на камяністай глебе ўсё шырэй і глыбей пускае свае карэнні, каб умацавацца на зямлі, так і сапраўдны талент тытанічнай работай розуму і сэрца робіцца прыкметнай і неабходнай для грамадства з'явай.

Параўнанне — рэч умоўная. Але ўявіце, што змянілася жыццё — той грунт, на якім вырас і да якога прызвычаіўся паэт. Колькі неабходна яму дадатковай энергіі, каб, як перасаджанаму дрэву, і захаваць сувязь карэння з новай глебай, і не страціць першароднай красы сваёй кроны шумнапістай і жывой? Такое пытанне паўставала перад намі, калі мы ў верасні 1939 года ўпершыню знаёміліся з кнігамі Максіма Танка, з яго вершаванымі водгукамі на гістарычную падзею ўз'яднання беларускага народа ў адзінай сацыялістычнай дзяржаве. Праўда, кнігі, што мы прачыталі, давалі ўсе падставы думаць аб унутранай падрыхтаванасці паэта да разумовага, пачуццёвага, вобразнага ўспрыняцця новай рэчаіснасці. Першыя дэкларацыйныя вершы паэта хоць і насцярожвалі, але не пазбаўлялі надзей на новы творчы ўзлёт. Так яно і адбылося. Ужо ў часы Айчыннай вайны з-пад пяра Максіма Танка пачалі з'яўляцца творы, якія не толькі не сведчылі аб страце былой самабытнасці, але сцвярджалі новыя яе, незнаёмыя дагэтуль якасці. Ус-

помнім хаця б верш пра маці, што вышывала сыну кашулю не звычайную, а такую, каб праз яе груганы не змаглі дастаць да сэрца.

Кніжку Максіма Танка «Каб ведалі» чытач са здавальненнем паставіў на сваю кніжную паліцу. Яна стала поруч з такімі дасягненнямі паэта, як кнігі вершаў «На этапах», «Журавінавы цвет», «Пад мачтай». У новай кнізе зноў на былую моц гучаць знаёмыя танкаўскія інтанацыі, але ўжо ў вершах аб ваенным і пасляваенным жыцці савецкіх людзей:

Расце на высокім кургане сасна,
Каб ведалі;
Дол апляла каранямі да дна,
Каб ведалі;
Вяршыняю зоры кранае яна,
Каб ведалі;
З ветрам звініць, як тугая струна,
Каб ведалі;
Маткі,
Дзе спяць дзеці-сокалы сном;
Вятры,
Дзе іграць галасістым смыком;
Зоры,
Дзе ім асыпацца дажджом;
Птушкі у выраі —
Родны свой дом.

Вобраз сасны бытуе ў вершах Танка даўно. Яшчэ ў кнізе «Пад мачтай» сасна ўяўлялася паэту карабельнай мачтай, пад якой плыў ён у ягоны край. Зоры і тугая струна, маткі і дзеці-сокалы, вятры і галасістыя смыкі, дажджы і птушыны вырай як бы перавандравалі ў верш з ранейшых кніг. Няма нічога дзіўнага ў гэтым. Паэт вярнуўся да знаёмых сродкаў, каб не паўтарыць, а развіць і паглыбіць іх сэнс. Цяпер сасна — і векавечнае дрэва, і сімвал неўміручасці народа, і новы лёс паэта,

што звініць, «як тугая струна». Намацваючы сувязь з новая глебай, песня, як гордая сасна, адгукаецца на голас перамогі, здабытай у зацятым спаборніцтве з імклівым, суровым часам:

Толькі сягоння спраў кожнаму шмат:
Коласу — вырасціць жменю зярнят,
Сонцу — стаптаныя травы падняць,
Ветру — акопы пяском зараўняць,
Хмары — дажджамі зямлю напаіць,
З выраю птушцы — гняздо сваё звіць.

Па зямлі прайшоўся пякельны прас вайны. Нялёгка птушцы адшукаць дупло ў парадзелым лесе, знайсці страху для гнязда. Цяжка хмары напаіць кроплямі жывой вады выпаленую, учарнелую ад агню зямлю, а коласу вырасціць на ёй жменю зярнят. Так і паэту трэба ўсё пачынаць нанова: разам з ветрам засыпаць горкую памяць акопаў, разам з сонцам падняць стаптаныя травы, узняць хаты на папялішчы для «вясельных шырокіх сталоў, для пахмельных цымбал і смычкоў».

Я пераказаў змест вершаў «Каб ведалі» і «Добра было б». Усяго дзве песні, але з якой настраёвай сілай дэкларавана ў іх жыццетрываласць прыроды і зямлі, народа і паэзіі!

Круг тэм у кнізе «Каб ведалі» разнастайны і шырокі. Тут побач з вершамі аб мірнай працы і адбудове суседзіць напамін аб нядаўняй вайне і фашысцкіх лагерах смерці; побач з лірычнай споведдзю «Дарога» — мужны, напісаны рытмам маршу «Салют», прысвечаны памяці пакараных смерцю іспанскіх камуністаў; з песнямі і баладамі, напісанымі на аснове спраў і паданняў мінуўшчыны,— надзённая публіцыстыка верша «Партыя».

Уражанне такое, што плынь паэзіі Максіма Танка нібы цячэ не адным рэчышчам, а дзеліцца на

некалькі рукавоў, адгароджаных адзін ад другога маляўнічымі выспамі, і нібы гэтыя рукавы прызначаны для чытачоў розных і нават супярэчлівых густаў. Не падабаюцца, мабыць, вершы пра Шапэна альбо Райніса, а можа, ты, чытач, яшчэ не ведаеш, хто яны такія,— што ж, знойдзецца ў кнізе нешта і на твой густ. Пэўна ж, ты бачыў кветку іван-ды-мар'я, знаёмы з жураўлём і чапляю, набярыся цярплівасці — і ты сустрэнешся на старонках кнігі з дасціпнай гісторыяй сватання жураўля да чаплі, а таксама з паэтычнай легендай аб паходжанні кветкі іван-ды-мар'я. Ты, кажаш, чалавек у гадах і цябе не цікавяць паданні і казкі. Не бяда — перагарні старонку-другую, і ты натрапіш на баладу аб гераічных абаронцах Брэсцкай крэпасці, яна пачынаецца былінными словамі: «У Брэсце, у Брэсце, у слаўным месце...» Табе цяжка ўспамінаць вайну, чытай тады вершы аб сённяшніх мірных днях — «Жаўрук» і «Дружба». А можа, ты прыхільнік публіцыстычнай паэзіі? Не?.. Тады паспрабуй прачытаць «Песню пра Яносіка», «Сон над Нёманам» альбо лепш вось гэты верш — «Камяні»:

Гасцей чакаў я, і яны
Загрукалі ў парог —
Абветраныя валуны
Крутых маіх дарог.

На іх усіх сляды былі
Маіх юнацкіх сноў;
На іх усіх шрамы ляглі
Ад хмар і ад вятроў.

Я кожны камень пазнаваў:
Калі сустрэў яго,
Калі на ім адпачываў,
Начлежны клаў агонь.

Вось гэты — ў роднай старане
Быў пад акном маім,
Вось гэтым — кінулі ў мяне,
І след крыві на ім.

— Праўда, цудоўны верш?

— Але,— згаджаецца чытач,— я ніколі не думаў, што так выразна і так многа могуць расказаць маўклівыя камяні аб чалавеку і яго біяграфіі... Тут — і маленства, і юнацкія гады з іх снамі, і начлежныя агні, і дарогі, боль і кроў незабытых крыўд... Але чаму ўсё гэта прыйшло ў госці не звычайнымі ўспамінамі, а камянямі?

— Чытай далей.

Але адзін валун з усіх
Мне незнаёмы быў.
Хто ён, адкуль, з дарог якіх
Няпрошаны прыбыў?

Адно па снежнай белізне,
Па тым, як ён дыхнуў
Сцюдзёным змрокам на мяне
І ў сэрца заглянуў,

Я здагадаўся, што за госць,
І чаркай прывітаў.
— Калі прыйшоў ты, ягамосць,
Дык пі! — яму сказаў.

— Нечаканы паварот думкі, ці не так? Ты, як і раней, думаеш, што верш гэты аб біяграфіі чалавека?

— Не... Тут думка глыбейшая: аб жыцці і смерці. Цікава, што адкажа чалавек свайму надтруннаму каменю?

Вось толькі нам няма аб чым
З табою гаварыць.
Я ўжо дамовіўся ўначы
З хваінамі ў бары,

З жывой птушынаю сям’ёй,
З расталаю вадой
І з громам, каб яны вясной
Ўзялі мяне з сабой.

На гэтым самы раз скончыць дыялог з чытачом. Нам і яму зразумела дамоўленасць з «громам, з расталаю вадой, з жывой птушынаю сям’ёй». Жывая сям’я, з якой, перад тварам няўхільнага нябыту, дамаўляецца чалавек,— не толькі прырода і жыццё наогул, але і людзі, бо ім адрасаваны верш. Напаткаўшы такі твор, чытач захоча ў новым яго святле пераасэнсаваць усё напісанае паэтам, яго баладу аб Іване ды Мар’і, расказ аб жураўлі і чаплі, песню пра Яносіка. Іначай будуць успрымацца ім тады і публіцыстычныя радкі з верша «Партыя». І нават чытача, далёкага ад актыўнай барацьбы, прымусяць яны задумацца аб пераможным поступе ідэй, якія натхнілі пяро паэта:

Партыя —
Выпрабаваны ў баях карабель.
Я — адна толькі нітка
Ў тых ветразях алых, суровых,
Што гісторыі подых нясуць на сабе...

Як агітатар ад паэзіі Максім Танк праўдзівымі і мудрымі сродкамі змагаецца за даверлівасць чытача. Канчатковая мэта: зрабіць яго, хай яшчэ далёкага ад правільных пераконанняў, прыхільнікам сваіх ідэалаў. Сродкамі мастацкай агітацыі Танк па-майстэрску валодаў яшчэ ў ранніх кніжках. Прыгадаем верш, у якім «з вінтоўкай стражнік ноч і дзень вартуе куст пахучы бэзу». Верш усяго толькі аб вясне і бэзе, што, як хустку, ускінуў сваё сіняе полымя на муры і калючы дрот. Гэты лірыч-

ны шэдэўр не мог не знайсці зычлівы водгук у сэрцах і вязняў і невязняў. Заваёўваючы любоў і прыхільнасць шырокага чытача, паэт тым самым далучае яго да больш істотных і запаветных сваіх ідэй, што разам з ім кінуты за краты. Робіцца гэта і свядома, а часам і несвядома, але ў адпаведнасці з самой прыродай творчасці і таленту: пакінуць у сэрцах і ў памяці людзей след і як найбольш даўгавечны. Творы на так званыя «вечныя» тэмы, да якіх належыць верш «Камяні», недарэчна лічыць здачай баявых пазіцый, як гэта іншы раз спрабуюць рабіць некаторыя. Залежыць усё не ад тэмы, а, як вядома, ад яе якаснага новага вырашэння, ад тае мэты, якую ставіць перад сабой мастак. Мінаць жа гэтыя тэмы — значыць адмаўляцца ад заваяваных пазіцый, што па праву належаць літаратарам перадавога грамадства. На ўзбраенні нашым — не адны палымяныя заклікі і лозунгі, але і багаты, невычэрпны скарб чалавечых пачуццяў.

Верш «Камяні» належыць да выдатных знаходак Максіма Танка ў справе асваення гэтых скарбаў. Ён здольны ўразіць самага патрабавальнага чытача яркай, нечаканай вобразнасцю, насычанасцю радка, стрыманасцю пачуцця, якія знаходзяцца ў шчыльнай сувязі са зместам. Возьмем хаця б такі сцёрты, як манета ад доўгага ўжытку, выраз — «юнацкія сны». А як нова гучыць ён у вершы, ператвораны ў *сляды на камені*. На кожным камені, які пазнаваў паэт, можна іх знайсці і адчуць. Так, ёсць яны, сляды юнацкіх сноў, і на камені, на якім мы адпачывалі, паклаўшы яго пад галаву, і на тым, што ляжаў пад акном хаты — ён дагэтуль абуджае ўспаміны і самыя першыя летуценні. Горкія сляды расчаравання могуць быць і на камені, калі яго кінуў у нас некалі блізкі чалавек. Гэта, бясспрэчна, цуд, калі сцёрты выраз пры

нечаканым і новым ужытку пачынае зіхацець
бляскам свежай звонкай чаканкі

На тэму жыцця і смерці нямала напісана выдатных твораў у сусветнай літаратуры: то ў форме лірычных маналогаў, то маркотных элегій, то змрочных развагаў. Здавалася б, што яшчэ можна сказаць? Як павярнуць тэму так, каб у ёй прысутнічала сучаснасць? «Смерць піянеркі» Багрыцкага, «Маці» Дзяменцьева, «Таварыш» Таўла я як бы даюць адказ. У пералічаных творах (а спіс іх можна пашырыць) сучаснасць пазнаецца ў выразным гістарычным *і* сацыяльным фоне, а таксама ў новым ідэйным вырашэнні тэмы. Можа, гэта і ёсць адзіна правільны шлях асваення савецкай паэзіяй «вечных» тэм? Як жа быць тады з вершам «Камяні», фактура якога, калі можна так сказаць, агульначалавечая? Сапраўды, каму не спадарожнічаў камень, хто толькі не адпачываў на ім, не бачыў яго на могілках сваіх дзядоў і прадзедаў. І ўсё ж, не зважаючы на агульнасць зрокавага вобраза, кожны чалавек, дзе б ён ні жыў, кім бы ён ні быў, будзе чытаць у радках і паміж радкамі Танкавага верша сваю ўласную біяграфію. Юнацкія сны не будуць супадаць з юнацкімі снамі аўтара, а камень, кінуты ў яго, з каменем, які хтосьці калісьці кінуў у чытача. Сацыяльны і гістарычны фон пашырыўся на безліч незнаёмых нам біяграфій. Хай! Тым не менш у творы прысутнічае і канкрэтны сацыяльны і гістарычны фон, той, што нарадзіў гэты твор. Ён — звязаны з біяграфіяй аўтара, якую можна ўявіць калі не па гэтым адным, дык па многіх яго творах.

Сучаснасць верша «Камяні» яшчэ і ў не элегічным, а ў бунтарска-дзёрзкім тоне размовы з няпрошаным госцем — смерцю, у нежаданні да-

маўляцца з ёю, скарыцца ёй, і ва ўсім, чым завяршаецца візіт няпрошанага госця.

«У Брэсце» — другі верш Максіма Танка аб жыцці і смерці. Смерць — дзейная асоба балады, і на гэты раз з'яўляецца яна не ў вобразе каменя, а ў сваім звычайным, звыклым для чытача, кастлявым абліччы. Следам за нямецкімі салдатамі смерць уваходзіць у крэпасць, дзе ніхто не збаяўся яе прыходу, не здаўся ворагу жывым. У руках мёртвага байца бачыць яна няскончаны і недасланы ліст. У ім мужны абаронца крэпасці развітваецца з бацькамі. Ён, ведаючы, што чакае яго, не пакідае родным надзеі на спатканне. Ашаломленая смерць салдацкай крывёй дапісала ліст: «Ды не сумуйце, вярнуся з славай!» Радкамі эпічнай сілы канчаецца гэты трагічны малюнак:

Чытаюць дома
Той ліст, чытаюць
Пры ясным сонцы, пры зорах ночы...
Ніхто не знае,
Чыёй рукою,
Чыёй крывёю той ліст даканчаць

Перад сілай чалавечага духу адступіла смерць, бо адвага і бясстрашша належаць не ёй, а бяссмерцю. У гэтым, па сутнасці, ідэя верша «Камяні». Два вершы — два пошукі, дзве знаходкі. Калі дадаць да іх тое, што сказаў паэт аб сабе ў вершы «Партыя», дык мы і атрымаем уяўленне аб тым, як існуюць, як дапаўняюць адзін аднаго і як зліваюцца ў адно рэчышча тры кірункі паэзіі Максіма Танка: лірычны, эпічны, публіцыстычны.

Выбраныя мною для разгляду творы не вычарпалі, вядома, станоўчых здабыткаў першых год пасляваеннай паэзіі. Таксама не далі яны адказу

на істотнае пытанне: з якімі цяжкасцямі сустракалася яна? У першыя пасляваенныя гады, калі баявы яе састаў стрэлкамі часу пераведзены быў на мірныя рэйкі, ускладніліся дачыненні паэзіі з рэчаіснасцю. У дні вайны перад савецкімі паэтамі, як і перад народам, стаяла адна задача — ліквідаваць смяротную пагрозу фашызму. Не сілаю творчых камандзіровак, а няўхільнасцю абставін апынуліся пісьменнікі ў цэнтры вырашальных для гісторыі і для лёсу чалавецтва падзей. Актыўная прыналежнасць да «поля бітвы», дзе вырашалася пытанне — быць ці не быць, акумулявала творчую энергію, патройвала яе. Грозныя акалічнасці часу, нават у літаратараў з абмежаванымі здольнасцямі, абудзілі патэнцыяльныя магчымасці, якія, можа, ніколі б не выявіліся ў іншых умовах.

Пераход да міру ставіў новыя задачы. І ў час пасляваенны, як трапна зазначыў Танк,— «спраў кожнаму шмат». Новы час не азначаў забыцця ваеннай тэмы хаця б таму, што літаратурныя рады папаўняліся новымі пісьменнікамі — былымі франтавікамі, ад якіх натуральна чакаць твораў, звязаных з іх нядаўняй біяграфіяй. Аднак жыццё не стаіць на месцы і такога ж імкнення, згодна з даўняй дамоўленасцю, чакае ад паэзіі. Дэмабілізаваны воін не адразу выключаецца са звыклага стану, з побыту франтавых дарог. Ён прыходзіць дадому ў армейскіх ботах і шынялі, і толькі цяслярская сякера ў руках ды плуг у баразне гавораць аб неадпаведнасці яго гаспадарчых прылад і салдацкай формы. Калі ў жыцці такая часовая неадпаведнасць натуральная, дык у вершах яе даравань нельга.

Неадпаведнасць формы — хвароба не новая. Пачынаецца яна з моманту, калі паэт садзіцца за стол з загадзя вызначанай мэтай: вынайсці новую

форму. Форма ж не вынаходзіцца, а часцей за ўсё прыходзіць сама ў выніку эмацыянальнага штуршка, народжанага жыццём, тым яго зместам, які настолькі авалодаў пачуццямі, думкамі, фантазіяй, што ўжо не можа не знайсці выйсця. Штучныя ж пошукі інтанацый, рытмаў прыводзяць да адыходу ад рэалістычнага напрамку ў бок фармалістычнага.

Фармалізм як кірунак не толькі не знайшоў у той час сваіх паслядоўнікаў, але і сустракаўся з відавочнай непрыхільнасцю. Прыгадаем верш «Возера» паэта Алеся Бачылы, дзе свет, адлюстраваны ў вадзе, уяўляецца непадобным да рэальнага. Паэт сцвярджае, што ён не мог бы цярпець такі нялад у вобразах. Фармалістычны напрамак — гэта тое самае крывое люстра, у якім не відаць праўды жыцця. У творах фармалістаў, сапраўды, як у тым возеры, самы лезуць праз дрэвы, праз дамы «і нават праз людзей».

Калі фармалістычны напрамак, у тыповым сваім выглядзе, быў з'явай даволі рэдкай, дык хвароба неадпаведнасці формы і зместу адчувалася даволі выразна. Дэмабілізаваны баец даўно ўжо змяніў ваенную вопратку на цывільную, а некаторыя паэты ўсё яшчэ не маглі ўзяць з яго прыклад. Сіла інерцыі — рэч зразумелая. Я маю на ўвазе, напрыклад, такія традыцыйныя прыёмы народнай творчасці, як адухаўленне прыроды. Пачынаючы з калыскі, спадарожнічала прырода чалавеку, і ён даўно звяртаўся да яе як да сведкі сваіх радасцей і бед:

Эй, разгуляйцеся, буйныя ветры, па полю,
Пяскі развейце, пусціце мамку на волю.

Асабліва моцна абвастрылася пачуццё блізкасці з роднай зямлёю ў часы грозных выпрабаванняў для народа і радзімы. Можа, у адзін з такіх моман-

таў і нарадзіліся словы прыведзенага вышэй старадаўняга галошання. Хіба не сугучна яно гору сірат, родныя якіх сталі ахвярай карных куль, попелам і дымам Майданекаў і Асвенцімаў? У тыя часы, часы Айчыннай вайны, размовы з ветрам, ручаём, лесам уварваліся ў радкі паэтаў невыпадкова і не з прычыны асваення імі традыцый народна-песеннай лірыкі, як гэта гатовы тлумачыць літаратуразнаўцы, а таму, што неслі ў сабе спрадвечную патрэбу выплеснуць у песні новы плач аб запалоненай чужынцамі зямлі. Аднак паэзія не выказала б свой час, каб не напоўніла галошанні, размовы з заняволенай прыродай гневам і помстай народнай. Спалучэнне традыцыйных матываў з верай у вызваленне з'явілася ў самы цяжкі, крытычны момант вайны: яно служыла дзейснай мэце — перамозе. Яно на месцы ў паэзіі таго перыяду, але не можа паўтарыцца з такой жа эмацыянальнай сілай нават у творах аб тым жа перыядзе вайны, што пішуць сёння, таму што надзённасць пытання — быць ці не быць перамозе — ужо вырашана. Яшчэ ўчора паэтычныя прыёмы, адроджаныя неабходнасцю моманту, гучалі пераканаўча і свежа, а сёння, страціўшы сваю абавязковасць і непасрэднасць, з'яўляюцца відавочнай прыкметай таптання на месцы.

Інерцыя формы хавае ў сабе пэўную небяспеку як для маладых паэтаў, так і для паэтаў старэйшага пакалення. У нас вельмі ўжо неразборліва пачалі размаўляць у асобных вершах жывыя людзі з неадухоўленымі істотамі. Прыём размовы падпадае пад усялякага роду ўдасканаленні: гаворыць жывая істота з нежывой, дзве жывыя істоты з адной нежывой і наадварот. Адштурхоўваючыся ад такіх «пошукаў», некаторыя аўтары страчваюць пачуццё меры, каб нешта ўнесці сваё новае. Робіц-

ца гэта нібыта ў парадку асэнсавання фальклорнай спадчыны, а ў выніку: падробка пад яе, стылізатарства. Любыя пошукі не могуць выклікаць пярэчання, калі яны памагаюць раскрыць сэнс новага, а не апранаюць яго ў старамодныя ўборы і тым самым, па сутнасці, адыгрываюць ролю таго ж фармалістычнага крывога люстра. Балада Максіма Танка «У Брэсце», не зважаючы на тое, што ў ёй прысутнічае вобраз смерці, запазычаны з народных казак і легенд, успрымаецца па-новаму не толькі таму, што з'яўленне смерці на полі бою — рэч натуральная. Але яшчэ і таму, што ў баладзе ёсць сучасная думка: абаронцы крэпасці, якія аддалі жыццё за Радзіму, не будуць забыты — яны вернуцца са славай запаленага ў іх гонар Вечнага агню. Поспех спадарожнічае мастаку там, дзе сучасная тэма, прачутая ім, знаходзіцца ў арганічным адзінстве і думкі і інтанацыі. Прыклад такога адзінства — верш Кастуся Кірэенкі «Караблі», дзе звычайны жыццёвы факт узняты да нечаканага абагульнення:

Вясновае сонца з вятрамі ў хаўрусе
Зганяла сувеі з зямлі.
І вось — па рачулках, па ўсёй Беларусі,
Ізноў паплылі караблі.
Папера і дрэва, а скажаш — лінкоры.
— Пускайма! — крычаць хлапчукі.
І ў думках іх ззяюць марскія прасторы,
І свецяць партоў маякі.
Адкуль жа у нас, што ўзраслі на прылессях,
На ціхай няморскай зямлі,—
Марацкія мары і флоцкія песні,
Жаданне вадзіць караблі?
Напэўна, такая душа ўжо ў нас. Мусіць,
Ад першай маленства вясны
Мы чуем, што мы не адной Беларусі,
А ўсёе Радзімы сыны.

Ад дзіцячых забавак, якія спачатку могуць здацца некалькі легкаватымі для сур'ёзнага верша, паэт паступова набліжае чытача да ўспрыняцця вытокаў таго пачуцця, што называецца любоўю да сацыялістычнай Радзімы. Адчуваецца непрыдуманасць напісанага аўтарам, што яно — часціна яго біяграфіі. Значнасць абагульнення прыйшла ад жыцця ў жыццё і сказала сваё, хай ціхае, але н о в а е слова.

Сутнасць новага слова і ў абнаўленні традыцыйных для паэзіі прыёмаў, рытмаў, вобразаў, і ў нараджэнні новых. Творчасць Уітмэна і Маякоўскага не адзіны таму доказ. Але ва ўсіх выпадках у наватарскіх творах ёсць адна агульная рыса: насычанасць іх характэрнымі, новымі дэталямі часу, словамі і разуменнямі, якія заўсёды прыносілі і прыносяць з сабой гістарычныя і сацыяльныя змены жыцця. Але справа яшчэ не ў адным слоўніку. У многіх вершах нашых паэтаў слоўнік як быццам сучасны. У ім няма нястачы і ў тэрмінах будзённа-бытавых, і ў тэхнічных, і ў газетна-публіцыстычных. Бяда ў тым, што звычайныя ў агульным ужытку словы ў рэдкіх выпадках пераходзяць у незвычайны ўжытак — паэтычны. Кожнае слова, тым больш новае, супраціўляецца незвычайнаму яго ўжыванню. А паэт мусіць ставіць слова ў такое дапасаванне, каб яно было і нечаканае і эмацыянальна моцнае, і не страчвала пры гэтым свайго першароднага сэнсу. Не вынайдзена і не будзе вынайдзена рэцэптаў такога дапасавання, бо сакрэт яго ў таленце і ў індывідуальна-вобразным бачанні свету. Сцёртае газетнае слова, няўдала выкарыстанае ў вершы, можа рэзаць слых горш, чым рэжа нагу цвік у чаравіку, а можа ўзмацніць сілу свайго ўздзеяння на чытача, як «юнацкія сны» ў вершы М. Танка «Камяні». Гогаль пісаў:

«...Чым рэч звычайнай, тым вышэй трэба паэту быць, каб вынайсці ў ёй незвычайнае і каб гэтае незвычайнае было, між іншым, абсалютная ісціна».

Нашай паэзіі неабходна вучыцца ў класікаў умельству ператварэння будзённага і празаічнага ў небудзённае і паэтычнае, звычайнага ў незвычайнае. Хоць і цяжка, але трэба смялей уводзіць ва ўжытак паэтычны і празаізмы жывой сучаснай мовы, і яе навукова-тэхнічныя словы, і выразы бытавыя, і палітычную і публіцыстычную тэрміналогію газет. Успомнім, як добра разумеў гэта Пушкін, які быў ён вынаходлівы ў справе замацавання ў паэзіі сучасных яму новых слоў:

Я поўны зноў жыцця — такі мой арганізм
(Прабач мяне, чытач, за лішні празаізм).

Можа, баючыся цяжкасцей, а можа, страты самастойнага каларыту, шмат хто з нашых паэтаў упарта прытрымліваецца абжытага ім слоўніка і вельмі марудна пасоўваецца ў справе пашырэння яго за кошт слоў, якімі даўно карыстаецца ў сваім побыце наш сучаснік-чытач. Зразумелае жаданне чытача, каб з ім размаўлялі на ягонай мове, не ў аднолькавай меры можа быць выканана паэтамі. Многае залежыць ад жанру. Калі публіцыстычны верш, з прычыны надзённасці, першы адгукаецца на такую патрэбу, дык лірычны робіць гэта ў больш павольным тэмпе. Паэму ж альбо яшчэ шырэйшае паэтычнае палатно наогул нельга ўявіць без багатага сучаснага слоўніка, без шматлікіх дэталей побыту і псіхалогіі героя. Тут, калі ўзяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Таму, вядома, брацца за напісанне буйнага твора рызыкоўна без усебаковага ведання таго асяроддзя, аб якім пішаш.

Ніхто, ні эпік, ні лірык, ні паэт-трыбун, не мае права быць у працяглым палоне адных і тых жа тэм і набытых ім паэтычных сродкаў. Крыўдна бывае за талент мастака, калі ім з верша ў верш эксплуатуюцца адны і тыя ж росы, вясёлкі, крыніцы, васількі, шумныя вятры, бары, струны, хвоі і інш. Хоць, здаецца, паэт не стаіць на месцы, стварае на аснове набытых вобразаў разнастайнамагчымыя варыянты іх, але такі рух мог бы быць і больш шпаркі. Аднастайнасць слоўнага матэрыялу няўхільна вядзе да штампаў уласнага вынаходства, адліць з якіх чарговую ўдачу робіцца ўсё цяжэй і цяжэй. Ды і перспектыва не з радасных: абмежаваная магчымасць хоць і можа накідаць малюнак часу, але не поўны і далёка не такі, каб ён быў абсалютнай ісцінай. А тут яшчэ папрокі сяброўскія і не сяброўскія, з арыфметычнымі падлікамі: з дзесяці надрукаваных вершаў тры, маўляў, добрыя, а астатнія так сабе — нічога новага. Навошта, маўляў, такая колькасць адыходаў як чытачу, так і самому аўтару?

Пытанне слушнае. Ды тым, хто задае яго, не варта, аднак, спяшацца з прысудам строгім і катэгарычным. Мастацтва, як кажуць, патрабуе ахвяр: можна не толькі за тры, але і за адзін трапны стрэл дараваць сем халастых. А што да крыніцы, вясёлкі, васількоў, бароў, шумлівых вятроў, дык і тут няма патрэбы ў крайнасці. Покуль слова, як бы яго ні скампраметаваў залішне часты ўжытак, бытуе ў мове, яно мае роўнае права на існаванне з новым. Гэта шчасце, што зямля наша ўпрыгожана крыніцамі і рэкамі, лясамі і лугамі, што ў соснах шумяць вятры, плывуць над палямі дажджавыя хмары, свеціць сонца на ўсходзе і захадзе. Бяда не прыроды, а тых паэтаў, што без меры аздабляюць свае творы знешняй красою яе з'яў, а не ўспрыма-

юць іх як звычайныя, у якіх кожны раз неабходна вынайсці незвычайнае. Сонца неаднолькава свеціць людзям у мірны час і ў час вайны. Яно можа быць нават чорным: менавіта такім убачыў яго Мелехаў, калі шабляю капаў магілу для Аксінні.

Падагульняючы напісанае паэтамі ў першыя пасляваенныя гады, можна бачыць, што беларуская савецкая паэзія не без поспеху ўключалася ў новы для яе перыяд. Баявы яе састаў не быў староннім назіральнікам, не стаяў у тупіку, а рухаўся насустрач жыццю, браў актыўны ўдзел у намаганнях партыі і народа, накіраваных на адбудову гаспадаркі і захаванне міру. Былі цяжкасці, якія перамагаліся, ставіліся пытанні, на якія кожны паэт адказваў сваёй творчасцю. Але гэтыя цяжкасці і пытанні не часовага парадку, яны заўсёды ўзнікалі і будуць узнікаць няўхільна ў пісьменніцкай практыцы. Невыпадкова і сёння ў творчых дыскусіях па паэзіі і ў ацэнцы твораў асобных паэтаў закранаюцца пытанні і майстэрства, і наватарства, і творчага выкарыстання фальклорнай спадчыны. Як і дваццаць пяць год назад, надзённай і вырашальнай з'яўляецца сувязь мастака з рэчаіснасцю, праўдай жыцця, перадавымі ідэямі часу. Перад намі, як і раней, але яшчэ ў большай меры, паўстае неабходнасць перамагання цяжкасцей, звязаных з асваеннем сродкамі паэзіі ўсё новых і новых з'яў імклівага жыцця. Вывучаючы каштоўны вопыт нядаўняга мінулага, наследуючы яго станоўчыя традыцыі, смела ўключаючыся ў летапіс небывалых у гісторыі спраў савецкага народа, наша паэзія зможа сказаць сваё слова, вартае эпахальных здзяйсненняў сацыялістычнага грамадства.

*1948—1970 гг*

## ЖЫЦЦЁ І ТВОРЧАСЦЬ

Мы часта чуем ад чытача і ў друку заслужаную крытыку, незадавальненне тымі ці іншымі нашымі творамі, вобразамі людзей, выведзенымі ў іх, сітуацыямі, канфліктамі, вырашанымі ў іх. У чым справа? Звычайна на гэта пытанне мы адказваем: вінавата слабае веданне жыцця. Так, у такім адказе ёсць вялікая праўда. Але не ўся бяда ў тым, што мы не так як след выкарыстоўваем камандзіроўкі. Не ўся яна і ў тым, што мы, замест таго каб шырыць кола сваіх сяброў і знаёмых, звязаных з разнастайнымі прафесіямі і заняткамі, часта абмяжоўваем сябе колам прыяцеляў, галоўным чынам з ліку тых, што маюць непасрэднае дачыненне да нашай літаратурнай работы, што мы шмат часу трацім на дробязныя літаратурныя інтарэсы. Мала ведаць жыццё, вывучаць яго, трэба самому жыць так, каб сэрца і думкі бесперастанку біліся жаданнем пазнаць свет і людзей. У наш час, якім бы ні быў таленавітым пісьменнік, паэт, якім бы ні быў багатым свет яго душы, ён не будзе поўным, пакуль інтарэсы грамадства і чалавецтва не стануць яго зместам. «Паэзія,— пісаў Бялінскі,— гэта біенне пульса сусветнага жыцця, гэта яго кроў, яго агонь, яго святло і сонца». Кожнага пісьменніка, паэта, які пачынае губляць сардэчныя сувязі з жыццём, адгароджваецца сцяною эгаістычнага самалюбства ад інтарэсаў грамадства і чалавецтва, чакае сумны лёс пушкінскага Алеко, якога трапна ахарактарызаваў Бялінскі: «Натуры бліскучыя,

але ў сутнасці дробныя, таму што эгаістычныя,— чужыя імкненню да ідэі альбо ідэалу: яны ва ўсім бачаць толькі сваё мілае я. Калі яны і забяруць сабе ў галаву, што жывуць для якойсьці ідэі, то не ўзвышаюцца да ідэі, а толькі нагінаюцца да яе, думаюць не сябе аблагародзіць і асвятліць пранікненнем ідэяю, але ідэю ашчасліваць сваім султанскім выбарам». А ў нас часам нават сярод маладых літаратараў можна назіраць незразумелую самаўпэўненасць, недаравальную адсутнасць творчага неспакою. Некаторыя таварышы прывыклі, каб ім гаварыліся толькі кампліменты, яны нават не задумваюцца над тым, што такія кампліменты часта гаворацца толькі з адзінай мэтай — не папсаваць прыяцельскіх адносін. Хай сабе горкае, слова праўды для творчага чалавека варта больш тысячы салодкіх, але незаслужаных кампліментаў.

Адмоўна адбіваецца на развіцці літаратуры таксама і пэўная слабасць крытычнага фронту. На жаль, мы не можам ганарыцца пакуль што імёнамі крытыкаў, якія былі б аўтарытэтнымі, імёнамі такімі, якімі ў мінулым была слаўна вялікая руская літаратура. А неабходнасць у такіх літаратарах-крытыках надзвычайна вялікая. Савецкая літаратура прайшла слаўны баявы шлях, у ёй налічваецца нямала імён выдатных пісьменнікаў, вартых таго, каб іх творчасць знайшла сваю сапраўдную літаратурна-крытычную ацэнку. Нам неабходны падрабязны аналіз твораў Маякоўскага, «Разгрома» Фадзеева, «Паднятай цаліны» і «Ціхага Дона» Шолахава, «Любові Яравой» Транёва, «Як гартавалася сталь» Астроўскага, «Думы пра Апанаса», «Смерці піянеркі» Багрыцкага, «Краіны Мураваії», «Васілія Цёркіна» Твардоўскага, «Маці» Дзяменцьева, вершаў Ісакоўскага, Сіманава, Сур-

кова і многіх іншых. Нам трэба ведаць, чым выклікана з'яўленне гэтых твораў, якую ролю яны адыгралі і адыгрываюць у развіцці грамадства. У чым пафас кожнага з гэтых твораў? Што новага ўнёс кожны з іх, чым духоўна ўзбагаціў савецкага чытача? У чым моцныя і слабыя бакі творчасці таго ці іншага пісьменніка? Грунтоўныя адказы на гэтыя пытанні выбілі б канчаткова глебу з-пад ног усялякіх варожых нам тэорый аб «бесканфліктнасці». Яны паказалі б нам тую яскравую праўду жыцця, якая чырвонай ніткай праходзіць праз усе лепшыя здабыткі савецкай класікі. Яны б выявілі тое агульнае, што яднае ўсе гэтыя арыгінальныя творы: іх сардэчнасць да чалавека працы, іх барацьбу за яго шчасце, іх палымяную любоў да бацькаўшчыны працоўных, у якой ажыццяўляюцца лепшыя ідэалы ўсяго чалавецтва.

Адказы на гэтыя пытанні патрэбны не толькі нам, але і будучым пакаленням савецкіх літаратараў, як чыстае, празрыстае паветра, якое адкрывае шырокія далягляды.

Мы кідаем заслужаны папрок крытыкам — такіх прац няма і ў беларускай савецкай літаратуры. Хочацца пажадаць, каб нашыя з'езды хоць у некаторай ступені зрабілі зрух у гэтым кірунку, каб яны сталі калектыўнымі крытыкамі твораў савецкай літаратуры, каб яны калектыўна адказвалі хоць на частку тых пытанняў, якія не толькі хвалююць кожнага з нас, але і патрэбны для далейшага росту літаратуры.

Творчасць многіх нашых паэтаў за апошнія гады варта сур'ёзнага разгляду таму, што кожны з іх мае не толькі сваё адменнае, дадатнае, але і свае хваробы і недахопы. Аднак са створанага паэтамі за той ці іншы год заўсёды вылучаецца нешта такое, што прыкоўвае асаблівую ўвагу чы-

тача і літаратурнай грамадскасці, творы, якія найбольш ярка вырашаюць цікавую надзённую тэму. У адзін час гэта — кніга Максіма Танка, яго паэма «Дзённік міру», у другі — цыклы вершаў Пімена Панчанкі, у трэці — творы Петруся Броўкі. А бывае і так, што ўвагай чытача карыстаюцца адзін-два вершы, такія, як «Караблі», «Пісьмо», «Мая рэспубліка» К. Кірэенкі, альбо «Лісты з Дуброўкі» і вершаваныя фельетоны А. Бялевіча, альбо «Балада аб уральскім танку» А. Вялюгіна. Бывае і так: асобныя вершы робяцца значнай з'явай не толькі аднаго, двух год, але і пэўнага перыяду ва ўсёй савецкай паэзіі. Успомнім вершы Я. Купалы «Лён», «Як у госці сын прыехаў...», «Алеся». Каштоўнасць іх у тым, што яны праклалі для ўсіх паэтаў новыя, яшчэ не зведаныя да іх, шляхі ў сучаснасць. Найбольшая пахвальба для такіх твораў тое, што яны, абуджаючы жывую думку, выклікаюць у паэтаў жаданне тварыць, у чытача — жаданне карыснай дзейнасці ў імя тых ідэй, якімі прасякнуты.

З твораў беларускай паэзіі, напісаных за апошні год, увагай чытача і крытыкі карыстаецца паэма Аляксея Зарыцкага «Аповесць пра залатое дно». Яна выклікала і выклікае супярэчлівыя думкі аб сабе, і гэта ўжо гаворыць аб тым, што закранутыя ёю пытанні важныя, жыццёвыя. «Тэма яе,— пішуць крытыкі,— наступ ва ўсім магутным тэхнічным узбраенні на мільёны гектараў неабжытых балотных зямель — маштабная і надзённая...» Адзначаецца, аднак, тое, што вобразы дадатныя менш удаліся аўтару, чым вобразы адмоўныя. Чытач Шаблінскі з калгаса «Росквіт» Дрысенскага раёна піша: «З вобразаў «Аповесці» найбольш выразны вобраз Шпунта. Аўтар аддаў яму значна больш увагі і не быў такі скупы на выяўленчыя

сродкі, як скупы ён пры стварэнні іншых вобразаў. Гэта здаецца некалькі дзіўным: змест «Аповесці», нават яе загаловак, вылучаюць на першы план якраз не Шпунта, а Шацілу. Як бы там ні было, паэт жыва і праўдзіва паказаў нікчэмнасць прахадзімца, стварыў тыповы, мастацкі завостраны вобраз...»

Паспрабуем разабрацца ва ўсім гэтым. У паэме, сапраўды, у наяўнасці дзве лініі, дзве плыні — лірычная і сатырычная. Лірычная плынь, якая гучыць выразна і мастацкі ярка, уключае ў сябе паэзію Палесся, сацыялістычнага пераўтварэння прыроды:

Як хораша таму на свеце жыць,
Хто мае мару — залатога друга.
Шырокі край палескі, ён ляжыць
Ад Прыдняпроўя да ўзбярэжжаў Буга.
Праходзіць Прыпяць цераз гэты край.
Калі яе ад вусця да вытокаў,
На восемсот кіламетраў, бадай,
Усю прывольную акінуць вокам,
Тады пахілены вякамі дуб
Яна нагадвае, галлісты, дужы:
Камель пад Кіевам, зялёны чуб
Шуміць далёка недзе на Прыбужжы.
Раскінуліся неаглядна ўшыр
Ягоныя шумлівыя галіны —
Жалонь, Славечна, Убарць, Піна, Стыр,
Гарынь, і Пціч, і Случ, і ціхаплынны
Уладар ста рэчышчаў Стаход
Плывуць праз нетры ціхія, глухія.
На сотні вёрст вакол дрыгва, чарот,
Гамоняць з ветрам пушчы векавыя.
Але праз твань балотную відно
Таму, хто край палескі добра знае,
Някранутае залатое дно,
Якое сейбітаў даўно чакае.

У лірычную плынь паэмы ўключаны вобразы станоўчых герояў: маладога вучонага Шацілы,

каханай ім дзяўчыны, дачкі прафесара Крушыны — Ірыны. Сатырычная плынь паэмы звязана з дзейнасцю Шпунта:

Здараецца — часамі ў юбілей
Гучыць напышлівых прамоў замнога,
Як той алей на селядца худога,
На юбіляра шчодра льюць ялей.
Загатаваў старанна к юбілею
Дакладчык Шпунт бачонкаў пяць ялею.
Вось з бочак Шпунт павыбіраў шпунты,
Пацёк ялей, як патака, густы:
— Мы вас вітаем, слаўны юбіляр,
І новых поспехаў ад сэрца зычым,
Мы гэты дзень вялікім святам лічым.
Я аглядаю мысленна абшар,
Што вы засеялі рукой руплівай.
Зайздрошчу долі таленга шчаслівай.
І не хапае ў мове нашай слоў,
Не маюць сілы беднай мовы гукі
Намаляваць яскрава для вякоў
Партрэт тытана працы і навукі...

Перад аўтарам стаяла цяжкая, даволі рэдкая ў паэзіі задача спалучыць гэтыя дзве плыні такім чынам, каб, не разбураючы адна другую, гэтыя плыні пракладалі шляхі адна другой, каб у выніку змог атрымацца кампазіцыйна стройны, цэльны твор. Магло ж стацца і так, што плыні лірычная і сатырычная не прыйдуць да згоды, застануцца існаваць кожная сама па сабе, і тады, якімі б яны яркімі ні былі, цэльнага мастацкага твора не атрымаецца. На самай справе, калі тэмай «Аповесці», як лічаць крытыкі, з'яўляецца сацыялістычны наступ на мільёны гектараў балотных зямель, то як тады быць з вобразам Шпунта, які займае ў «Аповесці» надзвычай вялікае самастойнае месца і з ідэяй наступу звязаны не даволі выразна? Хто такі Віця Шпунт? Што ён робіць у паэме? Можа, ён малады вучоны, які сам займаецца вынаходніц-

твам і якому перайшоў дарогу больш таленавіты Якуб Шаціла? Ці, можа, ён вораг, які не жадае, каб вынаходніцтва Шацілы пасунула наперад вялікую, патрэбную народу справу? Не тое і не другое.

Шпунт задуменны сёння,
Як мысліцель,
Пранікліва глядзіць удаль кудысь.
Ну хоць ляпі партрэт скульптурны з Віці
І падпішы на ім каротка — мысль.
Пра што ён думае?
Ці не пра тайны
Прыроды, не пазнаныя яшчэ.
Ці, можа быць, мяркуе, як хутчэй
Нам скарыстаць той скарб, той незвычайны,
Які на залатым схаваны дне?
О, не,
О, не!

Да вялікай народнай справы ён раўнадушны, яго больш цікавіць грашовая пасада, якой ён хоча дасягнуць, карыстаючыся сваімі прыяцельскімі сувязямі з Крушынай. Уся яго дзейнасць, уся мысль накіраваны толькі ў гэты бок. Гэтая пасада патрэбна яму як першая ступень на шляху да яшчэ большых вышынь. У яго больш шырокія планы:

Шпунт думае:
— Не горш я многіх, от
Напрыклад, ёсць браты дацэнты Кульбы,
Яны сваю брашурачку «Рак бульбы»
Пісалі ўдвох амаль семнаццаць год.
Было ў рэцэнзіях, што ў працы іх
Цытаты ёсць з васьмідзесяці кніг.
Ды не шманаюць Кульбы, маюць званне
І ганарары за перавыданне.

Навуковае званне, ганарары за перавыданне — вось мара Віці Шпунта. Ажыццявіць яе ён імкнецца не шляхам настойлівай і карыснай для грамадства працы. Не! Для гэтага ў яго няма ні адпавед-

ных здольнасцей, ні жадання сумленна працаваць. Для дасягнення сваёй мэты ён карыстаецца ўсялякімі сродкамі — і нагаворамі на людзей, якія яму замінаюць, і падхалімажам, які з’яўляецца, бадай, яго галоўнай зброяй. Для сваёй дзейнасці Шпунт абраў дзве ахвяры: першую — старога, вядомага больш сваімі мінулымі заслугамі, прафесара Кружыну, сэрца якога ён пакарыў ліслівымі словамі, юбілейнымі прамовамі, якога ён пераканаў у сваёй да яго бескарыслівай любві і дружбе; другую — Якуба Шацілу, пасаду якога ён жадае заняць, выкарыстаўшы часовыя няўдачы маладога вучонага. Усе свае несумленныя справы Віця Шпунт імкнецца рабіць скрытна, чужымі рукамі, за спіною аўтарытэтнага чалавека. Гэта яму ўдаецца.

Як гром з нябёсаў, прагрымеў загад,
Які гласіў:
Шацілу зняць з работы,
Выдаткі ўсе з яго спагнаць праз суд.
Належалі, вядома, Віцю ноты,
Крушына толькі быў музыкай тут.

Віця Шпунт па роду сваёй дзейнасці родны брат спекулянту, які нажываецца з працы чужых рук. Толькі спекулянт, скарыстоўваючы эканамічныя цяжкасці, мае прыбытак на пэўным тавары, а Віця Шпунт, выкарыстоўваючы чалавечыя слабасці, зарабляе на славе і аўтарытэце абранай ім ахвяры. Спекулянт гарыць, калі тавар абясцэньваецца, Віця Шпунт церпіць крах тады, калі правальваецца аўтарытэт даведзенай ім да крайнасці ахвяры. Такой жыццёвай дзейнасці Шпунт вучыўся з малых год, у тыя далёкія часы, калі маці яго «рэстаран трымала», у якім гулялі гусары, а здаралася — і памешчыкі. Для яго і цяпер навучанні мамусі — закон, якога неабходна прытрым-

лівацца. «А як з грашамі? Ён не мае ліку: кладзе мамуля лішкі ўсе на кніжку».

Брыль у руцэ з зялёнага велюру,
Варушыць ветрык злёгку шавялюру,
Ідзе задумны Віця па бульвары,
Плывуць, як хмаркі векавыя, мары:
«Надзейна забяспечыў я тылы
І неўзабаве войскі ў наступ кіну.
Адзіны пройгрыш мой і не малы —
Не здолеў я прываражыць Ірыну.
Але ці варта на ражон мне перці,
Я помню словы мамачкі маёй:
«Аддаць даўгі, жаніцца і памерці
Заўжды не позна, любы сыне мой».

Маці, са старымі дарэвалюцыйнымі поглядамі на жыццё, для Віці Шпунта — духоўны настаўнік, натхніцель і дарадца ва ўсіх яго сучасных справах. У чым жа праўдзівасць вобраза Шпунта? Што новае, тыповае бачыць у ім чытач? Правільны адказ на гэта пытанне можа даць вызначэнне асноўных рыс характару Шпунта. Вось яны: прагнасць да грошай, да лёгкіх заробкаў і лёгкага жыцця, кар'ерызм, падхалімства, угодніцтва, крывадушша, пошукі ва ўсім толькі ўласнай выгады і г. д. Пад пяром паэта гэтыя рысы, нададзеныя аднаму чалавеку, набылі новае жыццё і пад іменем Віці Шпунта пайшлі гуляць па вясновым бульвары з модным замежным брылём у руцэ, раз'язджаць у таксі «на грошыкі чужыя», гаварыць ялейныя прамовы, прыстасоўвацца да разнастайных умоў у пошуках лёгкага хлеба.

Іначай кажучы, у вобразе Віці Шпунта паэт выкрывае, высмейвае рэшткі мінулага. Такое разуменне не толькі тлумачыць, чаму Шпунт, не выступаючы супраць ідэі сацыялістычнага наступу на палескія балоты, аб'ектыўна перашкаджае вялікай справе, але і знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці

з паходжаннем Шпунта, з характарам усіх яго паводзін і дзейнасці, апісанай у паэме. У канцы «Аповесці» аўтар паведамляе чытачу, што Віця Шпунт, пасля страты свайго высокага пакравіцеля ў асобе Крушыны, быў прагнаны ўрэшце з інстытута; што пасля ўсяго перажытага ім яго бачылі на курорце, дзе ён зноў шукае новых высокіх знаёмстваў. Аўтара дакараюць у тым, што парок недастаткова пакараны, што са Шпунтам паэт павінен быў скончыць назаўсёды. Дакор не слушны. Шпунт, як правільна зазначае паэт, «не траціць надзей ні на хвіліну знайсці дзе-небудзь новага Крушыну». Другімі словамі, ён будзе абжываць новыя месцы да таго часу, пакуль будуць жыць рэшткі мінулага ў свядомасці людзей.

Але ці такой ужо шкоднай з'яўляецца дзейнасць Шпунта, апісаная ў паэме? — можа спытаць чытач. Па сутнасці, Шпунт займаецца дробнай дзейнасцю, яму так і не ўдалося дасягнуць сваіх мэт. Шкоднасць Шпунта ў самім яго існаванні, у яго намерах і жаданнях. Уявіце Шпунта на месцы братоў Кульбаў. Ён, пусціўшы ў ход усю сваю хітрасць і ўмельства прыстасоўвацца да ўмоў, мог бы заграбці не адну сотню тысяч народных грошай за нішто, бо не да карыснай працы, а да несумленнай нажывы імкнецца ён. Ён дзейнічае ў абход вядомага палажэння нашага грамадскага ладу: «ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па рабоце». Ен хацеў бы як менш даць дзяржаве і як мага больш узяць ад яе. Калі даць волю шпунтаўскім імкненням і апетытам, не весці з імі барацьбу, яны нанясуць немалыя эканамічныя страты народнай гаспадарцы ў любой яе галіне. Вось чаму, не ў прыклад некаторым сатырычным творам, якія раздзьмувалі і смакавалі асобныя цяжкасці, што сустракаліся на нашым шляху, па сутнасці, паклёпнічалі на

наша жыццё,— паэма Зарыцкага, верная мастацкай праўдзе, накіравана на выкараненне сапраўдных парокаў, сапраўднага зла. Яна заклікае пільна ахоўваць свяшчэнны прынцып сацыялістычнага грамадства: «ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па рабоце». Галоўнае не ў тым, што ў канцы паэмы Шпунт шукае для сваёй дзейнасці новых шляхоў, а ў тым, што зло пакарана, высмеяна, бо, як пісаў Салтыкоў-Шчадрын «...нішто так не збівае з панталыку парок, як усведамленне, што ён разгаданы і што з прычыны яго пачуўся ўжо смех».

Аляксей Зарыцкі напісаў праўдзівы, хвалюючы твор, які з'яўляецца ўдачай не толькі паэта, але і ўсёй нашай паэзіі. Над паэмай паэту след было б яшчэ папрацаваць, улічыўшы заўвагі, якія яму рабіліся крытыкамі і чытачамі. Аўтару след падумаць яшчэ над сатырычнай лініяй «Аповесці», якая, на маю думку, не даведзена да канца, не зліта поўнасцю, арганічна з лініяй лірычнай. Залаты скарб не толькі на дне асушаных балот, ён і ў душах людзей, якія, будуючы сацыялістычнае жыццё, назаўсёды развітваюцца з жыццём мінулым, з яго шпунтаўскім балотам. Паэту след падумаць у гэтым напрамку, каб па-мастацку праўдзіва прывесці дзве плыні паэмы ў адно рэчышча, асвяціць іх адной думкай, адной ідэяй сацыялістычнага пераўтварэння жыцця.

Аляксей Зарыцкі доўга і настойліва цікавіўся праблемай Палесся, вывучаў яго людзей, прыроду.

Станоўчы вынік работы Зарыцкага сведчыць аб тым, што толькі на шляху глыбокага пранікнення ў жыццё можа знайсці паэт адказы на разнастайныя хвалюючыя пытанні сучаснасці.

Наш рэвалюцыйны час патрабуе ад нас вострых, баявых, аптымістычных твораў, поўных сардэчнай любві да новага і палымянай нянавісці да старога.

Дваццатае стагоддзе, сынамі якога мы з'яўляемся, самае баявое, самае напружанае з усіх, якія ведала гісторыя. Кожнае дзесяцігоддзе прыносіць новыя гістарычныя змены. На нашых вачах сыходзіць са сцэны аджыўшы лад жыцця, канчаецца тэрмін узаконенага ім права эксплуатацыі, адыходзяць у нябыт тысячагоддзі крыві і слёз, вякі бяспраўнага існавання рабоў і казачна-багатага жыцця ўладароў. Заканчваецца апошні акт чалавечай трагедыі, у якой у ролі багоў, дабрадзеяў роду людскога выступаюць яго забойцы і каты. Яны яшчэ спрабуюць запэўніваць, быццам здольны забяспечыць галодных людзей работай, але мы ўжо не верым ім, бо ведаем, што за кулісамі іх пагарэлага балагана стаяць мільёны беспрацоўных, для якіх кавалак хлеба — збаўленне ад смерці. Яны дэкламуюць высокія тырады аб вернасці прынцыпам свабоды, братэрства, але мы знаем, што ў гэты час па іх загаду, за тымі ж кулісамі, лінчуюць неграў, у турэмных засценках катуюць рэвалюцыянераў, а пасланыя імі бамбардзіроўшчыкамі імкнуцца паставіць на калені свабодалюбівыя народы Азіі і Афрыкі. Што б яны ні рыхтавалі, якімі б бомбамі ні пагражалі, цёмная перадгісторыя чалавецтва канчаеццца, пачынаецца яго слаўная гісторыя, якая нясе людзям сапраўдны росквіт матэрыяльных і духоўных сіл.

Праўда жыцця, праўда мастацтва размаўляе сёння мовай барацьбітоў за чалавечае шчасце, за пераможны поступ гэтай гісторыі.

*1954 г*

# НАРОДНЫ ПАЭТ

Народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, сямідзесяцігоддзе якога мы адзначаем, знаюць і любяць далёка за межамі рэспублікі. Творчасць яго — здабытак і гордасць усіх народаў Савецкага Саюза.

Немагчыма ў невялікім газетным выказванні даць здавальняючае ўяўленне пра творчы шлях народнага паэта. У сілу гэтых абставін я вымушаны абмежавацца толькі кароткімі ўражаннямі аб асобе і творчасці Якуба Коласа.

Як паэт Якуб Колас вырастаў пад уплывам прагрэсіўнай рускай літаратуры — спачуванне да абяздоленых, палымяныя заклікі да барацьбы за вызваленне з ланцугоў рабства зрабіліся вырашальнымі матывамі яго шматлікіх твораў. Сын малазямельнага селяніна, вясковы настаўнік, ён ужо ў часы рэвалюцыйнага ўздыму 1905 года вёў агітацыю сярод сялян за прымусовы захоп панскіх земляў, за знішчэнне самаўладства. І ў цяжкія гады рэакцыі паэт не спыняў барацьбы з царызмам.

У Коласа ёсць верш, напісаны ім у 1908 годзе,— «Асадзі назад!», асабліва характэрны для яго творчасці ў той перыяд. У ім з вялікай мастацкай сілай выяўлена горкая доля беззямельнага і бяспраўнага селяніна, захаваны гнеў і нянавісць народа да прыгнятальнікаў:

Дрэнна мае жыццё,
Ўсё ідзе не ў лад,
І крычаць мне ўсюды:

У засеках пуста,
Жыта выбіў град.
— Дай, старшыніха, ссуды.
«Асадзі назад!»

Я з капейкі збіўся,
Зарабіць я рад.
— Ці няма работы?
«Асадзі назад!»

Усё тут ярка і трапна, кожнае слова б'е ў цэль, і асабліва ўражліва, кожны раз па-новаму, гучыць гэтае «Асадзі назад!» — грубы паліцэйскі вокрык, што чуўся ўсюды ў часы забастовак і рэвалюцыйных дэманстрацый, ва ўсіх канцах Расіі. Падтэкст верша адгукаецца грозным напамінам рэвалюцыі 1905 года.

У 1908 годзе Якуб Колас за рэвалюцыйную дзейнасць быў асуджаны Віленскай судовай палатай на тры гады турэмнага зняволення. Ні праследаванне жандараў, ні турма не спынілі паэта-рэвалюцыянера. Верай у народ і аптымізмам насычаны вершы, апавяданні і аповесці Коласа, напісаныя за кратамі.

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны —
Далёкіх хмар магутны гром,
Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,

І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары.
А хмара грозна націскае,
Маланка неба баразніць.

А ночка спіць, а ноч не знае,
Што зараз бура зашуміць.

Колькі тут непаўторна-свайго і разам з тым як гэта блізка «Буравесніку» Горкага, якога сам Якуб Колас гэтак жа, як і Янка Купала, лічыў сваім другам і настаўнікам.

Гэтак жа, як і Янка Купала, Колас назіраў працэсы класавага размежавання ў вёсцы, ненавідзеў багацеяў-кулакоў, якія выціскалі пот і кроў са сваіх аднасяльчан не горш, чым паны. У вершы «Кірыла» паэт высмейвае сельскага старасту — багацея Кірылу. У вершы «У судзе» Колас вуснамі бедняка Янкі выказаў нянавісць працоўнага народа да тунеядцаў-кулакоў, якія звычайна выбіраліся старастамі і соцкімі. Гэта пачуццё ляжыць і ў аснове буйнейшых паэтычных твораў Коласа — паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата». Яно чырвонай ніткай праходзіць праз усе яго дарэвалюцыйныя лірычныя вершы. Яго можна заўважыць не толькі там, дзе паэт апавядае аб горкім лёсе людзей, але і ў такіх творах, дзе апісваецца, здавалася б, толькі прырода. Узяць хаця б верш «Жытні колас»:

На саломцы тонкай
У траве густой
Спее адзінокі
Колас сіратой.
Ці то птушка божжа
Кінула зярно,
Ці то заняслося
Бураю яно.
Ці з дзіравай торбы
Конік чый згубіў,

На чужую скібу
Зерне пасадзіў.

Плача, што дарэмна
Тут расце ў глушы,
Што нідзе не згледзіш
Роднае душы.
Што яго зярняткі
Птушкі падзяўбуць,
Белую саломку
Ветрыкі паб'юць.
І, падняўшы ўгору
Стромкі валасок,
Ные сіроцінка,
Плача каласок.

Хіба гэта не горкая аповесць аб лёсе абяздоленага? Хіба толькі доля загубленага сярод пустазелля коласа паўставала перад паэтам, калі ён з такой шчырасцю і задушэўнай усхваляванасцю пісаў гэтыя шчымлівыя словы, поўныя вялікай абагульняючай сілы. Перачытваючы гэтыя радкі, мімаволі прыгадваеш вядомае выказванне М. Горкага: «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала — вельмі цікавыя хлопцы... Проста пішуць, так ласкава, тужліва, шчыра». Журботай, задушэўнасцю, абаяльнасцю прастаты авеяны і многія іншыя вершы аб долі бедняка. Нельга не ўспомніць вершаў «Перад судом» і «Доля парабчанкі». У першым з іх маці выпраўляе сына ў суд. Яна яшчэ верыць, спадзяецца, што бог пашле сыну добрую часіну, што ён вернецца дамоў. Але інакш думае сын:

А каб справіцца з няпраўдай,
З крыўдаю, з бядою,
Дык націснуць трэба людзям
Дружнай грамадою...

У вершы «Доля парабчанкі» маці выпраўляе дачку не ў суд, не на расправу, а ў наймічкі да

чужых людзей. Але ў чытача няма сумнення, што там ёй не будзе лепш, чым сыну за кратамі. Дзе ж выйсце з нястачы і нядолі? На гэтае пытанне дае адказ Колас у творах, напісаных у гады Савецкай улады.

Недалёка пад Мінскам ёсць любімы паэтам куток Вусце з Блужскім борам, з рэчкай Балачанкай, за каторай:

Як волаты, за рэчкаю дубы
Шатры свае раскінулі над долам.
Зірнеш на іх — гвардзеец з іх любы!
А гордыя вяршаліны-чубы
Не кланяюццца непагадзі чолам.

Вясёла, лёгка, раздольна цякуць вершы паэта, калі ён успамінае гэты край.

На першы погляд вершы аб Вусці — вершы аб прыродзе. На самай справе ў іх выказана аптымістычнае пачуццё паэта, любоў да роднай зямлі, абноўленай шчаслівай працай савецкіх людзей:

З грудка мне ўсё відаць і ўсё чутно:
І трактар дзесь з-за Балачанкі,
І гром сталёвае крыланкі,
І спеў дзявочы з Беразянкі,—
А неба ўсцяж — блакітнае акно.

Можа быць, мацней за ўсё выказана любоў паэта да абноўленай роднай зямлі ў лірычным адступленні паэмы «Рыбакова хата» — усё аб тым жа Вусці. «Рыбакова хата» — паэма аб жыцці малазямельнага селяніна Данілы з Заходняй Беларусі, аб яго цяжкой долі пад прыгнётам польскіх паноў. Здавалася б, няма непасрэднай прычыны раптам успомніць Вусце ў паэме, напісанай аб далёкай ужо для гэтых мясцін цёмнай, душнай рэчаіснасці. Але паэт знаходзіць яе:

Хачу я панскі фуз атрэсці,
Зірнуць у іншае акно
І ў ткань паэмы свае ўплесці
Вясёлай фарбы валакно.

На бераг Свіслачы, пад Вусце,
Я перайду на нейкі час,
У ціхі кут, у захалусце,
Што ўжо апісваў я не раз.

Не, невыпадкова раптам успомніў паэт родныя мясціны, дзе на месцы змрочных балот красуюцца калгасныя нівы. Нібы з душнага палону рэчаіснасці, якую апісвае паэт, вырвалася яго сэрца на простор і павяло за сабою любімых герояў паэмы, паказваючы ім адзіна правільны шлях да выратавання, да шчасця...

Паэт нібыта запрашае герояў, што жывуць яшчэ ў старым свеце, зірнуць на новы свет, на новае для іх жыццё, на будучыню, якая ажыццявілася ўжо ў Краіне Саветаў. Таму ўсё ў яго расказе пра Вусце хвалюе. Нават, здавалася б, нічым не прыкметныя пейзажы гэтых мясцін напоўнены ў паэме новым, асаблівым зместам. Бо гэта не проста пейзажы, а гімн новага жыцця, поўнага сонечнага святла, у якім на ўвесь свой магутны рост узвышаецца працоўны чалавек, распрастаўшы плечы, вялікасна, горда. Крок за крокам паказваючы абноўленую працай чалавека зямлю, аўтар як бы гаворыць сваім героям — вось выйсце з галечы. Адказ на пытанне, якое паўставала перад пісьменнікам у многіх яго творах, знойдзены. Яго далі само жыццё, сацыялістычная рэвалюцыя.

Барацьба за шчасце працоўных — асноўная тэма ў творчасці Коласа. Гатоўнасць савецкіх людзей абараняць заваёвы Кастрычніка ад гітлераўскіх акупантаў, савецкі патрыятызм, маральна-палі-

тычнае адзінства народа — змест твораў Коласа «Суд у лесе», «Адплата», што напісаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Натхнёна ўслаўляе Якуб Колас камуністычную партыю, якая прывяла народы Савецкага Саюза да вялікіх гістарычных здзяйсненняў. Паэт падкрэслівае глыбокую сувязь камуністаў з народам. Партыя — гэта магутны дуб, які ўрос у зямлю, і яе не зломіць ніякая навала.

Пытае бура старца-дуба:
— Чаму цябе я не зламлю?
І кажа дуб: — Я ўрос ў зямлю,
З зямлёю жыць у дружбе люба.

І сам паэт, натхнёны перадавымі ідэямі часу, паўстае перад намі як нястомны мужны змагар за шчасце працоўнага народа. Сіла паэта — у сардэчнай сувязі з народам, з партыяй, з роднай савецкай зямлёй.

*1952 г.*

# АБ НОВАЙ ЗЯМЛІ

На новых землях, в стороне, открытой
Для счастья людям, долго жизнь трудна.
И кажется она им необжитой,
И помнится иная сторона.
И нужен срок, чтоб здесь окорениться,
Чтоб жизнь иною памятью облечь,
И новым детям нужно здесь родиться,
И должно дедам в эту землю лечь...

Чытаючы гэтыя радкі з верша Аляксандра Твардоўскага «Новая зямля», мы мімаволі згадваем і людзей Калумба, якія ў далёкія часы адкрылі Амерыку, і абяздоленых сялян царскай Расіі, што ў пошуках шчасця пакідалі бацькоўскі край і ехалі ў Сібір. Пасяленцы і перасяленцы ўсіх краін і часоў прыгадваюцца нам, хоць размова ў вершы не пра іх, пра нас саміх, пра нашых бацькоў і дзядоў, пра абвешчаную Кастрычнікам новую эру ў гісторыі чалавецтва. Не адно пакаленне савецкіх людзей прысвяціла ёй гады самаадданай працы, цярплівасці, і даўно ўсё, што створана намі, усё, чаму аддавалі мы свае сілы, усё, у тым ліку і незабыўныя магілы нашых братоў, бацькоў і дзядоў, парадніла нас з нашай новай зямлёй. І мы служым ёй, як гаворыцца ў вершы, каб і пасля нас святло, здабытае суровай барацьбой і працай, свяціла будучыні і «каб за намі пасяленцам новым не ўсё спачатку паўтараць».

Я пачаў артыкул цытатай з вядомага верша не дзеля таго, каб яшчэ раз аддаць належнае глыбіні

думкі, навізне і арыгінальнасці параўнання пераўтваральнікаў сучаснага свету з пасяленцамі, што асвойваюць новыя землі, ідучы няходжанымі шляхамі жыцця. Мяне цікавіць не гэтак вобраз новай зямлі, як поўныя ўнутранага сэнсу словы: мы служым ёй. У іх бачу я сфармуляванае самім паэтам прызначэнне яго музы. Творчасць Твардоўскага, народжаная новай зямлёй, усім тым, што паўстае за гэтым вобразам і што мы называем савецкай рэчаіснасцю, з першых сваіх радкоў абжывае гэтую зямлю, «облекает ее иной памятью», сілай вобразнага слова замацоўвае ў свядомасці пакаленняў, уладай, што дадзена паэзіі, сцвярджае заканамернасць яе з'яўлення і трываласць яе асноў. Перад Аляксандрам Твардоўскім на ўсіх яго творчых этапах стаяла гэтая нялёгкая, вялікая, пад сілу яго таленту, задача, вырашэнню якой ён аддаў усе сілы сваёй апанаванай, паэтычна-гарачай натуры. Калі гаварыць пра пафас творчасці Твардоўскага, дык ён менавіта ў гэтым. Новая зямля — гэта не толькі заводы і палі, што сталі народнай уласнасцю, гэта — новы грамадскі лад, што паклаў пачатак сацыялістычным пераўтварэнням свету, вялікім здзяйсненням сучаснасці. Першае з іх — Кастрычніцкая рэвалюцыя. Другое — вялікі пералом, які пераараў векавыя межы ўласнасці. І, роўнае ім, паўстае трэцяе здзяйсненне, трэці подзвіг нашай Радзімы — перамога ў часы Вялікай Айчыннай вайны.

Усе гэтыя этапы ў жыцці савецкага народа ў большай ці меншай меры былі адлюстраваны паэзіяй Твардоўскага. І калі падзеі Кастрычніка, грамадзянская вайна жылі ў душы паэта як рэха маленства, дык гады «вялікага пералому», як сведчыць паэт, склалі для яго «самую вострую цікавасць і задачу жыцця. Гэта рэвалюцыя ў

сельскай гаспадарцы, ва ўсім жыццёвым укладзе мільёнаў з'явілася для мяне прыкладна тым, чым для старэйшага пакалення нашых людзей Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя і грамадзянская вайна».

І далей у артыкуле «Аб «Краіне Муравіі» Твардоўскі сведчыць: «Усё напісанае і надрукаванае ў гэтыя гады, а таксама мае рабочыя занатоўкі і незапісаныя ўражанні паездак, сустрэч і г. д.— усё гэта было як бы падрыхтоўкай да «Краіны Муравіі».

Як вядома, сюжэт «Краіны Муравіі» падказаны быў А. А. Фадзеевым. Аднак справа, вядома, не ў гэтай падказцы і парадзе, што адрасаваны былі ўсім савецкім пісьменнікам. Сюжэт, на які звярнуў увагу А. А. Фадзееў, нягледзячы на сваю нязвычнасць, казачнасць, а магчыма, менавіта дзякуючы ім, таіў у сабе вялікія паэтычныя магчымасці. На першы погляд здаецца неверагодным, нават непраўдападобным тое, што селянін Моргунок пакідае бацькоўскі край, родную хату, жонку і едзе шукаць бескалгасную краіну Муравію. Невыпадкова і аўтар не з першых радкоў знаёміць чытача з мэтай гэтага незвычайнага падарожжа героя. Сваё знаёмства ён пачынае з дарогі, па якой едзе Моргунок. Вось герой махае рукой, развітваючыся з роднымі мясцінамі. Вось з'яўляецца ў сяле, дзе хрысціўся трыццаць восем гадоў назад, і выпадкова трапляе на памінкі «душ усопших, что пошли на Соловки». Нарэшце Мікіта заязджае да сваяка, з якім сябраваў з маладосці, з тых часоў «як узялі замуж дзвюх сясцёр». Але і сюды, як высветлілася, Моргунок заехаў для таго, каб пераначаваць і развітацца з даўнім сябрам.

І толькі тады, калі чытач парадніўся з героем, пачаў жыць аднымі з ім інтарэсамі і ўжо гарыць

ад нецярплівасці даведацца, куды той едзе,— аўтар паведамляе:

Ведет дорога длинная
Туда, где быть должна
Муравия, старинная
Муравская страна.
И в стороне далекой той —
Знал точно Моргунок —
Стоит на горочке крутой,
Как кустик, хуторок.
Земля в длину и в ширину —
Кругом своя.
Посеешь бубочку одну,
И та — твоя.

«Паэтычная думка,— пісаў у артыкуле пра Лермантава В. Р. Бялінскі,— можа іншы раз нарадзіцца з прычыны якіх-небудзь тых абставін, з якіх складаецца наша жыццё, але часцей за ўсё і амаль заўсёды яна ёсць не што іншае, як выпадак рэальнасці ў магчымасці, і таму ў паэзіі няма месца пытанню «ці было гэта?», але яна заўсёды павінна станоўча адказваць на пытанне: «ці магчыма гэта, ці можа гэта быць у сапраўднасці?» Самі абставіны могуць толькі, так сказаць, наштурхнуць паэта на паэтычную ідэю і, выказаныя ім у вершы, з'яўляюцца ўжо зусім другім, новым і небывалым, але такім, што можа быць». Таму нас не павінна цікавіць, ці быў у сапраўднасці выпадак, што пакладзены ў аснову сюжэта «Краіны Муравіі». І нават пытанне, ці мог быць у сапраўднасці такі выпадак, тут не мае істотнага значэння. Хай не было і нават не магло быць у рэальнасці падарожжа, падобнага на маргункоўскае. Не ў гэтым сутнасць, а ў тым, што такое падарожжа ў гады «вялікага пералому» рабілі мільёны сялян перад тым, як развітацца з дробнаўласніцкім укладам

жыцця. Яны рабілі яго ў сценах свае хаты і ў межах двара, у пакутных думках аб заўтрашнім дні. Хіба толькі адзін Маргунок марыў, каб і яго хутарок пакуль што... пакінуць?

И объявить: мол, так и так,—
Чтоб зря не обижали,—
Оставлен, мол, такой чудак
Один во всей державе...

Падобнымі марамі і думкамі сусед дзяліўся з суседам, сваяк ехаў з імі да сваяка, і гэта было пачаткам падарожжа ў Краіну Муравію, з той толькі розніцай, што, наведаўшы сваяка, Маргунок не адразу вяртаецца дадому, а едзе далей, мяркуючы, што не ўвесь белы свет, які ў акне. Едзе, каб у віры новых сустрэч і падзей знайсці адказ на галоўнае для яго пытанне: рашацца альбо не? Адказ на пытанне прыходзіць не адразу. Нялёгка Маргунку развітацца з мінулым, бо яно — у ім самім, у кані і калёсах, ва ўсім, што належыць яму, яго ўвасабляе і поп-адыходнік, якога сустракае Мікіта Маргунок на сваім шляху, і раскулачаны Ілья Кузьміч Бугроў, некалі заможны гаспадар, а цяпер уцякач з Салаўкоў. Апошні багамол, што ішоў да святых мясцін, не дайшоўшы да іх, быў збянтэжаны ў дарозе думкаю: бог — ён не тое што не існуе, але не мае ўлады. Штосьці падобнае здарылася і з Маргунком. Для яго Бугроў, пазбаўлены гаспадаркі і прыцягальнай сілы дастатку і багацця, цяпер ужо не той, не былы Ілья Кузьміч. Цяпер ён — уцякач, што вымушаны хавацца пад чужым іменем, бадзяцца з сынам-хлапчуком па свеце, прыкідваючыся сляпым жабраком. І хоць Маргунку не падабаецца такое валацужніцтва, ён не ставіцца да Бугрова варожа. Ён бачыць у ім свайго былога суседа, чалавека, што трапіў у бяду, рады сустрэчы з ім і

частуе яго, чым бог паслаў. На прыязнасць Бугроў адказвае яму злом: крадзе каня. Баючыся, што гаспадар можа прачнуцца, Бугроў уцякае, пакінуўшы Маргунку свайго малога сына. Бацька, які пакінуў сына, сусед, які ўкраў у суседа каня, гэта для Маргунка крайняя ступень страты чалавечай годнасці. А некалі ж ён цешыў сябе надзеяй быць падобным на Бугрова, марыў быць яго сябрам, лічыў за гонар сядзець за адным з ім сталом, спяваць песні і, падхапіўшы суседа пад руку, як роўны роўнаму, паказваць яму сваю гаспадарку. Маргунок збянтэжаны і разгублены. Яму шкада і ўкрадзенага каня, і сябе самога, і былых сваіх мараў. Перад ім — сын Бугрова. Пакінуты і жаласны, ён баіцца, што Маргунок будзе біць яго, помсцячы за ўкрадзенага бацькам каня. Але Маргунок шкадуе і яго:

— Вставай, пострел!
Замерз небось, беглец.
Пока ты спал да сны смотрел,
Сменял тебя отец.
Сменял — и серого коня
С уздечкой получил.
Тебя обидел, а меня
Навеки научил.
Я угощал его, любя,
Считал — в беде сосед...
А ты не бойся: бить тебя
Теперь мне пользы нет.

Моцная, праўдзівая сцэна! Як мала ў ёй слоў, а як многа сказана. Нібы вачамі Маргунка мы бачым і месца каля вогнішча, дзе спаў уначы сусед, і акуркі ў траве... Гэтыя маўклівыя сведкі пакутлівага роздуму Ільі Бугрова гавораць аб тым, што не адразу адважыўся ён на ганебны ўчынак. Усё гэта бачыць Маргунок, і мы без слоў разумеем, што і ў яго жыцці таксама адбылося нешта важнае, паваротнае. Запаветнай мары нанесены жорсткі ўдар. Нешта абарвалася ў яго душы і адышло разам з гэ-

тай ноччу. Аднак ён яшчэ не адмаўляецца ад пачатага падарожжа.

Маргунок сустракаецца з людзьмі калектыўнай працы, сам удзельнічае ў малацьбе, гуляе на вяселлі. Новая ява паступова акараняецца ў яго сэрцы. І хай у канцы падарожжа ён яшчэ не пасяленец на абноўленай зямлі, аднак ён ужо і не той былы Мікіта з яго, здавалася б, непераадольнай марай аб непарушнасці хутарскога двара і дабрабыту.

«Краіна Муравія» — твор глыбока наватарскі. Ён адкрыў чарговую старонку ў развіцці савецкай паэзіі. Ды інакш і быць не магло. Надышоў час пяцігодак, ажыццяўлення галоўнай мэты Кастрычніцкай рэвалюцыі — пабудовы сацыялізма. Індустрыялізацыя краіны, рэвалюцыйныя змены ў сельскай гаспадарцы, у жыццёвым укладзе сялянства патрабавалі іншых, новых формаў паэтычнага выяўлення. Змест, які несла жыццё, не ўкладваўся ў верш, пазбаўлены рытмічнай дысцыпліны, характэрны для паэзіі тых часоў. Але і не толькі ў гэтым справа. Калі для стварэння, скажам, рамантычных вобразаў у «Думе пра Апанаса» Э. Багрыцкага даволі было ведаў, узятых з кніг, з расказаў жывых людзей альбо нават уласных назіранняў, дык для паэмы аб калектывізацыі такіх ведаў было б мала. Мала сустракаць ці ведаць людзей, падобных да Маргунка, Бугрова, Фралова, а абавязкова трэба ўяўляць да найменшых падрабязнасцяў іх быт, псіхалогію, бо паэма пра калектывізацыю — твор пра рэвалюцыю ў свядомасці мільёнаў. Наватарскую сутнасць «Краіны Муравіі», прастату і ёмістасць яе формы вызначыла якасна іншае веданне жыццёвага матэрыялу, настойлівая патрэба выказаць усё, што адбывалася ў вёсцы ў гады «вялікага пералому» і што складала самую вострую цікавасць і задачу жыцця пісьменніка.

З’яўленне «Краіны Мурaвіі» зрабіла на нас, першых яе чытачоў, ашаламляльнае ўражанне. За кожным радком мы пазнавалі навакольнае жыццё, здзіўляліся мноству дэталяў новай савецкай рэчаіснасці, што прыкмечаны паэтам. І хоць у кожнага з нас выйшла з друку не адна кніжка вершаў, мы зразумелі, што, па сутнасці, намі яшчэ нічога не створана. Мы — маладыя тады паэты — па-добраму зайздросцілі Твардоўскаму і радаваліся, зразумеўшы, якой павінна быць паэзія. Зайздроснай навізной бачанага і перажытага і дагэтуль дыхаюць старонкі «Краіны Мурaвіі». Тут і трактар, які водзіць за сабой натоўп, як карагод, і дзяды-сейбіты на калгаснай раллі.

Молитву, речь ли говорят
У поднятой земли,
И вот, откинувшись назад,
Пошли, пошли, пошли...

Тут і малады трактарыст, што вывучыў на курсах чатыры такты:

Лезет парень под машину,
Об дорогу чешет спину,
Рукавом стирает пот,
В кепку болтики кладет.

Тут і поп-адыходнік Мітрафан, што страціў прыход і займаецца, так сказаць, прыватнай практыкай: служыць абедню на гумне, хрысціць дзяцей і вянчае маладых, беручы плату яйкамі і прадзнямі. Тут і сустрэчы Маргунка з цыганамі-калгаснікамі, начным вартаўніком, старшынёй арцелі Фраловым. Што ні раздзел — адкрыццё, якое прыемна здзіўляла і радавала навізною і свежасцю праўдзіва выхапленых з жыцця прыкмет часу. Узнікала такое пачуццё, нібы ўсё апісанае ў паэме

даўно знаёмае і любімае, што жыццё, якое існуе ў ёй, нарадзілася не ўчора, а з давён-даўно ўсталявана на зямлі. Вядома, і да «Краіны Муравіі» прыкметы новага часу з'яўляліся ў паэзіі аб савецкай вёсцы, раскіданыя, як зерні, па вершах паэтаў. Гэтыя знаходкі былі дарагія чытачу і прыкмячаліся крытыкай. Але ў Твардоўскага гэтых зярнят было, як кажуць, поўныя засекі, было столькі, што чытач пакінуў ужо прыкмячаць іх, цалкам захоплены плынню паэтычнага апавядання, якое складалася не з удала схопленых паэтам прыватных момантаў сучаснага жыцця, а выказвала само жыццё, шматграннае, паўнакроўнае. Нібы вопыт многіх паэтаў зліўся ў гэтай цудоўнай рэчы, дзе паэзія на ўвесь голас загаварыла пра з'явы, дагэтуль ёй невядомыя, мовай натуральнай, да канца праўдзівай.

«Краінай Муравіяй» Твардоўскі ў вялікай меры вычарпаў тэму калектывізацыі: прайшло больш за трыццаць гадоў з таго часу, часу напісання паэмы, а пра гэты этапны перыяд нашага жыцця ў савецкай паэзіі нічога больш значнага не з'явілася. Кожны раз, калі я перачытваю старонкі гэтага твора, мной авалодвае дарагое, знаёмае па першым чытанні пачуццё роднага, абжытага кутка. Так адчувае сябе чалавек у полі, у лесе, дзе з маленства знаёмы яму кожны куст, кожная сцяжынка.

З «Краінай Муравіяй» сумежнічае наступная работа А. Твардоўскага — кніга вершаў «Сельская хроніка».

Наўрад ці можна дадаць што-небудзь новае да напісанага пра гэтую кнігу. Хачу сказаць толькі некалькі слоў аб крытычных заўвагах адносна таго, што нібыта ў «Сельскай хроніцы» адлюстраваны адзін бок даваеннага жыцця калгаснага — святочны. Я не схільны лічыць такія заўвагі істотны-

мі, а тым больш папракаць аўтара ў святочнасці. Тут справа хутчэй у гарачай захопленасці яго светам працоўнай садружнасці, новай і небывалай у гісторыі сяла, а таму такой дарагой і прасветленай.

Паэзія натхнёнай працы, кахання, сяброўства сама па сабе рэч не новая, бо і праца, і каханне, і сяброўства — спрадвечны скарб людзей. Заўсёды чалавек імкнуўся да поўнай раскаванасці пачуццяў, якія прыніжаліся, калечыліся ўмовамі рабскай залежнасці, дробнаўласніцкай абмежаванасці. Вершы «Сельскай хронікі» прысвечаны новым узаемадачыненням людзей сацыялістычнага грамадства, іх працы, сяброўству, каханню. Яны з неаслабнай цікавасцю чытаюцца і цяпер, бо ў іх жыве высакародная чалавечая мара, перакананасць паэта ў перавазе разняволенага свету над светам эксплуатацыі і прыніжэння чалавечай годнасці. Мінулае не забылася. Горкім водгукам жыве яно ў душах людзей. Якое гэта непазбыўнае гора, калі, падначаленая волі бацькоў, дзяўчына ахвяруе сваім каханнем? Што можа быць страшней за гэта?

Голос мой девичий в доме утих.
Вывел меня на крылечко жених.

Пыль завилась, зазвенел бубенец,
Бабы запели — жизни конец...

Немаладыя ўжо людзі, якія кахалі адзін другога ў маладосці і якіх разлучылі бацькі, сядзяць над рэчкай. З болем успамінае яна абставіны свайго шлюбу, свайго скалечанага жыцця:

Поздно о том говорить, горевать.
Батьке бы с маткой заранее знать.

Знать бы, что жизнь повернется не так,
Знать бы, чем станет пастух да батрак.

Вот посидим, помолчим над рекой,
Будто мы — парень да девка с тобой.

Камушки моет вода под мостом,
Вслух говорит соловей за кустом.

Белые звезды мигают в реке,
Вальсы играет гармонь вдалеке...

Тут кожнае слова хапае за душу, поўнае значэння і выказанага і не выказанага. У вершы ўсяго трыццаць радкоў, а зместу яго хапіла б, бадай, на цэлую аповесць.

А вось і яшчэ адзін хрэстаматыйны верш — «Івушка». Мінулае і сённяшняе суседнічаюць у ім. Мінулае — стары пячнік Івушка, сённяшняе — яго адносіны да працы. Яна ніколі не была Івушку толькі крыніцай заробку. Майстар заўсёды даражыў гонарам і працаваў натхнёна, як гавораць — з душой. Тым і слаўны быў Іва, за тое яго і шанавалі. І хоць памёр ён, людзям усё яшчэ здаецца, што ён не пакінуў іх, а толькі выйшаў за дзверы. Жыццё яго было аддадзена людзям, туга па ім светлая і вечная. Не забыў народ яго прымавак і спраў. І вечнымі помнікамі яму цягнуцца ў неба ранішнія дымкі над вясёлымі дварамі. Праз усё жыццё пранёс пячнік Іва любоў да людзей і натхнёнай працы, і з гэтым ён адышоў.

«Святочнасць» вершаў з кнігі «Сельская хроніка» паняцце вельмі і вельмі недакладнае. Яны, гэтак жа, як і «Краіна Муравія»,— плён глыбокага ведання жыцця народа, яго募 мараў і спадзяванняў.

Пойду в поля — хлеба стеной,
Во ржи не виден верховой.
Гречиха, льны, овсы — по грудь,
Трава — косы не протянуть.
Земля в цвету — и всё по ней,
В домах — светлей, народ — добрей.

Наведаўшы родныя мясціны, паэт сумуе па сябрах, якія гэтак, як і ён, па адным прыязджаюць сюды, бо ўсе яны — занятыя справамі. Знаходзяцца на сваіх пастах. Адышло маленства, мінае маладосць, надыходзіць сталасць з яе справамі і турботамі, з роздумам пра час, пра хуткаплыннасць жыцця, пра безліч людскіх дарог:

Друзья в отцовской стороне,
Не знаю что: не спится мне,
Так зори летние близки,
Так вкрадчиво поют сверчки,
Так пахнут липы от росы,
А в сене тикают часы,
А щели залиты луной,
А за бревенчатой стеной,
Во сне, как много лет назад,
Считает листья старый сад.
Глухой, наощупь, робкий счет —
Все тот, а все-таки не тот...

Лік лісцяў, як лік часу. Свет, любы з маленства, нібы і той самы, і адначасова — не той. Кожная новая сустрэча з ім — як свята. Яна хвалюе не менш, чым хвалюе юнака спатканне з каханай дзяўчынай. А хіба такая любоў варта дакору?

Пасля «Краіны Муравіі», «Сельскай хронікі», Аляксандрам Твардоўскім напісаны «Васіль Цёркін», «Дом ля дарогі», кніга вершаў «Франтавая хроніка», «За даллю — даль», «Цёркін на тым свеце», вершы пасляваенных і апошніх гадоў.

Намерам гэтага выказвання не з'яўляецца разгляд усяго напісанага паэтам. Яго творы, ёмістыя і значныя, патрабуюць асобнага глыбокага даведвання. У гэтым артыкуле я хацеў звярнуць увагу на адну істотную ўласцівасць таленту А. Твардоўскага — абжываць, альбо, гаворачы словамі паэта, «облекать иной памятью» абноўленую зямлю,

уласцівасць, якая шчодра выявілася ва ўсіх яго паэмах і вершах.

Так «Васіль Цёркін» — гэта не толькі своеасаблівае падарожжа па вайне, але і незабыўны летапіс усіх яе этапаў. Занатаваны ў творы і яе першы перыяд — з «катламі» і выхадам з акружэння, і цяжкія пазіцыйныя баі за населены пункт Баркі, і пераможны наступ па дарозе на Берлін. Усё гэта — у яркіх, дакладных фарбах, дэталях, што з'яўляюцца і каштоўным сведчаннем сучасніка, і высокім узорам паэтычнасці.

Правы бераг Дняпра, да якога плывуць нашы байцы, звесіў на ваду кусты:

Подплывай, хватай за гриву,
Словно доброго коня.

Может быть, в иные годы,
Очищая русла рек,
Все, что скрыли эти воды,
Вновь увидит человек.
Обнаружит в илах сонных,
Извлечет из рыбьей мглы,
Как стволы дубов мореных,
Орудийные стволы.

Байцы вярталіся ў вызваленыя войскам родныя сёлы і на месцы былых хат знаходзілі папялішчы:

Вот и взгорье, вот и речка,
Глушь, бурьян солдату в рост,
Да на столбике дощечка,
Мол, деревня Красный Мост.

У дощечки на развилке,
Сняв пилотку, наш солдат
Постоял, как на могилке,
И пора ему назад.

Такія радкі, строфы можна прыводзіць без канца з ваенных і пасляваенных твораў Твардоўскага. І ўсе яны — сведчанне таго, што паэт, натхнёны летапісец сучаснасці, бачыць сваё неспакойнае шчасце ў тым, каб паспець за часам, занатоўваючы буйныя і дробныя рысы яго з упартасцю і любоўю пасяленца, якому дарагі кожны кут зямлі, абароненай ад ворага, выпешчанай марамі, здабытай працай. Чытаючы паэта, мы з кожным новым яго творам адчуваем, як перад намі ўсё шырэй і шырэй рассоўваюцца межы абжытага яго паэзіяй свету, дзе любоў называецца любоўю, сяброўства — сяброўствам, дзе славяцца праца і подзвіг мільёнаў.

Уяўленне пра творчасць А. Твардоўскага, пра пафас і мэтанакіраванасць яе было б не поўным, калі б мы не ўспомнілі аб выдатным цыкле «Памяці Леніна». Нельга без шчырага і глыбокага хвалявання чытаць радкі аб клятве Леніну, якую даў, з гатоўнасцю загінуць за справу Ільіча, трынаццацігадовы чалавек — будучы паэт. Успамінаючы тыя далёкія гады свайго маленства, Твардоўскі піша аб народзе:

Не в горе ль своем молчаливом,
Поникнув тогда головой,
Уже он был полон порывом
На подвиг неслыханный свой.
Порывом на жертвы, на муку,
Что вряд ли под силу иным,
На трудную с прошлым разлуку,
На встречу с грядущим своим.

Адначасова гэта радкі і пра ўласны лёс, пра парыванне, якое называецца паэзіяй і якое заўсёды — подзвіг нечуваны. Уся творчасць найвыдатнага рускага савецкага паэта Аляксандра Твардоўскага з'яўляецца такім подзвігам.

*1970 г.*

# ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІК

У пачатку трыццатых гадоў да нас у Беларусь часта прыязджалі нашы блізкія суседзі — пісьменнікі Смаленшчыны. Разам з А. Твардоўскім, М. Рыленкавым, Д. Осіным наведваў Мінск і іх старэйшы таварыш Міхаіл Ісакоўскі, у тыя часы ўжо вядомы рускі паэт, аўтар цудоўных кніг «Правады ў саломе», «Правінцыя»», «Майстры зямлі».

Помніцца, на адным з літаратурных вечароў я, тады яшчэ зусім зялёны юнак, сядзеў побач з Міхаілам Ісакоўскім, стаіўшы дыханне, баючыся, як кажуць, вымавіць лішняе слова. Як жа быў здзіўлены я, калі раптам Ісакоўскі ціха, быццам сам сабе, прачытаў на памяць радкі з маёй паэмы «Крыўда», пры гэтым правільна і выразна вымаўляючы беларускія словы. Такая незвычайная ўвага да маёй ранняй рэчы, праўдзівая, да асобных яе строф, прагучала, як сяброўская падтрымка старэйшага таварыша. Гэты звычайны літаратурны вечар, напэўна, забыты самім Ісакоўскім, на ўсе гады застаўся ў душы дарагім успамінам. Помню яшчэ адну сустрэчу тых часоў. На гэты раз з маладым Аляксандрам Твардоўскім, які, прачытаўшы ў беларускай газеце ўрывак з новай маёй паэмы, звярнуў маю ўвагу на спрошчанае рашэнне некаторых момантаў. Заўвагі былі з тых падказак, якія патрэбны бываюць маладому паэту на шляху пошукаў і памылак і да якіх мы з прагнасцю прыслухоўваемся ў маладосці. Я не ведаў тады, што Твардоўскі якраз у той час пісаў «Краіну Мура-

вію» і, як старэйшы, па-сутнасці, дзяліўся са мной спелым вопытам, поглядамі, прынцыпамі, якія ўжо леглі ў аснову яго новай, пакарыўшай нас усіх, паэмы.

Гэтыя два эпізоды ўспомніліся мне таму, што яны, кожны па-свойму, сведчаць аб той сапраўднай творчай атмасферы добразычлівасці і патрабавальнасці, якая вызначала нашых смаленскіх гасцей. Душою іх, безумоўна, быў тады Міхаіл Ісакоўскі.

Імя Ісакоўскага, вялікага друга беларускай літаратуры, даўно дарагое для нас. На яго сардэчнай, песеннай паэзіі вучылася не адно пакаленне беларускіх паэтаў. Ён адным з першых пачаў перакладаць на рускую мову беларускія вершы. Для яго ў выбары рэчы для пераклада заўсёды існаваў адзін бясспрэчны аўтарытэт — якасць. Міхаіл Ісакоўскі аднолькава ахвотна перакладаў і верш народнага паэта Янкі Купалы «Алеся» і верш-песню «Бывайце здаровы» маладога паэта Адама Русака. І гэта не выпадкова. І «Алеся» і «Бывайце здаровы» належаць да ліку рэдкіх знаходак, якія адкрываюць сваім з’яўленнем першую старонку ў новай для паэзіі тэме. Сам першаадкрывальнік, Міхаіл Ісакоўскі заўсёды востра адчуваў сучаснасць, па-новаму адлюстраваную ў творах другіх блізкіх яму духоўна паэтаў.

Калі пачынаецца размова аб Ісакоўскім як аб перакладчыку, то я, аўтар многіх перакладзеных ім паэм і вершаў, кожны раз адзначаю не толькі блізкасць яго перакладаў з арыгіналамі, але і надзвычайную натуральнасць і праўдзівасць іх словавыяўлення. Чытаюцца яны лёгка і нязмушана. У тэатры, зачараваныя добрым акторскім выкананнем ролі, мы забываемся на ўмоўнасці сцэны. Нешта падобнае адбываецца з намі, калі мы чытаем пераклады Ісакоўскага, дзе цалкам пераадолены

ўмоўныя рытарычныя фігуры чужой мовы, шчасліва абыдзены падводныя рыфы арыгінала, яго моўныя асаблівасці і ўласцівасці. Я заўсёды буду ўдзячны Міхаілу Ісакоўскаму за тое, што ён, паэт, любімы мною з юнацтва, упершыню пазнаёміў сваімі перакладамі шырокага савецкага чытача з маімі ваеннымі і пасляваеннымі паэмамі і вершамі.

Не толькі тыя, каму пашчасціла быць перакладзенымі Ісакоўскім, высока цэняць яго гэтую паэтычную, сапраўды творчую работу. У «Лясной песні» Лесі Украінкі, у вершах і паэмах Янкі Купалы і ў шмат якіх іншых, перакладзеных ім творах, уважлівы і ўдзячны чытач знойдзе россып паэзіі, іскры сапраўднага наватарства, якіх так многа ў арыгінальных творах паэта.

Адзначаючы сямідзесяцігоддзе Міхаіла Ісакоўскага, мы яшчэ і яшчэ раз перачытваем створанае ім, не пакідаем захапляцца яго працаздольнасцю, прагнай улюбёнасцю ў жыццё, яго вернасцю ідэалам маладосці. І, як многа год назад, нас здзіўляюць свежасцю яго шчырыя, даўгавечныя вершы і песні, якія выйшлі з глыбінь народа і самі сталі неабходнай часткаю яго духоўнага жыцця.

*1970 г.*

## ВЕКАВЕЧНАЕ ДРЭВА ПАЭЗІІ

***Да 150-годдзя з дня нараджэння М. А. Някрасава.***

Някрасаў! Хто ў нашай краіне не ведае гэтага імя?

Яно стаіць побач з імёнамі такіх прызнаных і любімых народам пісьменнікаў, як Пушкін і Лермантаў, Гогаль і Дастаеўскі, Талстой і Горкі. Сучаснікі паэта называлі яго песняром народнага гора, вешчуном дэмакратычнай рэвалюцыі. На зары літаратурнай дзейнасці паэт невыпадкова параўнаў сваю музу з прыгоннай сялянкай:

Вчерашний день, часу в шестом
Зашел я на Сенную,
Там били женщину кнутом,
Крестьянку молодую.
Ни звука из ее груди,
Лишь бич свистал, играя...
И Музе я сказал: «Гляди!
Сестра твоя родная!»

Аднак муза паэта не была пакорлівай, яна заклікала рваць ланцугі пакуты і няволі. Новы змест паэзіі, сардэчная зацікаўленасць лёсам заняволеных людзей патрабавалі новых мастацкіх сродкаў, блізкіх да тых, якімі сам народ выказваў свае пакуты і гора. Гэта правільна, што Някрасаў спалучыў рэалістычныя традыцыі вялікіх папярэднікаў з лепшымі рысамі народна-паэтычнай творчасці і на гэтай аснове стварыў новую, непаўторную паэзію. Нягледзячы на тое, што ён прыйшоў у рускую

літаратуру адразу пасля Пушкіна і Лермантава, ён змог абнавіць змест і форму айчыннай паэзіі. Някрасаў так узбагаціў магчымасці эпічнай паэмы і лірычнага верша, што зробленае ім у поўнай меры акрэслілася і стала зразумелым толькі ў наш час.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая выклікала і паклікала да жыцця дэмакратычныя пласты грамадства, па-сапраўднаму выявіла значэнне творчасці Някрасава, паказала, што веліч і бессмяротнасць яго ваяўнічай музы — у глыбокай сувязі яе з народным жыццём, з яго рухам наперад.

Грамадзянскія традыцыі паэзіі Някрасава пераступілі рубеж свайго часу, адваяваўшы ў нашым стагоддзі новыя плацдармы для наступлення супраць зла і несправядлівасці. Хіба не карысталіся вострай зброяй трапнага, як страла, крылатага, як лозунг, слова Някрасава такія розныя паэты, як Маякоўскі і Блок.

Хіба яго любоў да ёмістай народнай прыказкі, песні, прыпеўкі не пашырылася на паэмы Сяргея Ясеніна, Аляксандра Твардоўскага і на іншыя творы шматнацыянальнай савецкай літаратуры?

Творчасць Някрасава можна параўнаць з векавечным дрэвам, карэнне якога глыбока сядзіць у роднай зямлі, а насенне разнеслася далёка за яе межамі. Плённыя зерні яго дэмакратычных ідэй натхнілі і выклікалі да жыцця народную паэзію Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Коласа. Муза Някрасава жывіла не адно пакаленне брацкіх паэтаў.

З пэўнасцю можна сцвярджаць, што сёння не знойдзеш ні аднаго вядомага савецкага паэта, які не прыпадаў бы да яе. Кола чытачоў Някрасава не

знае меж. Вершы паэта завучваюцца намі з маленства, песні яго даўно сталі народнымі.

Спраўдзіліся словы Чарнышэўскага, якія ён сказаў аб паэце амаль сто гадоў назад: «Я ўпэўнены: яго слава будзе бессмяротнай, вечнай будзе любоў Расіі да яго...»

*1971 г.*

## ЛЕСЯ УКРАІНКА

### *Да стагоддзя з дня нараджэння.*

Было старажытнае паданне: кожны чалавек нараджаецца пад сваёй зоркай. Нібыта яна і вызначае яго лёс. Аднак людзі, што жывуць на зямлі, даўно ўжо шчаслівую альбо нешчаслівую долю сваю звязваюць з іншым. Яны жывуць сярод бурных падзей часу, і не містычныя зоркі, а само жыццё з маленства і да сталага веку падпарадкуе законам свайго развіцця іх інтарэсы, іх дарогі, іх мары.

У год нараджэння Лесі Украінкі адбылася ў свеце векапомная падзея. Упершыню ўзброены пралетарыят захапіў уладу ў свае рукі і назваў яе Парыжская Камуна. Новы рэвалюцыйны клас, аб ролі якога ў развіцці чалавецтва заявілі словамі Маніфеста Маркс і Энгельс, выступіў на арэну гісторыі. З тых дзён свабода, братэрства, роўнасць набылі новы сэнс для пакаленняў перадавых людзей канца дзевятнаццатага — пачатку дваццатага стагоддзяў. Чырвоны сцяг, узняты над барыкадамі Парыжа, стаў той зямной зоркай, што клікала ў заўтрашні дзень. Пад знакам чырвонага сцяга нарадзілася, узрасло і ўзмужнела вялікае пакаленне рускіх рэвалюцыянераў-марксістаў. Узначаленае Леніным, узброенае яго думкай, яно пранесла праз цяжкі, пакутны час і давяло да перамогі справу першых камунараў.

Натхнёныя ідэямі рэвалюцыйнага пераўтварэння свету, з’явіліся ў Расіі пісьменнікі новага кірун-

ку, што і палымянай творчасцю і грамадскай дзейнасцю былі звязаны з Расійскай сацыял-дэмакратычнай партыяй. Да ліку іх належала і Леся Украінка. Такім чынам, парушаючы традыцыйны нябесны каталаг, можна паэтычную радаслоўную вялікай пісьменніцы адшукаць на зямлі.

Паэтэса, як вядома, не толькі чытала творы Маркса, але і перакладала на ўкраінскую мову папулярную марксісцкую літаратуру. Сама пісала артыкулы, у якіх прапагандавала ідэі Камуністычнага Маніфеста. Але прыналежнасць Лесі Украінкі да марксізма не толькі ў гэтым. Яна глыбейшая, засведчаная яркімі старонкамі біяграфіі, інтымным жыццём пісьменніцы, звязаным, у прыватнасці, з Мінскам. Тут яна страціла свайго сардэчнага друга, аднаго з першых рускіх рэвалюцыянераў-марксістаў — Мержынскага. Не адну бяссонную ноч правяла яна над ложкам дарагога ёй, смяротна хворага, чалавека. У адну з такіх начэй яна напісала трагічную і адначасова глыбока лірычную паэму «Апанаваная». У гэтым творы гераіня Мірыям горача спрачаецца з Хрыстом, адмаўляючы прапаведзь уседаравання. Мірыям называе сябе «апанаванай духам». Словамі любімай гераіні пісьменніца вызначае сваё прызванне. Яе паэзія, яе дзейнасць сведчаць аб узнёслай апанаванасці ідэямі рэвалюцыі, што нясе людзям вызваленне ад рабства сацыяльнага і духоўнага. Такая апанаванасць рабіла пісьменніцу чалавекам шырокіх поглядаў, пазбаўленым нацыянальнай абмежаванасці, інтэрнацыяналісткай, з марай, накіраванай у будучыню, з творчасцю, адрасаванай наступным пакаленням.

Творы яе хвалююць і доўга будуць хваляваць чытача паэтычнасцю і светлымі глыбокімі думкамі.

*1971 г.*

# КРЫНІЦЫ ДРУЖБЫ

Андрэя Малышку я знаю вельмі даўно, яшчэ з трыццатых гадоў. Растлумачу: знаю як паэта. За творчасцю маладога ўкраінскага паэта я сачыў тады дужа ўважліва. Вершы Андрэя Малышкі падабаліся мне, у іх чуўся свежы, самабытны голас чалавека, вельмі блізкага да народнай песні і народнага жыцця. Голас паэта вабіў сваёй рамантычнаю ўзнёсласцю, што спалучалася з непасрэднасцю юнацкага пачуцця, патрыятызмам маладога савецкага пакалення, да якога належаў і я. Мне здавалася тады, што Андрэй Малышка не толькі любіць народныя песні, але і добра спявае іх.

І я ў тым пераканаўся, калі ў часы Айчыннай вайны пазнаёміўся з Андрэем у Маскве.

З тых дзён і пачалася наша дружба. У Маскве я сустракаўся з Андрэем часта. Ён тады чытаў мне і Аляксандру Трыфанавічу Твардоўскаму свае новыя вершы. А. Т. Твардоўскі звычайна чытаў нам новыя раздзелы з «Васіля Цёркіна». Я не памылюся, калі скажу, што ў той час мы з Андрэем былі бадай першымі слухачамі яго кнігі пра байца. Гэта сапраўды былі незабыўныя сяброўскія і творчыя сустрэчы. Сустракаліся мы і ў Андрэя, і ў мяне, і на кватэры Аляксандра Твардоўскага, дзе нярэдкім госцем быў Аляксандр Фадзееў. Таварыскія вечары звычайна заканчваліся песняю. Спяваліся рускія, украінскія ды беларускія песні. А як даўно вядома, песня яднае і збліжае людзей. Пад уражаннем песні, якую спяваў тады Андрэй (а спяваў ён

на самай справе цудоўна, так, як спяваюць у сёлах і вёсках, падкрэсліваючы голасам істотныя словы і вобразы), я напісаў пазней баладу «Маці». Песня гэтая пачыналася, калі не здраджвае памяць, такімі словамі:

Ой, вазьмі, маці, жыта жменю,
Ды й пасей яго на каменю...

Наша дружба з Андрэем Малышкам не парывалася да апошніх дзён яго жыцця. Мне расказвалі ўкраінскія таварышы, што на тым самым ложку, з якога прыняла яго зямля, ён да астатняй хвіліны не пакідаў перакладаць творы беларускіх паэтаў для анталогіі беларускай паэзіі. У гэтым выявілася цудоўная рыса Малышкі: яго самаахвярнае служэнне паэтычнаму слову, глыбокае разуменне той высокай ролі, якую адыгрывае яно ў справе братэрства і дружбы паміж народамі. На маім стале ляжыць ліст, прысланы Л. Забаштаю, паэтэсаю і жонкай Малышкі. Гэта пераклад майго верша «Сасна і бяроза», над якім ён працаваў у бальніцы... Нечаканая вестка пра яго смерць гарыць у сэрцы балючай ранай. Савецкая паэзія страціла выдатнага паэта, а я асабіста — друга. Колькі яшчэ мог ён стварыць выдатнага, непаўторнага!

Я з вялікім задавальненнем перакладаў на беларускую мову кніжку яго выбранай лірыкі. Вершы Андрэя Малышкі захаплялі, хацелася перадаць сваёю моваю ўсе адценні яго вобразаў, энергію верша. Яны выклікалі стан творчага ўздыму, прыносілі радасць натхнення і абуджалі жаданне і сілу для пераадолення нялёгкага для перакладу тэксту. Затое якое было задавальненне, калі ўсё, што здавалася спачатку амаль немагчымым для перадачы іншаю моваю, пачынала гучаць па-беларуску з выразнасцю, блізкай да арыгінала. Калі Андрэй

Малышка атрымаў сваю кнігу, выдадзеную ў Мінску ў маіх перакладах, ён паслаў мне цёплы сяброўскі водгук. І мне прыемна было, што пераклады яму спадабаліся і што наша дружба стала яшчэ глыбейшай і раднейшай.

Як вядома, перакладаў мае вершы і Андрэй Малышка. Пра такую творчую ўзаемасувязь добра сказаў Андрэй. Дружба была для яго справаю творчай блізкасці: а сябры-паэты — сябрамі яго музы:

Я іх думамі жыў,
і сябры маіх дум не міналі,
Я з крыніцы іх ніў,
і яны да маёй прыпадалі.

І я шчаслівы, што прыпадаў да чыстай, народнай крыніцы выдатнага, самабытнага паэта, майго друга — Андрэя Малышкі.

*1972 г.*

# СЛОВА ПРА ТАВАРЫША

У кнізе вершаў Міколы Нагнібеды «На полі бітвы» ёсць верш «Успаміны пра Малееўку». Ён нагадаў і мне дні юнацтва, першую сустрэчу, а пасля шматгадовае сяброўства маё з Міколай Нагнібедай.

З тых дзён прайшло нямала часу, страшна падумаць, што ў гэты адцінак укладаецца ўсё жыццё такіх волатаў слова, як Лермантаў, Пушкін, Максім Багдановіч. Мне і майму сябру час пасерабрыў скроні, больш чым паўвека за маёй спіной, а за спіной Міколы — шэсцьдзесят. Хочаш ці не хочаш, а само ўзнікае пытанне: як служыла і служыць людзям і нашаму веку прызванне, выбранае намі на парозе юнацтва?

Перада мною апошняя кніга Міколы Нагнібеды, якую я чытаў з прыемнасцю і радасцю за здабыткі таварыша. Недарэчы, бясспрэчна, нам раўняцца на вялікія імёны; тут гаспадыні-славе, не трацячы сваёй годнасці, можна было б адказаць вядомымі словамі Аляксандра Твардоўскага — «што мне ордэн, я згодны на медалі». Аднак чытаю вершы таварыша і, узрушаны, лаўлю сябе на жаданні яшчэ і яшчэ раз перачытаць іх.

Мов лелеки до гнизд,
Літаки вечорові
Пролитають в останньому промені дня,
І полошаться птиці в дніпровський діброві,
Літаків вечорових крилата рідня.
Пролітають,

Сурмлять наді мною, сріблясті,
З дальні рейсів
Вертають у рідні порти,
На іх крилах радіють в единому щасті
Дух мандрівок далекіх і дух высоти.
Як ви схожі на серце мое, що рушае
Досвіт в мандри вабливі
На крилах стремлінь...
Чи воно вантажів, пасажирів не мае?!
Чи воно не закохане у височінь?!
Чи воно застраховане від небезпеки?!

Вершамі, вартымі высокай ацэнкі, сустракае сваё шасцідзесяцігоддзе Мікола Нагнібеда. Хіба не сапраўднае шчасце паэта — у сталыя гады пісаць творы, у якіх спалучаецца свежасць вобразнага мышлення з глыбокай думкай і маладым пачуццём, пафас публіцыста з сардэчнай лірыкай? У вершах Міколы Нагнібеды многа трапных дэталяў і параўнанняў, якія ўражваюць сваёй дакладнасцю і нечаканасцю. Горад Станіслаў — прыкуты да прычала сотняй якароў, уяўляецца пад штормамі грымотнымі бартамі карабля, дзе сцежкі стромкіх берагоў, нібы канаты, звісаюць за барты. Кветкі ўсеялі магілы загінуўшых воінаў і здаюцца іх душамі: «там, де тюльпани — капитани, а де фіалки — рядові». Як жывая, стаіць перад вачыма хата, якую збудаваў на беразе рыбак: «два віконця на схід сонця, два — до синіх хвиль, з очерету золотавий на хатині бриль». Яркім снапком прамення па-сталаму лаканічна і мудра акрэслівае паэтычнае слова далёкае маленства, дзе бацька вечарамі каля парожніх казанкоў дзяліў будучыню паміж дачкой і сынам.

Гэтая шчаслівая ўласцівасць жыла ў вершах Міколы Нагнібеды даўно:

Снапы, нібы асілкі,
Паснулі на палях,

Далёкіх сёл сузор'і
Нанізаны на шлях.

Я прывёў тут радкі з балады «Зярно». У свой час твор гэты я пераклаў на беларускую мову і зноў прыгадаў не выпадкова. І вось чаму. Бывае і так, што нават асобныя вершы робяцца значнаю з'яваю паэзіі на працягу не некалькіх год, а на ўсё іх існаванне. Успомнім «Грэнаду» М. Святлова, вершы Янкі Купалы «Лён», «Алеся», «Як у госці сын прыехаў...», вядомую песню «Бывайце здаровы», напісаную як верш Адамам Русаком перад Айчыннай вайной. Прыгаданыя вершы жывуць і да нашых дзён, і каштоўнасць іх у тым, што яны пракладалі ў свой час новыя, яшчэ не ходжаныя сцежкі ў рэчаіснасць. Пракладалі свежа і таленавіта. Я лічыў заўсёды, што балада «Зярно» адносіцца менавіта да ліку такіх твораў. Яна, на маю думку, з'явілася і для самога Міколы Нагнібеды той знаходкай, тым шчаслівым зернем, якія ў далейшым памножылі яго здабыткі і ўскаласіліся багатым ураджайным плёнам, які можна з поўным правам далучыць да дасягненняў савецкай паэзіі.

Як сцверджанне гэтага — вершы паэта, якія я чытаю са здавальненнем і радасцю: «Хліб чесно вчіться здобувати», «Немае щастя вічного, немае», «Я — спадкаемець», «Пломеніють троянди», «Я думав про Вас...», «Херсонським ткалям», «Мов лелеки до гнізд», «Прощався з літом я», «Де моя память ночує», «Верни мені прожите марно», «Севастополю», «Зустріч у Горках», «Благославенна праця хлібодара», «Чорноморець», «Що б не сталося», «Де Буг з Дніпром зливаються», «Чекають рибачки на кручі», «Над колискою», «Як що я забуду твоі заповіти», «Частіше стало снитися мені» і многія, многія іншыя.

Спіс можна было б значна пашырыць. Але спра-

ва не ў спісе, а ў тым, што аб кожным з названых і неназваных твораў справядлівасць патрабуе пісаць і больш паўней і больш глыбей. Творчасць Міколы Нагнібеды варта сур'ёзнага крытычнага разгляду, а мой кароткі сяброўскі водгук на шасцідзесяцігоддзе таварыша не ставіць сабе гэтай мэты.

Кладу й свае я зерно для загалу —
Все, що зробив я доброго в житті...
І все ж мені здається:
Мало! Мало!..
Хай більше важать крихти золоті!

Створанае Міколай Нагнібедай, бясспрэчна, важыць больш таго, што сказана тут. Хай за гэта прабачаць мне і паэт, і яго цудоўная паэзія, і яе чытач. Мне ж хочацца напаследак далучыць да сяброўскіх пажаданняў і мае: жыві, дарагі Мікола, доўга, працуй і ствapaй з тым жа маладым натхненнем і гарэннем, з той жа глыбінёй думкі, якіх ты дасяг!

*1970 г.*

# ПРАДМОВА ДА «КНІГІ ЗЯМЛІ»

«Кніга зямлі» — так называецца новая кніга паэзіі выдатнага савецкага паэта-лірыка Кайсына Куліева. Прапануючы ўвазе беларускага чытача выбраныя вершы паэта, я не выпадкова аб'яднаў іх гэтай назвай. Яна, як не трэба лепш, стасуецца да ўсяго, што створана паэтам за ўсе гады яго плённай творчай работы. Гэта менавіта кніга народжаная зямлёй, любоўю людзей да жыцця, да прыроды, да міру, кніга, на старонках якой людзі чытаюць свой мінулы і свой будучы лёс. Сілай любві да людзей, да здабыткаў іх працы і барацьбы за шчасце, прагне паэт зразумець гэтую, бясконцую ў часе, непаўторную ў красе,— кнігу жыцця, кнігу зямлі.

Зброяй праўды і справядлівасці, накіраванай супроць зла і гвалту, бачыцца паэту яго слова:

Гэтак, як з ножан клінок дастаецца,
Так верш свой я з сэрца ўвесь час вырываў.

Дабро і зло, праўда і мана для Куліева не адцягненыя разуменні. Як дарагі ўспамін дзяцінства, захаваўся ў яго памяці святочны дзень, калі разам з дарослымі ён спяваў «Інтэрнацыянал» у глухім горскім ауле. Палымяную праўду сусветнага гімна пранёс пясняр праз гады Вялікай Айчыннай вайны, абараняючы Савецкую Радзіму ад чужаземных захопнікаў. Каб стаяць перашкодай на шляху вайны, змагацца за векавую мару працоўнага чалавека аб свабодзе, ён гатоў быць яе салдатам у

любым кутку планеты, а калі давядзецца загінуць, дык і памерці за справядлівую справу, бо — «твар мужнасці ясны, чужыны не ведае подзвіг святы». Гэтыя словы для Куліева — не гучныя фразы, а зброя, выхапленая з сэрца.

Не выпадкова яны пераклікаюцца з вядомымі радкамі лермантаўскага «Паэта». І не таму, што Лермантаў, пясняр Каўказа, жыў у выгнанні і загінуў недалёка ад мясцін, дзе нарадзіўся балкарскі паэт. Для Куліева Лермантаў — тая вяршыня паэзіі, каля якой і дыхаецца вальней і пішацца больш адкрыта. Бясспрэчным з'яўляецца ўплыў Лермантава на творчасць Кайсына Куліева. Уплыў гэты і арганічны і плённы, а ў яго аснове — не падробка і перайманне, а духоўная блізкасць і роднасць. Там, дзе Куліеў пераклікаецца з Лермантавым, ён не паўтарае вядомых матываў, а працягвае іх. Яны для яго — штуршок да зусім новага, нечаканага і заўсёды сучаснага павароту думкі:

Спаў я ў траве аднойчы каля жыта,
І незвычайны сон прысніўся мне.
Цудоўны сніўся сон, я сніў, нібыта
Былі ўсе беды свету толькі ў сне.

Паэтычная думка, вобраз не бясплодны. Накшталт вандроўных сюжэтаў, яны пераходзяць з веку ў век, з пакалення ў пакаленне і, узбагачаныя вопытам іншага жыцця, нараджаюць новыя думкі і вобразы. Прыкладам гэтаму можа быць верш Куліева з некалькі незвычайнай назвай — «Божы меч». Гэта верш пра вясёлку. А назва яго ідзе ад таго, што вясёлка, па-балкарску «цейры-кылыч», літаральна і азначае: «божы меч». Зачараваны сяміфарбным і шматпавярховым паўкружжам, якое ўвабрала ў сябе ўсе колеры прыроды, паэт усклікае:

Што за цуд — лязо над нівай роснаю! —
Нічыіх галоў не зносіць з плеч.
Пахавайце, людзі, зброю грозную
І пакіньце толькі гэты меч!

Улюбёны ў жыццё і зямлю, край адзення якой ён цалаваў, як сцяг, у дні векапомных выпрабаванняў і бед народных, паэт палымяна жадае, каб і яго паэзія была падобна на вясёлку. І яна родная ёй. Лірыка Кайсына Куліева здзіўляе і радуе, нясе светлую надзею і веру. Сапраўды, яна і грозны для ворага клінок, і мірны меч, зазубіны якога добрыя, лязо якога не загубіла ні адной травінкі.

Песеннаму слову, па прызнанню Кайсына Куліева, яго вучыла прырода горнага краю, людзі роднага аула. Вучачыся ў неба, ён палюбіў шматфарбнасць вясёлкі і зразумеў мову дажджу. Усё жыццё ён жыве марай пераняць шчодрасць — у хлеба, упартасць — у снега і рэчкі, якая знаходзіць шлях праз скалы, не шкадуючы сябе. Філосафы горскіх паселішчаў вучылі яго не толькі майстэрству пляцення плятня, але і разуменню складаных з'яў жыцця. Седзячы на камені, як горскія старажылы, ён навучыўся маўкліва размаўляць з гарой і ракой. Гэта ад настаўнікаў сваіх, мудрых аднасяльчан, даведаўся мастак, што, у неадпаведнасці з агульназразумелай думкай, гарыць не агонь, а дровы, якія ахвяруюць сабою, каб сагрэць хатні ачаг, што камяні не маўчаць, калі з імі параўноўваюць сэрцы, у якіх — зло, і што ім балюча чуць, калі людзі вучацца ў іх пакорлівасці. Гэтая здзіўляючая еднасць з прыродай, уменне весці з ёй сардэчную размову і гаварыць ад яе імя аб тым, што хвалюе сучаснікаў, з'яўляецца адной з моцных і адметных рыс вялікага, самабытнага таленту Кайсына Куліева. Слова яго па-народнаму мудрае і

афарыстычнае, метафары і параўнанні заўсёды нечаканыя, пачуцці глыбокія.

Героі кніг Куліева — не наезнікі, якія гарцуюць на вытрэніраваных скакунах і бразгацяць гучнымі даспехамі, не магі, што здзіўляюць цудамі свет, а простыя працавітыя людзі: аратыя, малатабойцы, каменачосы, калгасныя чабаны — настаўнікі паэта, спадарожнікі, якія пракладваюць цяжкую, але надзейную дарогу да шчасця. Беручы з іх прыклад, у безупыннай рабоце і барацьбе бачыць паэт сваё прызванне:

Сябе не шкадаваць,
Ісці, хоць снег па грудзі,
Ісці і не крычаць
Аб гэтым, як аб цудзе,—
Вось што такое паэзія!

Ведаючы, як нялёгка вырошчваецца злак і куецца жалеза, паэт і да сваёй работы не ставіцца, як да лёгкага занятку. Гэтая тэма хвалюе яго, аб ёй размаўляе ён з сабратамі па пяру не дзеля святочнай гаворкі за сталом, а каб вызначыць і сцвердзіць свае непарушныя прынцыпы. Галоўны з іх: сумленна ставіцца да работы, не пераймаць чужой вядомасці і не квапіцца на чужы п'едэстал, а калі ўжо зайздросціць, дык — «скромнасці рэк малых і безназоўных скал». Заява гэта знаменальна не тым, што ганьбуе марную мітусню, а тым, што сцвярджае павагу да простых і скромных працаўнікоў зямлі. І я не памыліўся, назваўшы іх героямі лірыкі Куліева. Яны з дзіцячых год сталі часткаю яго сэрца, яго бясцэнным скарбам. Самавыяўляючыся, паэт выказваецца іх моваю, думае іх вобразамі. У паэта з імі агульныя і плуг, і хлеб, і радасць, і гора. Ён не ўмее і не жадае жыць, не пакутуючы за тых, хто загінуў на вайне, за

абцяжараную клопатамі маці, за старую жанчыну, якая адыходзіць з жыцця, за асleплага аднаульчаніна, за глуханямога малатабойца. Яму ўсім хочацца сказаць добрае слова надзеі і ўцехі. Не выпадкова паэт зазначае:

Не стане людзям весялей
Ад паказнога маладзецтва,
Любіць не цяжка ўсіх людзей,
Душой хварэць за чалавецтва,
Суседа палюбіць цяжэй.

Той, хто нікога, акрамя сябе, не любіць, якімі шырокавяшчальнымі не былі б яго запэўненні, не можа па-сапраўднаму любіць чалавецтва. І наадварот. Той, хто душою цягнецца да людзей, дапамагае ім, перажывае іх беды і няўдачы, радуецца іх поспехам, той, можа быць, і сам таго не ўсведамляючы, далучаецца да вялікага пачуцця чалавечай садружнасці і братэрства. Праўдзівая і нечасовая думка. Яна — не вынік паэтычнай фантазіі, а выпакутавана сэрцам, усім вопытам жыцця, бязмежнай адданасцю паэта роднай зямлі і яе людзям.

Шчодры, мужны і добры дар цудоўнага савецкага лірыка Кайсына Куліева, як у гасцінны дом, уводзіць чытача ў кола разнастайных тэм, непадробленых пачуццяў, глыбокіх думак аб жыцці і прызначэнні чалавека, што жыве на зямлі.

*1973 г.*

# ТРАГЕДЫЯ АДАМА КРЭЙЗІ

У рускага паэта М. Ушакова ёсць цудоўны верш пра ластаўку. Паэт, быццам між іншым, мімаходам закранае ў ім цікавую і істотную з'яву — усё больш узрастаючую сувязь сучаснай паэзіі з творчасцю Шэкспіра.

Полетела ласточка к Шекспиру,
Жду, когда вернется от него.

У многіх вершах і паэмах, што напісаны за апошняе дзесяцігоддзе, выразна можна адчуць гэтую сувязь з той паляцеўшай да Шэкспіра ластаўкай. Выклікана гэта, вядома ж, не адважным намерам паэтаў пацягацца ў адзінаборстве з непераўзыдзенымі творамі, а патрабаваннем часу. Надзелены, па выразу Бялінскага, «светаабдымным розумам», Шэкспір з'явіўся перад нашым векам у новай якасці. Мы раптам адкрылі ў ім сябе, убачылі ў яго трагедыях і санетах нешта такое, што было недасягальна для вякоў мінулых. Трагедыі Рамэо і Джульеты, караля Ліра, Гамлета, пераступіўшы сямейныя парогі, выявілі, як ніколі раней, свой сапраўдны, глабальны маштаб і сэнс. Злачынствы герояў Шэкспіра не паменшыліся перад злачынствамі ў Бухенвальдах і Асвенцімах, у Хірасіме і Нагасакі, а толькі паказалі нам іх нечасовую злавесную сутнасць. Адкрыты Шэкспірам свет моцных чалавечых пачуццяў, здольных, у крайнім іх праяўленні, як на высакародныя ўчынкі, так і на ганебнае чорнае зло, зліўся ў нашым уяўленні з

найвялікшымі дасягненнямі сучаснай навукі — адкрыццём атамнай энергіі. Свет непакоіць неадчэпная думка аб новым Яга, які кіруе палётам ракеты, начыненай тэрмаядзернай смерцю. Фантазіі паэта ўяўляецца спустошанае жыццё зямлян:

Вдоль мёртвых рек, по мёртвым городам
Один, один в осиротевшем мире
Идет последний человек Адам.

Нет музыки. И мысли нет. Нет слова.
Шекспира нет. Нет мудрого Толстого.
Нет в мире больше ни добра, ни зла.

Гэта радкі з паэмы Давыда Кугульцінава «Бунт розуму». Паэма надрукавана ў лютаўскім нумары «Нового мира» за 1972 год у перакладзе Ю. Нейман і здаецца мне значнай з'явай у савецкай паэзіі. Маштаб паэтычнага мыслення і канцэпцыя аўтара, яго пранікненне ў псіхалогію героя такія, што яны здымаюць першапачатковую насцярожанасць, а магчыма, і недавер да факту напісання буйнай рэчы, падзеі якой разгортваюцца ў далёкай, чужой для аўтара краіне.

Сюжэт паэмы просты. Сям'ю амерыканскага доктара Адама Крэйзі напаткала няўцешнае гора — у В'етнаме загінуў адзіны сын — Томас. Гучыць моцартаўскі «Рэквіем» над металічнай труной. Каля дзвярэй сядзіць прыгнечаны горам бацька Томаса — Адам Крэйзі, намагаючыся асэнсаваць тое, што адбылося, і ўсё сваё жыццё, жыццё доктара і салдата, які зазнаў цяжкія выпрабаванні другой сусветнай вайны. З фашысцкага лагера яго вызвалілі савецкія салдаты. «Дарэчы, можа быць, сказаць якраз,— заўважае аўтар паэмы,— што вызвалілі лагер гэты самы мае сябры... Ад іх у першы раз пачуў і я пра лёс цяжкі Адама». Так паступова

і не спяшаючыся, нібы з вуснаў сваіх сяброў, расказвае паэт чытачу біяграфію героя.

Гучыць урачыста-жалобная музыка «Рэквіема», змяняецца варта, а разам з ёй на змену аднаму ўспаміну прыходзіць другі. Адам Крэйзі вяртаецца на радзіму, і неўзабаве яго ў складзе медыцынскай часці накіроўваюць у разбураную атамнай бомбай Хірасіму. Тут ён сустракаецца з дзяўчынкай Наміко. На твары, забінтаваным белай марляй, чарнеюць дзве шчылінкі «для рта её, для глаза одного...» — «о, што зрабілі, божа мой, з табою?! — усклікнуў ён...— не з ёй, не з ёй зусім ён гаварыў— хутчэй з яе бядою!..». У адказ Адам пачуў апавяданне Наміко:

— Другой, другой была я до сих пор.
Была я непослушна и упряма.
С ежом играть не разрешала мама,
А я сбежала к ежику во двор.
И это с неба увидали боги.
Мне говорила мама: боги строги.
И рассердились боги на меня.
И на меня швырнули столб огня,
И я тогда другою стала сразу...—
Из черного единственного глаза
Слеза сбежала по бинтам тугим...
Адам отер ее. Он стал другим.

Сцэна гэта, безумоўна, самая моцная ў першай частцы паэмы, робіць уражанне не толькі эмацыянальнай праўдзівасцю дэталяў, але і той паступовай плынню жалобы і гневу, што суправаджае ўспамін, у якой розум доктара спрабуе адшукаць «першапрычыну бед людскіх».

Свядомасць Адама Крэйзі ўваскрашае гэтую сустрэчу, якая, магчыма, была б ім забыта, калі б не гібель сына Томаса. Трагедыя асуджанай Наміко злілася з яго асабістай трагедыяй.

«Тростиночка!.. Ты гибнешь, засыхая.
Что им, всесильным, наших душ сродство?!
Но стоит ли грызня их волчьей стаи
Одной слезы из глаза твоего?..»

Словы пра «воўчую зграю» не выпадковыя ў дадзеным кантэксце. З воўчай зграяй Адам Крэйзі пазнаёміўся ў фашысцкіх лагерах, і злачынствы, што адбываліся там, і злачынствы, якія загубілі Томаса і Наміко, уяўляюцца яму звеннямі ў адзіным ланцугу бед людскіх. Хто ж вінаваты ў іх? «Той вінаваты,— думае Адам,— хто ўзаконіў права рабаўніка і, цягнучы ў сваё жытло здабычу лапаю крывавай, упершыню апавясціў: «Маё!» У спакучанай душы Крэйзі нараджаецца трывога за зямлю, падзеленую межамі варожасці, за краіны, дзе існуюць гэтыя яўныя і тайныя межы, ёсць бедныя і багатыя, кварталы белых і чорных.

Адама Крэйзі не пакідаюць балючыя думкі аб першапрычыне зла, аб свеце, які раздзіраюць на часткі крывавыя сваркі і спрэчкі. Пустыня Хірасімы не дае яму спакою.

Пахаваўшы сына, Адам Крэйзі цягнецца думкаю да Томаса, чытае і перачытвае яго салдацкі дзённік. Але старонкі дзённіка, на якіх адлюстраваны жахі і злачынствы пагібельнай для Томаса вайны, яшчэ больш развярэджваюць раны і абпальваюць душу.

Адам Крэйзі трызніць, не знаходзіць сабе месца, то спрабуе ўцячы ад страшных прывідаў навакольнай рэчаіснасці ў перажытыя некалі гады, то, кідаючы выклік цёмным сілам мінулага, зноў вяртаецца ў сённяшні свет. Ідзе напружаная да апошніх намаганняў барацьба чалавека з ахапіўшай яго агоніяй вар'яцтва. Розум не вытрымлівае няроўнага паядынку з шалёным светам, і жонка Адама, Катрын, адвозіць яго ў псіхіятрычную бальніцу.

Новы паварот у лёсе героя надае новае гучанне паэме, яна быццам набывае другое дыханне. Бурны і магутны каскад вобразаў і думак шчодра кідае на чытача паэт, завяршаючы задуму паэмы. Яе герой, Адам Крэйзі, страціўшы розум, набывае раптам дар празорцы. Ён па-новаму, глыбока і праўдзіва, не толькі заглядвае ў свой лёс і ў лёс Томаса, але і пранікае ў таямніцы дагістарычнага жыцця Зямлі, знаходзячы ў іх пацвярджэнне сённяшнім бедам чалавецтва. Вар'яцтва Крэйзі па сіле выяўлення і маштабнасці нагадвае вар'яцтва караля Ліра, які, па вядомаму вызначэнню Гегеля, у сваім шаленстве стаў усё разумець. Уся другая частка паэмы — бясспрэчны доказ мастацкай спеласці і сілы паэтычнага слова Давыда Кугульцінава.

Аб гэтым сведчыць яшчэ адзін нечаканы і на гэты раз кульмінацыйны паварот у лёсе героя паэмы. Ён адбыўся ў часе атамнай трывогі, калі два дужыя санітары кінулі Адама Крэйзі ў сутарэнне. Аб гэтым здарэнні Адам Крэйзі так расказвае сваёй жонцы:

Что приключилось нынче там, в подвале…
Ты помнишь — мы с тобою толковали
О миробомбах у меня в мозгу?..
Когда была объявлена тревога,
В моей крови скопилось бомб так много,
Что, только лишь меня столкнули вниз,
Они друг к другу начали стремиться,
Как синхрофазотронные частицы,
Соединились вместе, сопряглись
И пропитали мой состав природный
Металлом с водородом пополам…
И больше я — не Крейзи, не Адам…
Отныне стал я бомбой водородной,
Такой, что я могу весь мир взорвать
И время обратить к началу — вспять!

Подумай только! — с нынешнего дня
Судьба людей зависит от меня…

Тут і высвятляецца канчаткова, што і выбар аўтарам месца дзеі паэмы, і выбар героя не выпадковыя і апраўданы значнасцю размовы паэта аб самых важных падзеях веку — аб другой сусветнай вайне, аб так званых лакальных канфліктах нашага часу, аб пагрозе атамнай вайны.

Такім чынам, Адам Крэйзі ўжо не Адам... Ен ператварыўся ў вадародную бомбу, якая можа ўзарваць свет. Дзеля ўратавання чалавецтва герой паэмы адважваецца на ўцёкі з псіхіятрычнай бальніцы, каб назаўсёды згінуць у глыбіні акіяна разам з «праклятай бомбай», што знаходзіцца ў ім. Уцёкамі з бальніцы і гібеллю Адама заканчваецца гэтая трагедыя, бунт «скромнага простага чалавека», што не знайшоў яшчэ іншых актыўных шляхоў барацьбы з насіллем, злом і крывадушным, якія пануюць у вар'яцкім свеце капіталізму.

Тэма пагрозы атамнай вайны і звязаных з ёй пакут чалавецтва, што прыцягнула ўвагу Давыда Кугульцінава, неаднойчы вырашалася ў творах савецкіх паэтаў і, можа быць, у нейкай меры страціла сваю навізну. Тым больш робіць уражанне бясспрэчны поспех Кугульцінава. Не новую для чытача размову паэт перанёс у сферу псіхалагічную. І зрабіў правільна. Бо, як заўважыў яшчэ Пушкін, «уяўленне прывыкае да забойстваў і пакаранняў, глядзіць на іх ужо раўнадушна, паказ жа гарачых пачуццяў і шчырых выказванняў душы чалавечай для яго заўсёды новае, заўсёды займальнае, вялікае і павучальнае».

Да шчырых выказванняў раненай бедамі свету душы Адама Крэйзі чытач не можа паставіцца раўнадушна. Яны народжаны сучаснасцю і таму новыя, значныя і павучальныя.

*1972 г*

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ З ЛЕРМАНТАВЫМ

У пачатку 1940 года, да стагоддзя з дня смерці М. Ю. Лермантава, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва распачало работу па выданню выбраных твораў паэта на беларускай мове. Прапанавалі і мне, тады яшчэ маладому паэту, прыняць удзел у цяжкой і пачэснай рабоце. І хаця да гэтага часу ў маім творчым актыве быў пераклад «Цыганоў» А. С. Пушкіна, прызнаюся, з пачуццём трапяткой нясмеласці сустрэў я гэтую прывабную і адказную прапанову. Калі ж я даведаўся, што паэмы Лермантава «Дэман» і «Мцыры», уключаныя ў аднатомнік, аддадзены для перакладу іншым паэтам, а мне прапануецца перакласці ўсе найбольш вядомыя вершы паэта, маё рашэнне завагалася, як шалі, на якія развага кідала то смелую рашучасць, то баязлівую няўпэўненасць.

Я думаў аб тым, што вершы Лермантава ўсе ведаюць на памяць з дзіцячых год, што ўсе яны непадобныя адзін на другі, што кожны з іх — свой адменны эмацыянальны свет, у які кожны раз трэба будзе ўваходзіць спачатку. Затое колькі ў іх сапраўднага сур'ёзнага пачуцця, неспакою, вечна маладой прагі жыцця, якая гэта чыстая, магутная і творча ўзбагачаючая крыніца!.. Ад прапановы я не адмовіўся, але канчатковы адказ абяцаў даць праз месяц. А сам тут жа пачаў перакладаць, праўдзівей кажучы,— спрабаваць сілы: ці атрымаецца? Гэта ж не жарты — мне трэба было, у пэўным сэнсе, прайсці ўвесь шлях паэта, хваля-

ваццa яго хваляваннямі, жыць, думаць і перажываць так, як ён: гнеўна адгукацца на злачыннае забойства Пушкіна, пісаць гімн абаронцам Барадзіно, жыць выгнаннікам на Каўказе, вяртацца адтуль і зноў ехаць туды з цяжкім прадчуванне?! гібелі; напісаць прарочы верш аб ёй. Наперадзе ў мяне была сустрэча з самім Лермантавым. І да таго ж — не першая: я ўжо двойчы, калі так можна сказаць, сустракаўся з любімым паэтам.

Першая мая сустрэча была завочнай.

Яна адбылася амаль паўвека назад, калі я не ўмеў не толькі чытаць і пісаць, але нават хадзіць і размаўляць як след не навучыўся. Гэта быў узрост, аб якім усе людзі, што жывуць на зямлі, маюць далёкае і цьмянае ўяўленне і мяркуюць аб ім галоўным чынам па ўспамінах родных і знаёмых. Дык вось, калі верыць успамінам маіх бацькоў, знаў Лермантава я літаральна з калыскі, з таго самага моманту, калі сярод іншых цацак і забавак увага мая спынілася на хатнім альбоме. То быў альбом пісьменнікаў — дадатак да часопіса «Пробуждение», які выпісвалі мае бацькі — вясковыя настаўнікі. Добра і нават багата аформлены, ён, можна сказаць, пазнаёміў мяне з гісторыяй рускай літаратуры ў асобах. Хутка я беспамылкова адрозніваў Жукоўскага ад Пушкіна, Лермантава ад Някрасава, Тургенева ад Талстога, Горкага ад Леаніда Андрэева. Чамусьці асаблівай маёй увагай, любоўю і прызнаннем карысталіся Пушкін і Лермантаў, яны адразу і цвёрда ўвайшлі ў мой калысковы лексікон. Не таму, вядома, што я ўжо тады прадчуваў нялёгкі лёс перакладчыка іх твораў на беларускую мову. Жарты жартамі, але, як знаць, можа б, і іншай была мая будучая любоў і цяга да літаратуры без гэтага завочнага знаёмства.

І вось, калі я ўжо вучыўся ў другім класе, умеў

чытаць і пісаць, і нават рыфмаваць, і ўжо тое-сёе зрыфмаванае заносіць у таемны сшытак, адбылася мая другая па ліку сустрэча з Лермантавым. На гэты раз пазнаёміла нас і здружыла жывое, бурлівае, як горны струмень, слова паэта — яго «Мцыры». Не ведаю, як моцна ўзяты я быў бы ў палон гэтай паэмай, калі б нарадзіўся на Каўказе і жыў у гэты час сярод яго прыроды, але тут, у засені школьных акацый, далёка ад экзатычных для мяне мясцін, я быў ахоплены нейкім незразумела-таямнічым і чараўнічым хваляваннем, я ўвесь палаў, як у агні, музыка і палымянасць лермантаўскага верша гарачылі маю кроў... Калі я дачытваў паэму, з вачэй ліліся слёзы, і я не мог стрымаць іх. Ці то лёс бяздомнага юнака, сілаю запёртага ў манастыр, ці краса і прыгажосць свету і паэзіі, якія раптам адкрыліся мне, магутная прырода горнай краіны, якую я ўжо горача і на ўсё жыццё палюбіў, ці то ўсё гэта, разам узятае, так ярка і моцна ўсхвалявала маё ўяўленне. Літары мільгалі, скакалі перад вачыма, і я ніяк не мог дачытаць да канца вядомыя радкі:

Калі пачну я паміраць —
І, вер, не доўга ўжо чакаць,—
Няхай мяне перанясуць
У любы кут мой, дзе цвітуць
Акацый белых два кусты...
Там шоўк травы такі густы!

Быў май. Нада мной гэтак жа цвілі белыя акацыі, і мне здавалася, што я далёка-далёка ад родных мясцін, там, дзе:

...ззяе промень залаты
На лісцях, свежасцю вакол
Там вее ўсё — і высь і дол.
І там пакласці загадай

Мяне. Блакітны небакрай
Убачу я ў апошні раз.
Адтуль зірну я на Каўказ!

Паэма дачытана, адхлынула першае непаўторнае хваляванне... І тут, нечакана для сябе, з поўнай выразнасцю і недзіцячай адказнасцю, я пачынаю разумець, што пазнаёміўся з чымсьці вельмі важным і істотным, што цяпер лёс мой вырашаны — я павінен прысвяціць сваё жыццё гэтаму істотна-важнаму, толькі яму...

Мінаюць гады, я пішу, друкуюся. У перакладзе на рускую мову выходзіць мой першы зборнік «Дуброва», на які звярнула прыхільную ўвагу ўсесаюзная крытыка. І ўсё ж напісанае мною здаецца занадта святочным і заспакоеным. Нібыта і знойдзены свой ключ, а толькі не да ўсіх дзвярэй ён падыходзіць. Ці так ужо добра, раскавана і святочна цячэ наша жыццё? А гэтыя хмары на Захадзе, ці не нясуць яны блізкую буру? Пісаць так, як пісалася паўгода, год назад, ужо не хочацца, а новае яшчэ не выспела.

І тут я зноў, у трэці раз, сустракаюся з Лермантавым. Пераклады яго вершаў захапілі мяне. Я быццам бы ўпершыню адкрываў для сябе паэта. Вось дзе ўсё поўна бур, трывог. А якая прага жыцця ў кожным слове, як усё па-новаму хвалюе і як выразна і надзённа гучаць у шмат якіх радках трагічныя пытанні даўно мінулых дзён:

Ніхто з сяброў не крочыў за труной...
Мір сэрцу мужнаму, мой любы Саша!
Укрытае чужых палёў зямлёй,
Хай нема спіць яно, як дружба наша
У могільніку памяці маёй.

Я перакладаў вершы, прысвечаныя звароту з выгнання, напісаныя больш чым сто год назад, але

чаму ж яны так хвалявалі, непакоілі, прымушалі думаць і перажываць:

Альбо на могілках халодных
Наведаю, як позні госць,
Я прах сяброў высакародных,
Са мной дзяліўшых маладосць?
О калі так! Ліхой віхурай,
Казбек, засып мяне хутчэй
І па сваёй цясніне хмурай
Без жалю тло маё развей.

Перакладаючы, я яшчэ глыбей учытваўся сэрцам у гэтыя і іншыя вершы, рабіў іх сучаснымі ў свядомасці і ў новым — беларускім — іх вымаўленні. Тады ж я звярнуў увагу на своеасаблівы рытм верша «Ад роднай галінкі дубовы лісток адарваны» і падумаў: а што, калі гэты радок павялічыць на адзін склад? І запісаў для сябе:

Як ад роднай галінкі дубовы лісток
адарваны...

Праз год пачалася Айчынная вайна, а яшчэ праз год, калі поўнасцю выспела задума паэмы «Сцяг брыгады», я так і пачаў яе гэтым радком. Рытм, як выявілася, быў на дзіва рухомы, ёмісты, адразу паказаў новыя свае схаваныя магчымасці, якія выкрасаліся ў сутыкненні з вайной — жыццём, поўным пакут і гора народнага.

Пераклады ж вершаў Лермантава, здадзеныя ў друк у чэрвені 1941 года, так і не пабачылі свету. Яны загінулі ў полымі вайны, загінулі бясследна. Аднак бясследна толькі для беларускага чытача, а не для мяне. І тут справа, вядома, не толькі ў рытме «Сцяга брыгады», справа ў тым, што трэцяя сустрэча з Лермантавым, творчая блізкасць з магутнай і чыстай крыніцай яго паэзіі зрабілі плённы, працяглы ўплыў на мяне. Гэтая творча-духоў-

ная сувязь адкрыла мне вочы на многае, надала мне ўпэўненасці ва ўласных сілах і шмат у чым вызначыла далейшы кірунак маёй паэтычнай работы.

І яшчэ. Яна — гэтая трэцяя мая сустрэча з Лермантавым — увесь час непакоіла мяне, патрабавала працягу. Думка вярнуцца да перакладаў твораў паэта была такой штодзённа-настойлівай, што нарэшце зноў паклікала мяне да пісьмовага стала. У апошні час я пераклаў усе найбольш вядомыя вершы Лермантава, а таксама паэмы «Мцыры» і «Дэман». Цяпер яны асобным томікам пад назвай «Выбраная паэзія М. Ю. Лермантава» выдадзены выдавецтвам «Беларусь». Над вершамі і паэмамі Лермантава я працаваў з ранейшай натхнёнай аддачай сіл, з жаданнем замацаваць на паперы і завяршыць пачатую некалі сустрэчу, дамагчыся таго, каб мой любімы паэт паўнакроўна і паэтычна загучаў на беларускай мове.

*1969 г*

# РАБОТА НАД ПЕРАКЛАДАМ «ЯЎГЕНІЯ АНЕГІНА»

Агульнавядомы той велізарны ўплыў геніяльнага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, які ён зрабіў сваёй творчасцю на развіццё многанацыянальнай літаратуры Савецкага Саюза.

Асабліва вялікі ўплыў Пушкіна на беларускую літаратуру як дарэвалюцыйнага, так і паслярэвалюцыйнага часу.

Творы Пушкіна, дзякуючы роднасці беларускай і рускай мовы, пашыраны ў самай гушчы нашага народа. Не перабольшваючы, можна сцвярджаць, што хрэстаматыйныя вершы, паэмы, казкі паэта з'яўляюцца любімымі творамі чытача. Іх не толькі чытаюць у арыгінале, але і завучваюць на памяць. Яшчэ большую вядомасць набылі творы паэта ў Беларусі пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая дала раней прыгнечанаму народу ўсе магчымасці для стварэння культуры, сацыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме. Ёсць вялікі сэнс у тым факце, што ўпершыню творы Пушкіна шырока загучалі на беларускай мове ў савецкі час. Напярэдадні сотай гадавіны з дня смерці А. С. Пушкіна Янка Купала пераклаў яго паэму «Медны коннік», Якуб Колас — «Палтаву», Кузьма Чорны — «Аповесці Белкіна», Пятро Глебка — «Барыса Гадунова».

Роднасць і блізкасць рускай і беларускай моў патрабавала і патрабуе дадатковай адказнасці ад пісьменнікаў, якія бяруцца за пераклады твораў

Пушкіна на беларускую мову. Перакласці агульнавядомы верш альбо паэму Пушкіна — азначае вытрымаць экзамен на паэтычную сталасць і майстэрства перад шырокім і надзвычай патрабавальным чытачом. Недасканалы, не кажучы ўжо неахайны, пераклад кампраметаваў бы не толькі славуты твор, але і саму ідэю перакладу, яго мэтазгоднасць. З'яўленне таленавітых перакладаў шматлікіх твораў генія рускай літаратуры сведчыць аб высокім узроўні беларускай сацыялістычнай культуры, аб яе магутным уздыме і росквіце, аб дасканаласці яе творцаў і багатых выяўленчых магчымасцях літаратурнай мовы.

За апошні час у справу перакладаў паэзіі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна ўключыліся многія беларускія савецкія паэты. Сярод іх мы сустракаем імёны Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Аляксея Зарыцкага, Максіма Лужаніна і інш. Яшчэ ў 1939 годзе адважыўся і я паспрабаваць свае сілы ў гэтай адказнай і нялёгкай справе. Мною тады была перакладзена паэма Пушкіна «Цыганы» і распачата работа над перакладам «Яўгенія Анегіна», якая і была закончана вясною 1941 года. Пераклад «Яўгенія Анегіна» павінен быў выйсці з друку ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, але ўжо вычытаныя мною гранкі, як кажуць, рассыпала і расплавіла вайна.

Калі я летам 1944 года прыехаў у Мінск, першым маім клопатам было адшукаць сляды перакладу «Яўгенія Анегіна». На жаль, усе мае спробы былі дарэмнымі. Рукапіс знік, згарэлі таксама і чарнавікі, пакінутыя мною ў кватэры ў дні адыходу з Мінска. Уцалела толькі чатырыста радкоў, надрукаваных перад вайной у часопісе «Полымя», з шостага раздзела рамана ў вершах. Я вырашыў перакласці «Яўгенія Анегіна» нанова. Шкада было

шматгадовай працы, патрачанай марна. У той час мне здавалася, што, калі я пачну перакладаць, у працэсе работы многае ўспомніцца, усплыве, так сказаць, з падсвядомага, і я лёгка змагу шмат што аднавіць. Калі ж я пачаў перакладаць, то пераканаўся, што мае разлікі не апраўдаліся. Вядома, некаторыя радкі аднаўляліся, але гэта былі толькі асобныя нязначныя астраўкі сярод бязмежнага акіяна, які хаваў пад сабой астатні велізарны кантынент. Я хутка ўбачыў бясплённасць спроб, чаго б там ні каштавала, аднавіць, успомніць былыя варыянты радкоў. Куды лягчэй было перакласці нанова. На гэта, бясспрэчна, ішло менш і часу і энергіі, таму што гэта быў працэс творчы. Пераканаўшыся ў марнасці надзей на дапамогу падсвядомага, я не пакінуў перакладаць і паступова ўцягнуўся ў работу, захапіўся, адчуў, што набытае з гадамі майстэрства і вопыт робіць яго больш спелым і паўнакроўным. Так, прынамсі, мне тады здавалася за рабочым сталом.

Відавочна, і даваенная работа над перакладам «Яўгенія Анегіна» дапамагала мне. Мінулы творчы вопыт не прапаў дарэмна, ён выпрацаваў у мяне патрэбны навык, падыход. Перакладаючы нанова «Яўгенія Анегіна», я ўжо не баяўся ў такой меры, як раней, пушкінскага тэксту, не баяўся адступленняў ад літары, мяне радавала і натхняла, калі раптам радкі, якія даўно лічацца хрэстаматыйнымі, гэтак жа ці амаль гэтак жа проста і эмацыянальна пачыналі гучаць па беларуску:

Блукаючы далёкім светам,
Масква мая, у горкі час
Я ўспамінаў цябе не раз!
Масква… як многа ў слове гэтым
Для сэрца рускага чутно!
Як многа будзіць дум яно!

У новым перакладзе я смялей ішоў на ажыццяўленне пастаўленай перад сабой задачы — творчага, а не парадковага прачытання і пераўвасабленьня пушкінскіх строф, памятаючы словы аўтара «Яўгенія Анегіна» аб тым, што парадковы пераклад ніколі не можа быць правільным. Даводзілася пераадольваць і яшчэ адну, спецыфічную, цяжкасць: заманлівую блізкасць рускай і беларускай моў. Блізкасць гэта ў асобных выпадках, амаль дакладна перадаючы сэнс, часта пераходзіла ў сваю супрацьлегласць, гэта значыць рабіла такі даслоўны пераклад непаэтычным. У часе работы над перакладам мне даваліся і вусна і ў друку парады па магчымасці прытрымлівацца дакладнасці, імкнуцца захаваць сэнс кожнага слова. Вось адна з такіх парад, выказаная ў той час у рэспубліканскай газеце: «Мы ў перакладах яго («Яўгенія Анегіна») на мовы народаў Савецкага Саюза павінны дакладна і з любоўю перадаць сэнс кожнага пушкінскага верша і кожнага яго слова». Гэтая думка аўтарам артыкула падкрэслівалася некалькі разоў, і на ёй варта спыніцца, бо ад правільнага вырашэння яе залежыць поспех альбо няўдача перакладу. Сапраўды, перакладчык павінен імкнуцца па магчымасці дакладна і з любоўю аднавіць на іншай мове сэнс кожнага верша і кожнага слова. Бываюць шчаслівыя выпадкі амаль дакладнага супадзення. Такая ўдача выклікае найбольшае задавальненне і паэта-перакладчыка і, трэба думаць, чытача. Як прыклад дазволю сабе прывесці 46 страфу з апошняга раздзела «Яўгенія Анегіна». Вось як гучыць размова Тацяны з Анегіным у часе іх фінальнага спаткання: У арыгінале:

— А мне, Онегин, пышность эта,
Постылой жизни мишура,

Мои успехи в вихре света,
Мой модный дом и вечера,
Что в них? Сейчас отдать я рада
Всю эту ветошь маскарада,
Весь этот блеск, и шум, и чад
За полку книг, за дикий сад,
За наше бедное жилище,
За те места, где в первый раз,
Онегин, видела я вас,
Да за смиренное кладбище,
Где нынче крест и тень ветвей
Над бедной нянею моей...

У перакладзе:

— А мне, Анегін, бляск і ззянне
Жыцця нялюбай мішуры,
Маё пустое красаванне,
Мой модны дом і вечары,
Што ў іх? Цяпер аддаць я рада
Усю нікчэмнасць маскарада,
Увесь і бляск, і шум, і чад
За шафу кніг, за дзікі сад,
За бедны дом, прысады тыя,
За той куток, дзе ў першы раз,
Анегін, бачыла я вас,
Яшчэ за могілкі старыя,
Дзе сёння крыж і засень хвой
Над беднай няняю маёй...

Мною падкрэслены тыя радкі і выразы, якія па слоўным матэрыяле не супадаюць поўнасцю з арыгіналам, але, на маю думку, правільна перадаюць яго сэнс. Сапраўды, хіба іранічныя словы Тацяны аб яе поспехах у вялікасвецкім віхры гэта не тое ж пустое красаванне ў нялюбым ёй жыцці? Хіба прысады — не тыя мясціны, дзе яна сустракала Анегіна і дзе атрымала ад яго жорсткі і балючы адказ на сваё дзявочае прызнанне ў каханні? А хіба старыя могілкі і засень хвой з меншай эмацыянальнай сілай падкрэсліваюць яе цяперашнюю горыч і адзіноту?

Пераклад — справа творчая. Паэт, які бярэцца за яе з намерам захаваць сэнс *кожнага слова*, хутка пераканаецца, што ён выправіўся ў дарогу, дзе нечаканасці і небяспекі падпільноўваюць яго на кожным кроку. Перад ім узнікне безліч пытанняў. Самае элементарнае з іх: што рабіць, калі дакладна перакладзенае слова пярэчыць сэнсу арыгінала, прыходзіць з ім у неадпаведнасць? Яшчэ ў 1936 годзе, перакладаючы «Цыган», я сустрэўся з месцам, дзе Пушкін параўноўвае красуню з «луной». Як быць? Параўнаць красуню з *месяцам* немагчыма таму, што месяц можа пакрыўдзіцца: ён усё ж такі асоба мужчынскага роду. Давялося, насуперак самому Пушкіну, тэрмінова паклікаць на дапамогу «зорку» і адначасова змяніць усе словы і параўнанні, якія характарызуюць асаблівасць «луны», замяніўшы іх словамі і параўнаннямі, характэрнымі ў такім выпадку для зоркі. У першым раздзеле «Яўгенія Анегіна» ёсць страфа, дзе Пушкін дае наступную характарыстыку Анегіну:

Бранил Гомера, Феокритя:
Зато читал Адама Смита
И был глубокий эконом,
То-есть умел судить о том,
Как государство богатеет,
И чем живет, и почему
Не нужно золота ему,
Когда простой продукт имеет.
Отец понять его не мог
И земли отдавал в залог.

Слова «государство» перакладаецца словам «дзяржава». Але «дзяржава» — жаночага роду, а для таго, каб больш дакладна і поўна выказаць тое, што выказаў у сваёй страфе Пушкін, пажадана замяніць слова «дзяржава» словам мужчынскага альбо сярэдняга роду. Зноў цяжкасць. Давялося

забракаваць нямала варыянтаў, покуль не знайшлося і не стала на сваё месца адпаведнае слова, даўшы патрэбную афарбоўку ўсёй страфе:

Гамера бэсціў, Феакрыта;
Але чытаў Адама Сміта,
І знаўцай стаўся неблагім,
І разважаць умеў аб тым,
Як лад дзяржавы расцвітае,
І як мацнее, і чаму
Не трэба золата яму,
Калі прадукт звычайны мае.
Не верыў бацька ў гэткі лад
І аддаваў зямлю ў заклад.

Тут слова «государство» заменена словам «лад» (дзяржава), што адначасова дапамагло вырашыць і яшчэ адну цяжкасць, якая вынікала з апошніх радкоў страфы, дзе да слова «заклад» не проста было адшукаць натуральную рыфму. Апрача ўсяго, новае паняцце **лад дзяржавы,** якое з'явілася ў перакладзе, патрабавала, як і ў выпадку з **зоркай,** дадатковых дзеяслоўных характарыстык,— «мацнее і расцвітае».

Асаблівасці моў, рознае ў розных мовах гукавое адценне і эмацыянальная афарбоўка аднаго і таго ж слова маюць першаступеннае значэнне пры рашэнні той ці іншай канкрэтнай задачы. Як, скажам, перакласці з найменшымі стратамі такія агульнавядомыя, крылатыя пушкінскія радкі, пераклад якіх я прывёў у пачатку артыкула?

Москва... как много в этом звуке
Для сердца русского слилось!
Как много в нем отозвалось!

Была спакуса як мага дакладней захаваць першы радок. Выпісаны магчымыя яго варыянты:

Масква... як многа ў гэтым гуку...
Масква... як многа ў гуку гэтым...
Масква... як шмат у гэтым гуку...
Масква... як шмат у гуку гэтым...

Хоць усё дакладна і правільна, але не цяжка зразумець, што ва ўсіх варыянтах траціцца паэтычнасць пушкінскага радка. Замаруджаны рытм нагадвае грукат колаў на глыбокіх каляінах нялёгкай дарогі. Перашкаджае цяжкае на слых спалучэнне слоў «у гэтым гуку», якое ў арыгінале ўспрымаецца, як музыка — лёгка і раскавана. Чым замяніць няўдалае спалучэнне? Зрабіць у «назве гэтай» — гучыць казённа і не ўрачыста, «у гэтым клічы» — не зусім дарэчы. Чакайце, а хіба вымаўленае ўслых і пачутае сэрцам слова Масква, не выклікае ў чытача тых жа гукавых асацыяцый, якімі багаты падтэкст арыгінала? З далейшага пошуку і нарадзілася іншае, больш паэтычнае рашэнне:

Масква... як многа ў слове гэтым
Для сэрца рускага чутно!
Як многа будзіць дум яно!

Ці мае права перакладчык на такія, а часам і больш смелыя, адхіленні? Бясспрэчна. І ў імя любві і павагі да арыгінала. «Блізкасць да арыгінала,— чытаем мы ў Бялінскага,— у тым, каб перадаць не літару, а дух твора. Кожная мова мае свае, што належаць ёй адной, сродкі, асаблівасці і ўласцівасці да такой ступені, што для таго, каб перадаць правільна які-небудзь вобраз альбо фразу, у перакладзе часам іх неабходна зусім змяніць. Адпаведны вобраз гэтак жа, як адпаведная фраза, знаходзяцца не заўсёды ў відавочнай адпаведнасці слоў: трэба, каб унутранае жыццё перакладнага адлюст-

равання адпавядала ўнутранаму жыццю арыгінальнага...» (В. Бялінскі. Збор твораў выд. Фукса, т. V, стар. 381).

Такой жа думкі аб перакладах і А. С. Пушкін: «Падрадковы пераклад ніколі не можа быць правільным. Кожная мова мае свае звароты, свае ўмоўленыя рытарычныя фігуры, свае засвоеныя выразы, якія не могуць быць перакладзены на другую мову адпаведнымі словамі» (А. С. Пушкін, Поўны збор твораў, «Акадэмія», 1936 г.).

Заўвага Бялінскага: «каб перадаць які-небудзь вобраз ці фразу, у перакладзе часам іх неабходна зусім змяніць», як я пераканаўся, поўнасцю стасуецца і да перакладаў з рускай мовы на беларускую. Таму, з самага пачатку работы над перакладам «Яўгенія Анегіна», я не пайшоў па шляху штучнага захавання сэнсу кожнага слова. Гэта было б недарэчна. Захаваць сэнс кожнага слова немагчыма нават у тым выпадку, калі разумець пад гэтым захаванне сэнсу найбольш важных слоў арыгінала. Немагчыма гэта таму, што ў арыгінале ўсе словы маюць аднолькавую вартасць. З прычыны ж немагчымасці даслоўнага перакладу ўзаемасувязь слоў парушаецца, шмат якія з іх даводзіцца замяняць іншымі словамі. Паспрабуйце ў такім разе вызначыць, якое слова арыгінала найбольш важнае. Аднаму будзе здавацца, што важна захаваць адно слова, другому — другое. Неспакушаным чытачам і крытыкам звычайна ў такіх выпадках здаецца, што найбольш істотным і важным словам з’яўляецца якраз тое, якое выпала ў перакладзе і перакладзена не даслоўна — заменена іншым. З гэтай прычыны пры азначэнні блізкасці перакладу да арыгінала мне даводзілася зыходзіць не з відавочнай адпаведнасці слоў, а з таго, ці адпавядае, скажам, унутранае жыццё перакладзенай

пушкінскай страфы ўнутранаму жыццю арыгінальнай. Такое патрабаванне прад'яўлялі перакладу мастацкага твора ў свой час Пушкін і Бялінскі, яно застаецца ў сіле і на сёння.

Работа над перакладам «Яўгенія Анегіна», бясспрэчна, узбагаціла мяне як паэта. Я ўпэўнены, што пераклады класічных твораў, а ў асаблівасці паэзіі Пушкіна, для кожнага паэта могуць з'явіцца школай паэтычнага майстэрства. Па-сапраўднаму творча перакладаць Пушкіна — гэта значыць у некаторай меры ўступаць з ім у адзінаборства. І хай сабе з такога спаборніцтва пераможцам выйдзе ўсё ж такі Пушкін, але ўжо тое, што набыў паэт, духоўна збліжаючыся з ім, творча ўваходзячы ў яго асаблівасці, ужо адно гэта на многія і многія гады ўзбагачае паэта-перакладчыка. Такі пераклад для паэта адначасова з'яўляецца ні з чым не параўнанай вучобай, а павучыцца ў Пушкіна ёсць чаму. Гэта, у першую чаргу, прастаце, народнасці, высока інтэлектуальнаму погляду на чалавека і свет, у якім ён жыве, любві да прыроды, натуральнасці выяўленчых сродкаў, высокай народнасці. Асабліва здзіўляе ў Пушкіна ўласцівасць яго таленту, што заключаецца ў тым, каб рабіць паэзіяй з'явы, на першы погляд, празаічныя. Пад пяром Пушкіна ўсё навакольнае, усё будзённае ператвараецца ў небудзённае, паэтычнае. У гэтай якасці веліч яго таленту.

«Прызнаёмся: не без некаторай баязлівасці пачынаем мы крытычны разгляд такой паэмы, як «Яўгеній Анегін»,— пісаў вялікі рускі крытык В. Бялінскі,— і гэтая баязлівасць апраўдваецца многімі прычынамі... «Анегін» ёсць самы задушэўны твор Пушкіна, самае любімае дзіця яго фантазіі, і можна назваць вельмі мала твораў, у якіх індывідуальнасць паэта адлюстравалася б з такой

паўнатой, светла і ясна, як адлюстравалася ў «Анегіне» індывідуальнасць Пушкіна. Тут усё жыццё, уся душа, уся любоў яго; тут яго пачуцці, разуменні, ідэалы. Ацаніць такі твор, значыць — ацаніць самога паэта ва ўсім аб'ёме яго творчасці». І далей Бялінскі заўважае: «Не кажучы ўжо аб эстэтычных вартасцях «Анегіна», гэтая паэма мае для нас, рускіх, велізарнае гістарычнае і грамадскае значэнне».

Якая ж доля адказнасці кладзецца ў святле такой ацэнкі на тых, хто павінен усе гэтыя якасці паэмы захаваць у перакладзе на другую мову! Пачуццё адказнасці не пакідала і мяне ўвесь час, калі я працаваў над перакладам «Анегіна». Я ведаў, што пераклад не можа параўнацца з такім славутым і велічным арыгіналам. Але гэта не расхалоджвала мяне. Наадварот, я працаваў з захапленнем, з натхнёным парываннем, з поўным усведамленнем таго, што пераклад павінен паслужыць справе яшчэ большага братняга і духоўнага збліжэння рускай і беларускай культуры. Я імкнуўся, у меру сваіх паэтычных магчымасцяў, захаваць у перакладзе тыя якасці геніяльнага твора Пушкіна, якія адзначыў у прыведзеным вышэй выказванні В. Бялінскі. І я буду шчаслівы, калі мне ў якойсьці меры ўдалося гэта зрабіць.

*1947—1970 гг.*

## ЗМЕСТ

Крытычныянататкі

Куляшоў А.
К 90 Збор твораў у пяці тамах. Том 5. Мн.
«Маст. літ.», 1977.
512 с. з іл.

Пяты том Збору твораў Аркадзя Куляшова складаюць вершы і паэмы розных гадоў, а таксама крытычныя нататкі.

**70403—092**
К **М 302(05)-77** падпіснoe **Бел 2**

*Аркадий Александрович Кулешов*
Собрание сочинений в пяти томах
ТОМ ПЯТЫЙ
На белорусском языке

Рэдактар П. Ф. Прыходзька. Мастак М. С. Басалыга. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Е. У. Дзмітрыенка.

ИБ № 40
АТ 21021. Здадзена ў набор 13/VIII 1976 г. Падп. да друку 28/III 1977 г. Тыраж 8500 экз. Фармат 70х100 $^1/_{32}$ Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 20,64. Ул.-выд. арк. 17,97 л. Зак. 3507. Цана 1 руб. 73 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.
Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.